E-mail: nchas@promedia.by

# Новы Час

№ 1(6) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА 21 – 31 СТУДЗЕНЯ 2003 ГОДА

## Пазіцыя НЧ

### *Абавязак інтэлігенцыі*



**Алена Анісім,** галоўны рэдактар «Новага Часу»

З кожным новым годам адыходзіць усё далей у гісторыю самае крывавае і бязлітаснае ў гісторыі чалавецтва 20-е стагоддзе. Аднак аўтарытарныя метады вырашэння грамадскіх праблем, якія прынеслі ў мінулым шмат трагічнага, у многіх рэгіёнах свету яшчэ не сталі гісторыяй, а працягваюць існаваць у рэальным жыцці, нягледзячы на іх абсалютную непрымальнасць сусветнай дэмакратычнай супольнасцю. А так хочацца, каб адышлі ў нябыт сваркі і звадкі, каб у чалавечых і міждзяржаўных адносінах запанавалі ўзаемапавага і пашана. На жаль, у нашай краіне мала прычын для спадзяванняў на развіццё грамадства менавіта ў такім накірунку.

Працяг на стар. 3

# 85 гадоў таму



У сакавіку 1918 года ў гэтым будынку Рада БНР абвесціла Незалежнасць беларускай дзяржавы. Па іроніі лёсу гэтая лёсавырашальная падзея нашай гісторыі адбылася ў той самай зале, дзе ў 1913 годзе выстаўлялася экспазіцыя, прысвечаная 300-годдзю дома Рамазавых. Ды і сам будынак быў узведзены адмыслова пад тое юбілейнае святкаванне. Зразумела, што пры савецкай уладзе, якая выцiскала з народнай памяці ўсё, звязаная з абвяшчэннем і дзейнасцю БНР, пазначыць будынак ганаровай шыльдай было немагчыма. Не паклоапоціцца пра гэта і сённяшняя ўлада. Будынак аддадзены тэалагічнаму факультэту Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта, і што там будзе насамрэч, пакуль што невядома. Адсутнасць шыльдаў і помнікаў у гонар падзеяў 85-гадовай даўніны аднак не змяншае іх значнасць і не можа быць выкрэслена з айчыннай гісторыі, як таго б ні дамагаліся прыхільнікі бальшавізму.

У студзені 1918 года на перамовах у Брэсце з немцамі галава расійскай дэлегацыі Леў Троцкі, як засведчана ў пратаколах, даводзіў, што беларускі народ не прэтэндуе на дзяржаўнае існаванне і не можа ісці гаворкі аб нейкіх яго тэрытарыяльных азначэннях. У хуткім часе ленінскі ўрад расплаціўся Беларуссю за прыпыненне германскага наступлення на савецкую Расію. Здраджаная краіна ўратавала сябе праз палітычнае абвяшчэнне сваёй прысутнасці ў свеце. Менавіта ў тыя дні з'явілася Беларуская Рэспубліка. Усе наступныя 85 гадоў існавання БНР, БССР, РБ – гэта гісторыя барацьбы за незалежнасць і намаганняў адкрытых і прыхаваных пад рознымі лічынамі шавіністаў беларускую незалежнасць знішчыць ці сфальсіфікаваць. Юбілейныя даты проста не дазваляюць не аглядацца на праміну́лую прастору часу, на шматлікія ахвяры і страты, на значна меншыя здабыткі.

Зразумела, што за гэты час БНР у свядомасці і ў рэальнасці трансфармавалася рознымі высілкамі ў савецкую Беларусь, падзеленую паміж захопнікамі, потым з'яднаную, цяпер трансфармуецца ў нейкі дэмакратычна-буржуазны дзяржаўны арганізм, над якім вісіць пагроза далучэння то да «славянскай» дзяржавы, то да «саюзнай», усімі даступнымі сродкамі вынішчаецца галоўная аснова нацыянальнай біспекі – мова, і тым не менш ідэя і задача, з якіх узнікла БНР, застаюцца жывыя. Гэты юбілейны час – добрая нагода падумаць пра будучыню што будзе з нашай краінай, народам, з нашымі дзецьмі ў наступныя 85 гадоў?

## Вар`яцкі ўчынак

19 студзеня ў Палацы мастацтваў перад адкрыццём сходу прадстаўнікоў мінскай інтэлегенцыі меў месца выпадак, якога, варта падкрэсліць, не адзначана ў аналах усіх сходаў Беларусі за апошнія паўсотні гадоў. Станіслаў Шушкевіч, былы Старшыня Вярхоўнага Савета РБ, знаны палітычны дзеяч, доктар фізічных навук, паважаны чалавек, распавёў з трыбуны сходу, што ў часе рэгістрацыі да яго падышоў старшыня мінскага клуба "Спадчына" Анатоль Белы, сунуў у рукі паштоўку, выдадзеную яго ж імя Фондам, пасля чаго пры сведках ударыў кулаком у твар. Праз хвіліну дзікун Анатоль Белы быў выстаўлены за дзверы Палаца. "Сцеражыцеся гэтага праваказатара, – сказаў пра Белага Ст.Шушкевіч. – Гэта не інтэлегент і не беларус". Учынак Белага выклікаў агульнае абурэнне, бо сапраўды пахадзіў на спробу сарваць сход пры выпадку выкліку міліцыі, таму прапанова ад членаў яго клуба делегаваць Белага на Сход інтэлегенцыі, была рашуча адхілена на падставе таго, што Белы хамскім учынкам назаўжды выкрэсліў сябе са спісу беларускіх інтэлегентаў. Якія хваравітыя пачуцці рухалі гэтым былым супрацоўнікам БДУ не паддаецца асэнсаванню. Для любога чалавека, які разумее, што гвалт у адносінах да іншага чалавека – праява жывёльнай агрэсіі, абраная Белым форма самасцвярджэння – сведчанне духоўнай пустэчы.

## *Падрыхтоўка Сходу*

Ідэя склікання Сходу беларускай інтэлігенцыі была агучана ўлетку 2002 г. на грамадскай навуковай канферэнцыі, прысвечанай 120-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы.

На першым паседжанні аргкамітэту па скліканні Сходу беларускай інтэлігенцыі прысутнічалі: Н.Гілевіч, Г.Бураўкін, А.Марачкін, У.Колас (дырэктар Нацыянальнага беларускага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа), Ж.Ліцвіна (старшыня БАЖ), А.Вярцінскі, П.Садоўскі ,В.Страмкоўская, А.Бяляцкі, А.Пашкевіч, М.Купава, А.Трусаў, Г.Грушавы (прэзідэнт фонду «Дзецям Чарнобыля»), Л.Лыч, Я.Гутман, П.Севярынец, А.Кавалец, Д.Падбярэзскі і інш. Была абмеркаваная дата сходу, а таксама зацверджаная рабочая група па скліканні сходу інтэлігенцыі. Да канца 2002 г. рабочай групай у складзе: Анісім А. (сакратар), А.Вярцінскі, Я.Гутман, В.Іпатава, А.Кароль (сустаршыня), У.Колас (сустаршыня), У.Конан, М.Купава, В.Мазынскі, А.Марачкін (сустаршыня), З.Сідаровіч, А.Трусаў. Была праведзена 10 паседжанняў. Прынята адозва да грамадскасці, накіраваныя звароты да кіраўнікоў грамадскіх арганізацый, палітычных партый з прапановай далучыцца да гэтай грамадскай ініцыятывы і вылучыць сваіх прадстаўнікоў на Сход. З мэтай больш поўнага і аператыўнага інфармавання створаны сайт: **shod.at.tut.by.**

**Працяг тэмы на стар. 3**

## У нумары

## Памятныя дні

**20 студзеня**

**1778.** Англійскі падарожнік Джэймс Кук адкрыў Гавайскія астравы. Прыкладна праз год ён зноў прыплыў сюды і загінуў падчас сутычкі ягонага экіпажа з абарыгенамі.

**1892.** Нарадзіўся беларускі грамадскі дзеяч і філолаг Браніслаў Тарашкевіч. Ягоным імем названы адзін з варыянтаў беларускага правапісу з шырокім ужыткам мяккага знаку – «тарашкевіца». Расстраляны ў Курапатах 29 кастрычніка 1937 года.

**1958.** У Лондане ўсталяваныя першыя радары кантролю за хуткасцю аўтамабіляў.

**21 студзеня**

**1938.** Памёр французскі ілюзіяніст і кінаэкспэрымэнтатар Жорж Мяльес, які быў сярод гледачоў на першым кінасеансе братоў Люм`ераў. Мяльес стварыў адну з першых у свеце кінастудыяў і за перыяд з 1899 па 1912 гады зняў каля 400 фільмаў. Але ў рэшце рэшт яна збанкрутавала, і кінематаграфіст памёр у прытулку для жабракоў. Менавіта Мяльес адкрыў шэраг кінапрыёмаў: стоп-кадр, паскораныя і запавольненыя здымкі.

**23 студзеня**

**1598.** Нарадзіўся французскі архітэктар Франсуа Мансар, чыё імя дало назву «мансарда».

**1783.** Нарадзіўся французскі пісьменнік Анры Мары Бейль, больш вядомы як Стэндаль. Самы вядомы і чытэльны ягоны раман – «Чырвонае і чорнае».



**1903.** Нарадзіўся пісьменнік Джордж Оруэл, аўтар славутага рамана-антыўтопіі «1984», які асабліва быў папулярным у краінах, дзе пануе аўтарытарызм і таталітарызм.

**1938.** Апошні дзень жыцця ў ссылцы ў расійскім горадзе Саратаве беларускага гісторыка і пісьменніка Вацлава Ластоўскага. Напрыканцы 1930-ых ён прыехаў з Літвы ў Мінск, каб працаваць на беларускае адраджэнне, але яго арыштавалі і выправілі ў ссылку ў Саратаў, дзе ён быў расстраляны.

**25 студзеня**

**1928.** Нарадзіўся цяперашні прэзідэнт Грузіі Эдуард Шэварднадзэ, колішні міністр замежных справаў СССР.

**1938.** Нарадзіўся ўлюбёны бард мільёнаў савецкіх грамадзян Уладзімір Высоцкі, беларус па паходжанні. Творчасць Высоцкага ўвасобіла эпоху і сфармiравала цэлае пакаленне, якое падтрымала перабудову СССР.

**26 студзеня**

**1918.** Нарадзіўся Нікалае Чаушэску, прэзідэнт Румыніі ў 1974–1989 гадах. Звергнуты як дыктатар і расстраляны разам з жонкай у часе народнай рэвалюцыі.

**1961.** Нарадзіўся самы вялікі хакеіст усіх часоў канадзец Уэйн Грэцкі. Між іншым, беларус па паходжанні.

**1990.** Вярхоўны Савет БССР прыняў Закон аб мовах. Паводле яго, адзінай дзяржаўнай мовай у нашай краіне абвяшчалася беларуская. Руская мова набыла статус мовы міжнацыянальных зносін. У 1995 годзе ў Беларусі адбыўся рэферэндум, які ўсталяваў білінгвізм: дзяржаўнымі былі названыя і беларуская, і руская мовы. Хаця насамрэч ніякага моўнага раўнапраўя няма, спажыванне беларускай мовы ва ўладных структурах выціснута цалкам, не засталося бадай што ніводнай школы з беларускім навучаннем.



**27 студзеня**

**1593.** Джардана Бруна трапляе ў турму інквізіцыі ў Рыме. У ерасі ён быў звінавачаны яшчэ у 1575 годзе, але ўцёк і хаваўся ў іншых еўрапейскіх краінах. У 1592 годзе яго запрасілі ў Венецыю навучаць тамтэйшага патрыцыя філасофіі. Але той не ўбачыў прыкметаў прагрэсу ў сваіх ведах і здаў Джардана Бруна інквізіцыі. Што з ім сталася потым, агульнавядома са школьных падручнікаў.

**1756.** У аўстрыйскім Зальцбургу нарадзіўся кампазітар Вольфганг Амадэй Моцарт.

**1822.** У Гродне заснаваная тытунёвая фабрыка «Нёман». Ужо 180 гадоў адсюль распаўзаецца па краіне тытунёвая атрута.

**29 студзеня**

**1728.** У Лондане праходзіць першае прадстаўленне «Оперы жабракоў» англійскага паэта і драматурга Джона Гея, пакладзенае на музыку папулярных народных балад. У 20-ым стагоддзі сюжэт гэтай оперы быў пераапрацаваны Бертальдам Брэхтам і Куртам Вайлем і атрымаў новае жыццё як «Трохграшовая опера».

**30 студзеня**

**1667.** У гэты дзень Рэч Паспалітая і Расія пасля працяглай і страшэннай вайны 1654–1667 гадоў падпісалі Андрусаўскае замірэнне, паводле якога Смаленск назаўсёды адышоў па-за межы Беларусі. Пра тую вайну, якая пакінула вялікі знак бяды ў нашай гісторыі і вядомая як Патоп, можна пачытаць у даследаванні гісторыка Генадзя Сагановіча «Невядомая вайна» і ў аповесці Канстанціна Тарасава «Сцяжына Каіна».

**1933.** Адольф Гітлер стаў рэйхканцлерам Германіі, і тут усталяваўся фашызм. Вечны глыбока драматычны ўрок для ўсіх. краін з няўстойлівай дэмакратыяй. Калі электарат кіруецца пачуццямі хвіліны, ён потым расплачваецца гадамі пакутаў.

**1948.** Забіты індыйскі лідэр-пацыфіст у барацьбе за незалежнасць Індыі ад Англіі Махандас Кармчанд Гандзі, вядомы пад імем Махатма ці Вялікая Душа. Ягонай мэтай было «swaraj» (перакладаецца як самакіраванне) – і для асобных людзей, і для індыйскай нацыі без усялякага гвалту.

**Кірыла ПАЗНЯК**

# З відам на месца пакутаў

***Курапаты плануюць атачыць катэджамі для багатых***

У 1989 годзе яшчэ савецкая ўлада збіралася ўшанаваць памяць дзесяткаў тысяч ахвяраў сталінскага генацыду, якіх расстрэльвалі і закідвалі пяском у брацкіх магілах ва ўрочышчы Курапаты пад Мінскам.




Па сёння на ўскрайку лесу стаіць камень з шыльдай, якая паведамляе аб адмысловым рашэнні Савета Міністраў БССР. І на гэтай шыльдзе дзяржаўны клопат пра мемарыялізацыю мясціны масавых забойстваў нашых грамадзян загас. Летась пэўную частку ўрочышча засыпалі прывазной зямлёй пад будаўніцтва МКАД. А цяпер над гэтым помнікам народнай трагедыі навісла новая і не меншая бяда. Папраўдзе, працаўнікі памяці пра масавыя забойствы сталінскімі карнікамі невінаватых людзей выназдолівыя. На зямлі, што прымыкае да ляснога курапацкага масіва, плануюць збудаваць пасёлак прыватных катэджаў. Можна будзе падводзіць гасцей да акна і паказваць пальцам – «Вось у гэтым лясочку адняслі жыццё ў 30 тысяч гаротнікаў. А можа ў ста. А мой гародзік стаіць на былой дарозе, па якой іх вазілі і ганялі». Аблвыканкам без сумніву адвёў прастору ад шашы да лесу пад забудову, а «Еўрабуд» пачынае ўладкоўваць тут сваю будбазу. Можна працаваць, бо праектнае бюро пры камітэце архітэктуры Мінскага аблвыканкама ўжо распрацавала праект забудовы, прыняўшы межы ахоўнай зоны помніка 50 метраў. Інакш кажучы, паміж агароджамі катэджаў і ўрочышчам ледзьве хопіць месца на дарогу для «мерседэсаў» і тратуары.

Цяжка ўявіць падобную непавагу да трагічнага сімвала народа ў якой іншай краіне. Скарыстаўшы адсутнасць зацверджанай ахоўнай зоны, якую з 1995 года не мае часу ці не хоча зацвердзіць Міністэрства культуры, зацікаўленыя асобы і арганізацыі пачалі легальны наступ на помнік сталінщчыны. Бо абкружаныя прыватнымі ўладаннямі, Курапаты хутка стануць месцам адпачынку катэджнага жыхарства і пляцоўкай выгулу псоў.

Беларуская асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсіяў звярнулася да спецыялістаў інстытута «Праектрэстаўрацыя» для распрацоўкі праекта зон аховы гэтага помніка часоў таталітарызму. Цяпер праект распрацаваны (аўтар праекта Тацццяна Косіч, навуковы кіраўнік аб'екта Мая Кляшторная), і з ім прыйдзецца лічыцца, ва ўсялякім разе ўладам прыдзецца яго разглядаць канцэптуальна, і ўжо не ўдасца абрынуць на грамадства факт распачатага будаўніцтва са спасылкамі на адсутнасць дакументаў і праектаў зоны аховы.

Апроч катэджаў на гэтую святую зямлю прэтэндуе праваслаўная царква. Узвесці каля курапацкага масіва царкоўны падворак – не лепшая задума духоўных асобаў. Самае лепшае рашэнне – не займаць трагічную мясціну катэджамі, садочкамі, гаражамі, цэрквамі і капліцамі, а пакінуць у спакоі. Надта шмат тут сканцэнтравалася гора, каб спраўджваць канфесійныя інтарэсы.

Няма сумневу, што несумленная задума пра катэджную забудову атрымае адпаведную ацэнку ў грамадстве. Яна не можа застацца незаўважанай.

**П. К.**

# Новы сцяг для Беларусі

Яшчэ не сцёрлася з памяці прапанова Рэспублiцы Беларусь прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна далучыцца да Расійскай Федэрацыі ў якасці суб'екта з адпаведным знішчэннем суверэнных правоў. Думка не блістала арыгінальнасцю, бо перад тым яе агучваў вядомы расійскі ліберал-дэмакрат Жырыноўскі ды іншыя «думцы», праўда, у больш жорсткім варыянце – паабласное ўваходжанне, каб ужо ніколі не маглі злучыцца ў адзіную Беларускую Рэспубліку (губерню, вобласць, рэгіён).

Гэтая імперская ідэя адлюстроўвае настальгію па дарэвалюцыйных часах, і ўваскрасенне двухгаловага арла натхняе на мары пра тэрытарыяльнае аднаўленне ў імперскіх памерах з імперскім адміністратыўным падзелам на губерні. Па задуме тых, хто чакае зліцця Беларусі з Расіяй і рыхтуецца да гэтага дня, Рэспубліка Беларусь тады будзе называцца Мінскай губерняй і займее новы сцяг. На сайце «Административное деление России на губернии» гэтае вынаходства апісваецца так: «Флаг из белой, красной и зелёной горизонтальных полос. Цвета двух белорусских флагов: начала 1990-х и нынешнего». Кожны можа ўбачыць гэтую будучую аздобу нашых губернскіх будынкаў, калі не паляніцца зайсці на сайт «Минская губерния» ці на «Сайт редких карт».

Аўтары сайта «Административное деление» папярэджваюць, што «на этой странице представлены неофициальные проекты флагов. Они никогда не рассматривались правительством или парламентом. Это только частное мнение отдельных граждан». Такім асобным грамадзянінам аказаўся нехта Алег Герасімаў, які апублікаваў свой праект пад паказальнай назвай «Оптимистический вариант Великой России».

Такая ж доля – стаць часткай Вялікай Расіі – чакае, на думку перадзельшчыкаў, і Украіну, якая будзе разрэзана на шэраг губерняў, Кіеўская атрымае сцяг з дадаткам белай паласы да двухкалора.



Канечне, сёння кожны дурань можа адкрыць у сеціве свой сайт, і прыватныя мары, якімі б яны не былі, існуюць нібыта незалежна ад «правительства и парламента». Аднак у канкрэтным выпадку з Рэспублікай Беларусь (будучай «Минской губернией») прыватнае меркаванне шавіністычна настроенага расійскага геральдыста цесна сплялося з меркаваннямі парламентарыяў і нават прэзідэнта.

**М. С.**

# Кансалідацыя духоўнай эліты

## Чаго чакаць ад Сходу інтэлігенцыі?

Напярэдадні прадстаўнічага сходу варта звярнуць увагу на істотнае адрозненне двух паняццяў – інтэлеігенцыя і эліта. Інтэлігент, тым болей рафініраваны, прыкладам прафесар філасофіі, можа існаваць, ды найчасцей і існуе ў самадастатковасці сваёй творчай працы, сам па сабе. А вось эліта – паняцце, якое па вызначэнню датычыцца групы людзей, якая (у выпадку спаведнасці высокіх духоўных ідэалаў, а не прымітыўнага ўтрымання ўлады) прымае на сябе адказнасць за адзінства народа і знаходзіць арыенціры для выхаду з цемры. Істотна таксама, што інтэлігенцыя не можа папаўняцца з эліты, аўтарытэтная эліта папаўняецца з інтэлеігенцыі, і тады гэта добра для краіны.

Некалі, здраджаны сваёй элітай (найперш магнатэрыяй і шляхтай, якія прынялі польскую мову і культуру, а потым здраджанае ўласным чынавенствам, якое старанна русіфікавалася), беларускі народ па зручных для ўладаў міфах пераўтварыўся ў «мужыцкую нацыю» з «сялянскім менталітэтам», «тутэйшымі», без нацыянальнай самасвядомасці і лідэрскіх тэндэнцый. Міжволі вясковаму ў бальшыні люду ўгатавалі пасіўны і кансерватыўны лад і чын жыцця. Праз ідэалагічную апрацоўку папулярнасці ў народзе пазбавіліся словы Айчына, Краіна, высакародныя заклікі і гонар за сваю зямлю, якая ёсць галоўны прытулак чалавека на свеце. Больш блізка гучалі «родны кут», «старонка гэта»...

Сапраўды народ без ўласнай эліты пры ўсім сваім прыроджаным розуме здольны давярацца пачуццям без крытычнага аналізу. Інтэлегенцыя таксама не пазбегла памылак, марнуючы час у затворніцтве. Але хочацца верыць што прыходзяць новыя часы, калі для яднання інтэлегенцыі паслужыць адзіная высакародная мэта, рэальная зацікаўленасць і непакой за лёс дзяржавы. Час, калі мы здолеем выйсці па-за ўласныя дробныя інтарэсы і сумеснымі высілкамі ажыццявім аднаўленне краіны, здзейснім бачанне новай Беларусі.

Пра такія настроі сведчаць выказванні сябраў Аргкамітэту Сходу беларускай інтэлегеніцыі.

**Вінцук ВЯЧОРКА,**
**старшыня БНФ «Адраджэнне» і Партыі БНФ**



Інтэлігенты павінны сцвердзіць, што яны бачаць цывілізацыйную будучыню Беларусі ў Еўропе як незалежнай дзяржавы. І гэта не проста дэкларацыя. Сёння толькі інтэлігенцыя здольная зразумець, што адбываецца выбар на вякі: дзе пройдзе мяжа Еўропы. І толькі эліты, як і заўсёды, у крытычныя моманты вызначэння гістарычнага шляху, здольныя весці за сабой увесь астатні народ.

І я вельмі хацеў бы, каб нашая інтэлігенцыя страсянула б з сябе гэтае ярмо савецкасці, сядзення на кухні, замены рэальнага лідэрства ўласным тусаваннем і ўзяла б на сябе місію весці за сабой народ. У сапраўднага інтэлектуала дастаткова адукацыі, здольнасцяў, аўтарытэту, каб весці за сабой нейкую частку людзей. Эліта на тое і эліта, каб весці за сабой, казаць народу тое, што яму хацелася б пачуць.

**Аляксей МАРАЧКІН,**
**мастак, сябра аргкамітэту Сходу беларускай інтэлеігенцыі**



Я асабіста бачу, што Сход – гэта адказ на тое, што дзяржава і ўлады абсалютна не адчуваюць сітуацыю ў краіне, не адчуваюць тое, што яны павінны рабіць. Таму мы павінны скансалідавацца і разам ацаніць, што адбываецца ў сёняшнім грамадстве. Як так здарылася, што духоўнае адраджэнне трактуецца як магчымае толькі пад сцягам праваслаўя?

І яшчэ, кансалідацыя павінна прайсці не толькі так, што «сабраліся каб пагаварыць», бо нас часта ў гэтым папракаюць. А каб сказанае слова вылілася ў нейкую форму – «пагаварылі і арганізаваліся».

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ,**
**прафесар, сябра аргкамітэту**



Найлепшым вынікам гэтага сходу было б перш за ўсё падцверджанне пазіцыі інтэлеігенцыі ў абароне незалежнасці і суверызнеітэту Беларусі. Выступ супраць любой формы інтэграцыі з Расіяй, бо за гэтым стаіць рэальная пагроза палітычнай гібелі краіны. Па-другое – абарона нашай мовы і культуры. А агульны вынік – гэта яднанне ўсіх пластоў беларускай інтэлігенцыі, якія, на жаль, пакуль што дзейнічаюць самастойна і пасіўна. Так што я лічу, што Сход будзе новым чыннікам для згуртавання беларускіх сіл для высокай мэты ратавання нашай Незалежнасці.

**Вольга ІПАТАВА,**
**пісьменніца, сябра аргкамітэту Сходу беларускай інтэлегенцыі**



Я лічу, што нам асабліва трэба пагаварыць пра дзве рэчы. Мы павінны біць у званы наконт продажу нашай нацыянальнай маёмасці. У выніку чаго мы рызыкуем апынуцца закладнікамі іншай краіны, яе палітыкі, каштоўнасцяў, яе культуры. І другое – яшчэ раз акцэнтаваць увагу нашай інтэлеігенцыі на яе гістарычнай місіі. Сапраўды, зараз за столькі стагоддзяў інтэлегенцыя ўпершыню атрымала незалежнасць, пра якую яна, асабліва пісьменнікі гаварылі, марылі, да якой клікалі народ.

Трэба гаварыць пра незалежнасць Беларусі, не толькі пра нашу трывогу, боль, але і пра рэальныя меры па захаванню незалежнасці. Каб увесь свет ведаў нашую пазіцыю і не памыляўся, верачы наўмысным байкам пра нашу абыякавасць і рахманасць .

Бо часта мы маўчым, спадзеючыся, што гэта рэчы і так вядомыя. Але гэта не так. Нам трэба выходзіць на Расію, на Польшчу, на іншых нашых суседзяў і казаць пра нашу пазіцыю, казаць аб сваім непрыманні гандлю суверэнітэтам.

І яшчэ абавязкова трэба казаць пра мараль, пра тое, што сённяшняя цывілізацыя на такіх маральных прынцыпах выжыць не можа.

Гэта вельмі важна.

**Язэп СТЭПАНОВІЧ,**
**вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута эксперыментальнай батанікі імя В. Ф. Купрэвіча Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі**



Па-першае, хто такая інтэлігенцыя? Не звяртаючыся да слоўнікаў, гэта – найбольш адукаваная, культурная й сведамая, гэта значыць перадавая, частка народа. І менавіта ад яе моцы й актыўнасці залежыць узровень усебаковай развітасці грамадства.

Задам рытарычнае пытанне: чаму наша краіна, знаходзячыся ў цэнтры цывілізаванай Еўропы, маючы адносна выдатныя эканамічныя стартавыя ўмовы на пачатку ўзнаўлення дзяржаўнай незалежнасці (канец 80-х – пачатак 90-х гадоў), не толькі замарудзіла сваё развіццё, адстала ад суседзяў – былых савецкіх сясцёр, але, у поўным сэнсе слова, дэградуе, трапіла ў міжнародную ізаляцыю і неганаровы спіс краін-ізгояў? На мой погляд, гэта ёсць вынік слабасці нацыянальна-духовай сферы – асновы эканомікі і дзяржаўнасці, – малалікасці сведамай часткі і раз'яднанасці беларускай інтэлігенцыі.

Менавіта дзякуючы ўмацаванню нацыянальнага духу і еднасці, самапавазе хутка падняліся з каленяў і сталі ў першыя шэрагі перадавых краін свету Японія, Фінляндыя, Чэхія і г. д. У гэтых краінах ад шэраговага грамадзяніна да чыноўніка найвышэйшага рангу – ніхто не грэбуе роднай мовай, не зневажае, а ўлада клапоціцца пра яе становішча як нацыянальнай святыні. Беларусі не стае нацыянальна-патрыятычнай улады (яна марыянеткавая), нацыянальнай інфармацыйнай прасторы (яна антыбеларуская з элементамі нацыянальнай дэкарацыі), беларускамоўнай вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі (спрэс расейскамоўная). Такую бутафорскую дзяржаву ніхто і ніколі не будзе паважаць, не падтрымае, акрамя краін з каланіялісцкім сіндромам дзеля пашырэння сваёй, падкрэсліваю, нацыянальнай прасторы.

Як ўратаваць нашу Бацькаўшчыну, нашу родную мову, нашу шматпакутную нацыю ад навіслай пагрозы знішчэння? Даць адказ, упэўнены, можа нацыянальная інтэлігенцыя, якой наканавана гэта зрабіць і якая, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы апошняга дзесяцігоддзя, колькасна і якасна ўзрасла.

*

Натуральна, што Сход атрымае і багата крытыкаў з шэрагаў самой жа інтэлігенцыі. Бо існуе, і шмат нявырашаных фармальнасцяў, што датычыць інтэлігенцыі. Здаецца, што ўсе разумеюць сутнасць таго, што ў нас акрэсліваюць гэтым словам, але ж ёсць відавочная розніца паміж інтэлігентам з вытворчасці і з навуковай ці творчай сферы. Ёсць вядомыя інтэлегенты, якія працуюць ва ўладных структурах. Сама інтэлігенцыя колькасна можа не нашмат меншая сёння, чым сельскае насельніцтва. Аднаго школьнага настаўніцтва ў нас сотні тысяч. Чым усе гэтыя людзі найбольш заклапочаныя, з якімі думкамі варта ў цяжкі час існавання краіны звярнуцца да народа – гэта і мусіць высветліць і адгукнуцца дзеяннямі Сход.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# Сход адбыўся

Сход прадстаўнікоў Мінскай інтэлегенцыі прайшоў у Палацы Мастацтваў. На ім прсутнічала болей за дзве сотні прадстаўнікоў творчай, навуковай, тэхнічнай іінтэлегенцыі. Сход прыняў Рэзалюцыю, Адозву да усёй інтэленцыі краіны, якая акрэслівае вострыя праблемы беларускай рэчаіснасці і заклікае інтэлегенцыю кансалідаваць свае сілы і намаганні, вылучыць сваіх прадстаўнікоў на Агульны Сход інтелегенцыі. Рабочая група па скліканні Сходу вызначыла дату яго правядзення – 16 лютага ў сталіцы рэспублікі. Канкрэтнае месца паседжанняў будзе ўдакладняцца. Да Сходу яго дегегіраванныя асобы будуць працаваць па секцыях, рыхтуючы неабходныя матэрыялы на чатырох галоўных блоках “Культура”, “Дэмакратыя і стан грамадства”, “Эканоміка, вытворчасць, сельская гаспадарка”, “Правы, абарона правоў чалавека”.

**Ул. кар.**

# Рэзалюцыя сходу прадстаўнікоў інтэлігенцыі Мінска

Мы, удзельнікі Сходу прадстаўнікоў мінскай інтэлігенцыі, падтрымліваем як надзвычай своечасовую і канструктыўную ідэю правядзення Усебеларускага сходу інтэлігенцыі пад дэвізам «Незалежная Беларусь – свабоднае і заможнае грамадства». Мы ўхваляем Адозву і праграму, распрацаваныя аргкамітэтам па скліканні Сходу, тэматыку галоўных дакладаў, што маюць прагучаць на форуме і будуць прысвечаныя найбольш надзённым, набалелым праблемам жыцця краіны.

Мы ўсведамляем, што сёння, калі наша родная Беларусь перажывае адзін з самых драматычных перыядаў сваёй гісторыі, калі вырашаецца лёс яе як суверэннай дзяржавы, як роўнапраўнага суб'екта міжнародных адносін, а наша грамадства знаходзіцца ў глыбокім сістэмным крызісе, – як ніколі востра паўстае пытанне аб месцы і ролі нацыянальнай інтэлігенцыі. У гэты пераломны гістарычны момант яна закліканая быць рэальным носьбітам нацыянальнай ідэі, служыць высокім ідэалам дэмакратыі, вяршэнства закона, свабоднага і годнага развіцця асобы.

Вядома, што найбольш сумленная і адказная, верная свайму грамадзянскаму і патрыятычнаму абавязку частка беларускай інтэлігенцыі заўсёды імкнулася і імкнецца да таго, каб яе народ быў гаспадаром у сваім доме, сам распараджаўся сваім лёсам, меў сваю сапраўдную дзяржаўнасць. Менавіта дзякуючы набыткам беларускіх творцаў, навукоўцаў, педагогаў, інжынераў Беларусь як краіна існуе на культурна – цывілізацыйнай карце свету.

Разам з тым трэба самакрытычна прызнаць, што мы недастаткова дзейныя, скансалідаваныя і арганізаваныя для паспяховага выканання сваёй сацыяльнай і духоўнай місіі. У нашым асяроддзі назіраюцца разлад, раскол, канфрантацыя – чыннікі, якія ў значнай ступені нейтралізуюць нашыя добрыя намеры і пачынанні.

Мы, прадстаўнікі сталічнай інтэлігенцыі, бачым галоўнай мэтай Усебеларускага сходу інтэлігенцыі аб'яднанне нашых сіл, кансалідацыю ў імя будучыні, дзеля вырашэння найперш такіх надзённых праблем, як: захаванне суверэнітэту і ўмацаванне беларускай дзержаўнасці, забеспячэнне годнага матэрыяльнага ўзроўню жыцця, правядзенне палітычных і эканамічных рэформаў, пераадоленне міжнароднай ізаляцыі краіны і ўваходжанне яе ў еўрапейскую супольнасць.

Мы ўпэўненыя, што станоўчыя перамены ў нашым жыцці немагчымыя без ажыццяўлення дэмакратычных пераўтварэнняў, без забесячэння ўсім грамадзянам Беларусі магчымасці вольна выказваць свае думкі і ўдзельнічаць у вырашэнні лёсавызначальных для краіны праблем. Мы занепакоеныя праявамі абмежавання свабоды слова і іншых грамадзянскіх свабод, якія дагэтуль маюць месца ў нашым жыцці, і заклікаем улады неадкладна прыняць захады для высвятлення праўды пра зніклых палітычных дзеячоў, вызвалення журналістаў – вязняў сумлення, спыніць тэндэнцыю адміністрацыйнага ўціску пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў, будаваць узаемаадносіны з усімі краінамі, у тым ліку і з Расіяй, сыходзячы з інтарэсаў беларускага народа, недатыкальнасці суверэнітэту і незалежнасці Беларусі.

Мы заклікаем інтэлігенцыю Беларусі вылучыць на сваіх рэгіянальных сходах паўнамоцных прадстаўнікоў і накіраваць іх на Усебеларускі сход інтэлігенцыі.

Толькі разам мы здольныя выканаць сваю місію і актыўна спрыяць пабудове годнага і заможнага жыцця народа Беларусі!

Мінск, 19 студзеня 2003 г.

# Абавязак інтэлігенцыі

Працяг. Пачатак на стар. 1

Шматлікія праблемы, выкліканыя крызісам у духоўнай, палітычнай, сацыяльнай, эканамічнай, экалагічнай сферах, завязаныя ў моцны вузел, разблытаць які, на першы погляд, немагчыма.

Між тым, у нашым беларускім народзе заўсёды жыла павага да людзей сумленных, разумных, адукаваных і мудрых. Інакш кажучы, да інтэлігенцыі, якая і ўвасабляла ўсе гэтыя якасці. Нягледзячы на тое, што інтэлігенцыя, як правіла, заўсёды жыла вельмі сціпла, усё ж менавіта да яе лепшых прадстаўнікоў прыслухоўваліся і верылі. Гэты аўтарытэт не цалкам растрачаны і сёння дзякуючы ў першую чаргу сумленнай працы нашых настаўнікаў, выкладчыкаў ВНУ. Дзякуючы шчыраму слову, няхай часам і не вельмі прыемнаму на слых, нашых лепшых пісьменнікаў. Бо яны лечаць і ратуюць нашыя душы. Дзякуючы і тым прафесіяналам-медыкам, што не за медны грош, а за высокае прафесійнае званне штодня вядуць змаганне за чалавечае жыццё. Дзякуючы дзейнасці іншых прадстаўнікоў інтэлектуальных прафесій, якія сваёй штодзённай працай рупяцца на карысць Бацькаўшчыны і не даюць нам зваліцца ў бездань і канчаткова апынуцца на сметніку чалавечай гісторыі. Час ім, незалежна ад прафесіі, веравызнання і палітычных сімпатый, сказаць сваё гучнае, важкае слова пра тое, якія шляхі яны бачаць для развіцця незалежнай заможнай Беларусі. І тым самым беларуская інтэлігенцыя зробіць першы крок да выканання сваёй місіі – быць ідэйным правадніком свайго народа з мінулага ў будучае.

# Асоба – адукацыя плюс выхаваньне

Як сумясціць добрую адукацыю з добрым выхаваньнем? Як выхаваць творчую асобу з задаткамі лідэра? Што зрабіць у школе, каб дзіця магло развіць свае прыродныя здольнасці?

На гэтыя і многія іншыя пытанні стараюцца адказаць у польскім метадычным Цэнтры Аррупэ.



Мой суразмоўца – Войцэх Жмудзінські, дырэктар Цэнтра Аррупэ, дырэктар прыватнага ліцэю-гімназіі ў горадзе Гдыня на ўзбярэжжы Балтыйскага мора. Аўтар чатырох кніг: для настаўнікаў і для моладзі па метадыцы навучання, фармавання лідэрскіх якасцяў; па арганізацыі фондаў; па прафілактыцы наркаманіі.

**– Што гэта такое – Цэнтр Аррупэ? Чым ён займаецца?**

– Цэнтр Аррупэ – рэспубліканская пляцоўка павышэння кваліфікацыі польскіх настаўнікаў з дзяржаўных і прыватных школ. Тут вучаць, якім чынам трэба арганізоўваць урокі, каб зацікавіць вучняў. Як сумясціць і гарманічна звязаць працэс выхавання і навучання.

Тэматыка праграмаў, якімі займаецца Цэнтр, вельмі разнастайная. Гэта актыўныя метады навучання для настаўнікаў матэматыкі, фізікі, геаграфіі, біялогіі. Для класных кіраўнікоў даем не толькі методыкі. Вучым, як наблізіць настаўніка да вучня, да яго захапленняў. Працуем над праблемамі маладзёвых субкультур, працы з так званымі «цяжкімі падлеткамі», над праблемамі, звязанымі з наркаманіяй і алкагалізмам у маладзёвым асяроддзі.

Акрамя таго, ёсць праграмы па працы з сем'ямі. Калі няма выхавання ў сям'і, то школа не шмат можа зрабіць. Калі сям'я няпоўная, у ёй мала ўзаемнай павагі і любові, то ў школу прыходзяць дзеці, якія перашкаджаюць праводзіць урокі, хуліганяць, каб звярнуць на сябе ўвагу.

**– Спадар Войцэх, колькі гадоў працуе Цэнтр Аррупэ і на якія сродкі ён існуе?**

– Наш Цэнтр быў арганізаваны ў 1997 годзе. Напачатку гэта было некалькі асобаў, якія праводзілі навучанне для польскіх настаўнікаў. Зараз у Цэнтры працуе 60 педагогаў, якія праводзяць навучанне ў розных краінах, прыкладам, у Егіпце.

Фінансаванне праграмаў адбываецца за кошт ахвяраванняў грамадзянаў, а таксама з дапамогай розных фундацыяў. Апошнія гады добрая фінансавая падтрымка была ад Міністэрства адукацыі Рэспублікі Польшча на правядзенне гадавога метадычнага курсу. Некалькі міжнародных праграмаў фінансуе Еўрасаюз. У тым ліку праграму для арганізатараў вучнёўскага самакіравання, што дае магчымасць падрыхтаваць моладзь да актыўнага жыцця ў грамадстве.

**– Што сабой уяўляе ліцэй-гімназія ў Гдыні?**

– У ліцэі-гімназіі вучыцца каля 400 вучняў ва ўзросце ад 13 да 19 год. Гэта агульнаадукацыйная ўстанова, дзе вучні рыхтуюцца да паступлення ва універсітэты. Каб тут вучыцца, трэба здаць уступныя іспыты. Звычайна на адно месца прэтэндуюць тры чалавекі. Акрамя польскай мовы абавязковае навучанне латыні і англійскай мове, а таксама на выбар вучняў нямецкая, французская або іспанская мовы. За навучанне ў ліцэі-гімназіі бацькі плацяць, але прадугледжана бясплатнае навучанне для дзяцей з тых сем'яў, што маюць матэрыяльныя цяжкасці. Для гэтага ёсць стыпендыяльны фонд.

**– Ці плануецца стварэнне навучальных установаў у іншых гарадах Польшчы?**

– На поўдні Польшчы ў горадзе Новы Сонч пачата будаўніцтва такой жа навучальнай установы. Плануем адкрыць ліцэй у Лодзі.

Але адкрыццё школ не з'яўляецца нашым прыярытэтам. Для нас важней падрыхтаваць настаўнікаў, якія будуць мець уплыў не толькі на сваіх калег, а і на тысячы вучняў. Настаўнікі самі вырашаюць, чым бы яны хацелі займацца ў будучым. Два універсітэты пагадзіліся адкрыць курсы падыпломнай адукацыі з кастрычніка 2003 года.

**– На якія краіны ці рэгіёны распаўсюджваецца дзейнасць Цэнтра?**

– Асноўная дзейнасць безумоўна праходзіць у Польшчы. Маем таксама міжнародныя праекты, звязаныя не толькі з правядзеннем урокаў, але і з прафілактыкай наркаманіі ў школах. Супольны праект сумесна з псіхолагамі і тэрапеўтамі рэалізуем зараз на тэрыторыі Польшчы, Літвы, Украіны.

На працягу двух апошніх гадоў быў рэалізаваны цікавы праект у Крыме ў татарскіх школах. Навучанне праводзілася для дырэктараў школ, настаўнікаў матэматыкі, біялогіі, геаграфіі і фізікі. Навучанне настаўніка заключаецца ў тым, каб навучыць яго бачыць у кожным вучні як мага больш здольнасцяў і дапамагчы развіць іх. Каб вучань быў арыгінальным і кампетэнтным, браў на сябе адказнасць за супольныя справы ў будучым.

У асноўным нашы праграмы разлічаны на польскіх настаўнікаў. Але калі нам удасца падрыхтаваць настаўнікаў, якія будуць працаваць на іншых мовах, мы будзем вельмі рады. Мы з ахвотай падрыхтуем настаўнікаў у Беларусі, Літве, Славеніі, Харватыі, Украіне, Малдове, якія надалей будуць праводзіць такое навучанне ў сваіх краінах. Магчыма, будзе створаны міжнародны універсітэт. Найлепей падрыхтаваць групу настаўнікаў, якія будуць перадаваць свае веды і вопыт сваім калегам. Спадзяюся, што і ў Беларусі будзе падрыхтавана такая група.

**– Ці мае Цэнтр Аррупэ праграму ў Беларусі?**

– Год назад была арганізавана сумесная праграма з беларускімі настаўнікамі. У рамках гэтай праграмы беларускія настаўнікі наведалі ліцэй-гімназію ў Гдыні. Некалькі беларускіх настаўнікаў, якія валодаюць польскай мовай, былі запрошаны на навучанне ў Польшчу па праграме для польскіх настаўнікаў. Дзве асобы з беларускіх настаўнікаў, якія валодаюць англійскай мовай, былі запрошаны на міжнародны двухгадовы курс у Польшчу. У будучым, спадзяюся, яны стануць праваднікамі нашых методык у Беларусі.

У Беларусі вострa стаіць праблема ідэнтыфікацыі чалавека, яго адрозненне ў сусвеце. Бо без карэнняў, без традыцыяў, без роднай мовы чалавек не можа нічога рэпрэзентаваць свайго. Без гэтага маладыя людзі не будуць ведаць, хто яны такія. Яны згубяцца ў аб'яднанай Еўропе.

Гутарыла
Леанарда МУХІНА

# Чужыя ва ўласнай краіне

## *Беларуская мова пры сталінскім таталітарызме 1944–1953 гадоў*

Пасля нападу Гітлера на СССР у Беларусі на акупаваных тэрыторыях спыняюцца русіфікацыя і паланізацыя, пачынаецца адраджэнне беларускай мовы.

Як лічаць некаторыя даследчыкі, пачалася своеасаблівая «другая беларусізацыя». Нацыянальная эміграцыйная эліта вярнулася на Беларусь (многія павыходзілі з турмаў, вярнуліся з лагераў) і стала супрацоўнічаць з немцамі, спадзеючыся аднавіць незалежнасць. Беларуская інтэлігенцыя – начальнік паліцыі Саковіч, начальнік паліцыі Касмовіч, старшыня гарадской управы Вітаўт Тумаш, Усевалад Родзька, Антон Адамовіч і інш. – у кастрычніку 1941 г. прынялі рашэнне правесці беларусізацыю Менска – установ, школьніцтва, тэатра, адміністрацыю, царквы, збіраліся арганізаваць Беларускую Незалежную партыю. У ліпені і жніўні ў Мінск прыехала шмат беларускай інтэлігенцыі, якая дапамагала немцам упарадкаваць жыццё, адначасна захоўваючы нацыянальны інтарэс. Доктар М.Шчорс становіцца бурмістрам Мінска, і ўжо ў жніўні ў Мінску выходзіць на беларускай мове «Менская Газэта» (потым перайменаваная ў «Беларускую Газету»), на беларускай і нямецкай мове – «Баранавіцкая Газета». Нямецкія газеты друкуюцца па-нямецку і па-беларуску (газета «Голас Вёскі»).

Праўда, друк кантраляваўся немцамі, аднак расла колькасць беларускамоўных газет, былі выдадзеныя кнігі па гісторыі Беларусі, сярод якіх «Беларусь-Крывія ў мінуласці» Я.Станкевіча, «Беларусь учора і сяньня» Я.Найдзюка. Апошняя кніга з 1943 г. стала падручнікам у акупацыйнай беларускай школе, бо яшчэ ў 1941 г. Кубэ выдаў загад аб забароне выкарыстання савецкіх і польскіх падручнікаў. У 1943 г. была перавыдадзеная «Беларуская граматыка для школ» Б.Тарашкевіча, якая (асабліва ў 1943 і 1944 гадах) стала асноўным падручнікам у беларускіх школах.

У гады вайны існавалі два тыпы школ: лясныя, партызанскія, і з другога боку – акупацыйныя, дзе немцы забаранілі ўжываць рускую і польскую мовы, і выкладанне вялося па-беларуску. Для гэтых школ у першыя гады акупацыі немцы выдавалі ў якасці падручніка газету «Беларуская школа». Аднак беларускамоўная адукацыя існавала не на ўсёй тэрыторыі Беларусі, а толькі ў яе цэнтральнай частцы.

Нацыянальная інтэлігенцыя старалася абеларусіць і рэлігійную прастору, месцамі вялася служба ў цэрквах і касцёлах па-беларуску, аднак гэта было несістэмна. На беларускай мове працавалі тэатры, быў створаны шэраг тэатральных твораў на нацыянальным матэрыяле. У візуальнай прасторы горада ўжывалася беларуская мова, перайменоўваліся вуліцы: напрыклад, Камсамольская – у вул. Алеся Гаруна.

У 1943 годзе, калі вызвалялася ўсходняя частка акупаванай фашыстамі Беларусі, адчыняюцца савецкія школы, аднак мовай адукацыі застаецца беларуская як родная мова беларусаў. Савецкая ўлада яшчэ на працягу некалькіх паваенных гадоў праводзіць беларусізацыю, павольна, але сістэмна яе замаруджваючы.

У той жа час за межамі Беларусі шырыцца беларусізацыя, якую праводзіць нацыянальная інтэлігенцыя, што выехала ў эміграцыю. У нямецкім лагеры Остэргофен апынулася каля 400 беларусаў, якія арганізавалі адзін з цэнтраў беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. У 1947 г. тут выдаюцца газеты «Бацькаўшчына», часопісы «Рух», «Сакавік», працуе драматычная студыя, беларуская гімназія, ствараецца Беларускі Нацыянальны цэнтр. Падобныя арганізацыі ствараюцца ў многіх месцах пасялення беларусаў на замежжы.

«Сярод лягероў Амэрыканскай зоны ... найбольшую ролю адыграў лагер у Міхэльсдорфе. Тут была праваслаўная царква, гімназія, курсы машынапісу, курсы для шафёраў і інш. У грамадскай зале ладзіліся выступленні хору, танцавальных гуртkoў, ставіліся пьесы і адбываліся грамадзкія зьезды. Тут выдавалася друкам газета «Беларускае слова» і рататорам часапіс «Зьвіняць званы Сьвятой Софіі», як і зборнікі паэзіі. Тут арганізавалася Сялянска-Работніцкая Партыя Вызваленьня Беларусі».







У 1944 годзе па просьбе польскага камуністычнага ўрада Сталін перадаў Польшчы Беласточчыну – этнічныя беларускія землі з пераважна беларускім насельніцтвам. Аднак пры гэтым была дасягнутая дамова аб існаванні ў беларускіх вёсках частковай беларускамоўнай адукацыі і іншых праваў абмежаванай культурнай аўтаноміі. З гэтага часу пачалася гісторыя беларускамоўнай адукацыі на тэрыторыі пасляваеннай Польшчы.

Можна канстатаваць, што другая беларусізацыя была працягнутая як бы ў двух накірунках. Першы накірунак, фактычны, здзяйснялі беларускія нацыянальныя дзеячы, што выехалі ў эміграцыю. Яны валодалі вопытам заснавання ў ваеннай Беларусі беларускай адукацыі, друку, тэатраў, СМІ. Тое ж яны і працягвалі рабіць

# Нарвежскае «двухмоўе»

## *Некаторыя асаблівасці разнастайнасці ў моўнай сферы*

**Марцін ПАЎЛСЭН,**
**універсітэт горада Осла (Ушлу), Нарвегія**

Калі я чарговым разам прыехаў у Мінск, то не чакана для сябе адзначыў, што беларускія лінгвісты вельмі цікавяцца моўнай сітуацыяй у Нарвегіі. З аднаго боку, надзвычай прыемна, калі цікавяцца тваёй роднай краінай, а з іншага – такая цікавасць цалкам зразумелая, бо лінгвістычныя сітуацыі ў Беларусі і Нарвегіі нечым падобныя.

Што да Нарвегіі, то можна казаць пра існаванне ў нас літаратурнага двухмоўя. Мы маем два варыянты літаратурнай мовы: букмол (bokmal) і нюношк (nynorsk). Букмол – гэта рэфармаваная дацкая мова, набліжаная да нарвежскага вусната маўлення горада Осла, а нюношк фармаваўся на аснове ўласнанарвежскіх гаворак.

Да 1814 года нарвежскія тэрыторыі былі часткай каралеўства Даніі. Пасля паразы Напалеона, на баку якога ваявала Данія, нарвежскія тэрыторыі перайшлі да шведаў. У саюзе са шведамі нарвежцы атрымалі большую самастойнасць, і з гэтага часу можна казаць пра Нарвегію як палітычную адзінку з правам унутранага самакіравання.

Пасля чатырохсот гадоў знаходжання пад Даніяй у грамадскім жыцці краіны выкарыстоўвалася толькі дацкая мова. Адзіны ўніверсітэт знаходзіўся ў Капенгагене, нарвежскія пісьменнікі пісалі па-дацку, нарвежцы лічылі дацкую мову сваёй. У нарвежскай канстытуцыі 1814 года было запісана, што «... усё, што тычыцца нарвежскіх спраў, павінна быць запісана нарвежскай мовай...». І гэта пры тым, што ўся канстытуцыя была напісана дацкай мовай. Канстытуцыя не страціла свайго значэння і тады, калі краіна апынулася пад шведскай уладай. Шведаў не цікавіла моўная палітыка, і яны не рабілі спробаў насадзіць сваю мову і культуру ў Нарвегіі. Гэты фактар садзейнічаў далейшаму развіццю нарвежскай мовы і культуры.

Не адразу нарвежцы прыйшлі да разумення патрэбы ў нацыянальнай мове. Толькі з цягам часу, пад уплывам еўрапейскага рамантызму, прыйшло ўсведамленне таго, што адроджаная нацыя мусіць мець сваю мову. Але гэтае разуменне неабходнасці развіцця нарвежскае мовы падзяліла інтэлектуалаў краіны на два лагеры што да будучыні нарвежскай мовы – на «рэфарматараў» і на «рэвалюцыянераў».

Сярод «рэвалюцыянераў» быў Івар Осэн (Ivar Aasen), дзякуючы якому ўзнік нюношк. У 1836 годзе Осэн вызначыў сваю праграму, згодна з якой меўся стварыць пісьмовую нарвежскую мову на дыялектнай аснове. За пяць гадоў (1842–1847) ён аб'ездзіў большую частку Нарвегіі, пераважна заходнія раёны, збіраючы дадзеныя розных дыялектаў. У 1848 годзе выйшла «Граматыка нарвежскай народнай мовы», а праз два гады – «Слоўнік нарвежскай народнай мовы». Так з'явілася альтэрнатыва букмолу. У 1885 годзе парламентам быў прыняты закон пра роўнасць абодвух варыянтаў нарвежскае мовы, пасля чаго нюношк стаў кансалідаваць свае пазіцыі ў грамадстве: на ім пачалі выходзіць газеты, а з 1890 года на нюношк было пераведзена выкладанне ў некаторых школах.

Тым часам і ў букмоле адбываліся паступовыя змены дзякуючы аднаму з рэфарматараў, настаўніку Кнуту Кнутсэну. Ён хацеў рэфармаваць пісьмовую мову, наблізіўшы яе да маўлення «добра выхаваных людзей». У выніку гэтых зменаў букмол усё больш і больш адыходзіў ад дацкай. У нарвежскім грамадскім жыцці букмол быў мовай эліты цэнтральнай часткі краіны, а носьбітамі нюношка сталі жыхары правінцыі.



**Марцін Паўлсэн – нарвежскі беларусіст, які вывучае моўную сітуацыю ў Беларусі і піша навуковую працу па гэтай праблематыцы. Аповяд сп. Паўлсэна пра стан з мовай у Нарвегіі мае асаблівую цікавасць для нашага чытача, бо некаторыя праблемы маюць дзіўнае падабенства.**

На пачатку XX стагоддзя, калі нюношк ужо заняў сваё месца ў грамадстве, стала распаўсюджвацца меркаванне, што трэба спалучыць дзве пісьмовыя мовы ў адну «агульнанарвежскую мову» пад назвай самношк. Менавіта дзеля гэтага былі праведзены шматлікія моўныя рэформы пісьмовых моў (для букмола такіх рэформаў было 5, а для нюношка – 4). У выніку рэформаў склалася своеасаблівая сітуацыя. Справа ў тым, што арфаграфічныя слоўнікі прапанавалі розныя варыянты адных і тых самых слоў. З'явіліся абавязковыя, рэкамендаваныя і магчымыя формы, што давала і дае права выбіраць тыя варыянты, якія даспадобы. Такі шырокі выбар быў добры для людзей рознага сацыяльнага становішча, бо яны маглі ўжываць тую лексіку, якая ім бліжэй, і не адчуваць дыскамфорту.

Самыя важныя змены адбыліся з букмолам. У букмол былі ўведзены новыя формы, якія раней належалі нюношку, з мэтай збліжэння двух варыянтаў.

Такая палітыка падабалася не ўсім. Асабліва былі незадаволеныя людзі кансерватыўных поглядаў. Многія адчулі, што іх мова гіне, і пачалі змаганне за «выхаваную мову». У выніку гэтай барацьбы былі створаны новыя арфаграфічныя слоўнікі, якія падтрымлівалі больш кансерватыўны правапіс пад назвай рыксмол. Гэты трэці варыянт нарвежскай пісьмовай мовы не меў афіцыйнага статусу, але многія папулярныя газеты друкаваліся на рыксмоле, што яшчэ больш заблытала моўную сітуацыю.

Рэформа 1981 года ўрэгулявала праблему і спыніла палітыку збліжэння букмола з нюношкам. Стала відавочным, што спроба аб'яднаць два варыянты не ўдалася, але правапіс букмола ўсё-такі стаў ліберальнейшы.

Зразумела, што пры такой моўнай свабодзе цяжка дакладна сказаць, колькі чалавек карыстаецца адным, а колькі – другім варыянтам мовы. Розныя статыстыкі сведчаць, што на сённяшні дзень прыкладна 15% насельніцтва карыстаецца нюношкам, астатнія – букмолам. Зараз моўная сітуацыя стабілізавалася: букмол і нюношк больш-менш камфортна суіснуюць у грамадстве, але ў выніку ўсіх пературбацыяў нарвежская мова стала значна больш разнастайная.

У складаны малюнак пісьмовых моў уплятаюцца дыялекты. Трэба падкрэсліць, што букмол і нюношк – гэта толькі пісьмовыя мовы, якія выкарыстоўваюцца ў літаратуры, СМІ, афіцыйных стасунках. У побыце нарвежцы карыстаюцца мясцовымі гаворкамі, і вы рэдка можаце пабачыць нарвежца, які б размаўляў на букмолі ці нюношку (хіба што падчас афіцыйных мерапрыемстваў). Прасцей кажучы, нарвежац размаўляе на дыялекце, а піша на букмолі ці нюношку.

Сістэма дыялектаў у Нарвегіі яшчэ больш разнастайная, чым сістэма стандартных моў. Гэта ўскладняе працу тым, хто хоча стварыць адзіную нарвежскую мову. Для іншых гэта нагода для доўгіх і гарачых абмеркаванняў пры сустрэчы з суайчыннікамі (у брытанцаў улюбёная тэма – надвор'е, а ў нарвежцаў – нарвежская мова).

Дыялекты ў Нарвегіі маюць даволі высокі прэстыж, і імі свабодна карыстаюцца ў розных сітуацыях. Чалавек, які прыехаў з правінцыі ў вялікі горад, можа спакойна размаўляць па-свойму і не адчуваць комплексу непаўнавартасці праз тое, што ён гаворыць «не так». Нават наадварот, дыялектныя асаблівасці падтрымліваюцца носьбітамі ў штодзённым жыцці (на вечарынах, у літаванні і г. д.). Але варта зазначыць, што яшчэ 20 гадоў таму сітуацыя выглядала не зусім так. Існавала пэўная дыскрымінацыя па моўнай прыкмеце. Але грамадства развівалася, і людзі прыйшлі да разумення, што дыялект – гэта адзнака саматоеснасці чалавека.

Афіцыйнае існаванне двух варыянтаў абумовіла патрэбу іх вывучэння ў школах. Але гэтым незадаволены некаторыя бацькі. Гэтая незадаволенасць асабліва востра гучыць у сталіцы, для жыхароў якой нюношк – «чужая» мова. Былі спробы вызваліць школьнікаў Осла ад вывучэння нюношка, але нічога не атрымалася.

Згодна з нарвежскімі законамі, 25% афіцыйных дакументаў павінны афармляцца на нюношку. А калі чалавек звяртаецца ў афіцыйную ўстанову, то ён мае права атрымаць інфармацыю на любым з варыянтаў, і яму не маюць права адмовіць.

Гэты закон – заслуга арганізацый, якія займаюцца прамоцыяй нюношка. Нягледзячы на тое, што прыхільнікі гэтага варыянту знаходзяцца ў меншасці, іх арганізацыі даволі моцныя, і яны прызвычаіліся змагацца за свае правы. Па сутнасці, існаванне нюношка – гэта працяглая барацьба за жыццё, і тая баяздольнасць, што выпрацавалася падчас змагання, на мой погляд, гарантуе развіццё нюношка.

Паказальнікам такой баяздольнасці можа служыць нядаўні судовы працэс з Білам Гейтсам. Было высунута патрабаванне выпускаць праграмнае забеспячэнне Майкрасофту таксама і на нюношку. І з дапамогай дзяржаўных органаў яны гэтага дамагліся.

Нарвежцы ўжо прызвычаіліся да разнастайнасці ў моўнай сферы і лічаць, што гэта ўзбагачае нарвежскую мову, культуру і саміх нарвежцаў. Шматварыянтнасць дазваляе выказаць свае думкі і пачуцці больш дакладна. Нам важна захаваць наша моўнае багацце, бо яно дазваляе нам адчуваць сябе нацыяй у поўным сэнсе гэтага слова.

---

на эміграцыі, служачы інтарэсам Айчыны.

Другі накірунак беларусізацыі другой паловы 40-х гадоў узначалілі бальшавікі, якія фармальна праводзілі яе пад уплывам пэўных абставін, бо не былі зацікаўленыя ў гэтым. Ды і нацыянальны склад кіраўнічых кадраў паваеннай Беларусі быў не беларускі. Аналізуючы выступленні савецкіх чыноўнікаў у першыя паваенныя гады, складаецца ўражанне, што бальшавікі самі не мелі дакладнага плана, што рабіць з беларусізацыяй, бо падчас выступлення на 6-й сесіі Вярхоўнага Савета БССР у 1944 г. ні слова пра мову не сказана ў дакладзе Старшыні СНК БССР А.Панамарэнкі, а міністр асветы Е.Уралава зазначыла толькі, што «калі за 80 год да Кастрычніцкай рэвалюцыі было ўсяго выдана на беларускай мове 234 кнігі, то за 25 год савецкай улады іх было выдана звыш 100 млн.». Вельмі дзіўныні здаюцца экскурсы міністра ў даваенны Беларусь, калі ў пасляваеннай Беларусі былі вялікія праблемы з навучаннем, у тым ліку і на беларускай мове, бо падручнікаў і іншых сродкаў навучання не хапала. Праўда, ужо на 7-й сесіі ВС БССР у 1947 г. міністр асветы Уралава адзначае, што за гэты год «складзена 18 арыгінальных падручнікаў», 5 па беларускай мове і літаратуры, «перакладзена з рускай мовы і здана ў друк 35 падручнікаў». Тады ж была асвоеная заганная практыка перакладу падручнікаў з расійскіх, што праіснавала да пачатку 90-х гадоў.

Пасляваенны перыяд быў для адукацыйных пераўтварэнняў цяжкі яшчэ і тым, што па даваеннай сістэме адукацыі вывучэнне беларускай і рускай моў вялося з 1 класа – і гэта негатыўна адбівалася на авалодванні гэтымі мовамі. У час вайны навучанне вялося на даволі нізкім узроўні, несістэмна. Пагэтаму пасля вайны вялікая колькасць вучняў не валодала неабходнымі ведамі па абедзвюх мовах. Так, у загадзе № 57 Міністэрства асветы Беларускай ССР «Аб выніках работы школ ... за першае паўгоддзе 1946–1947 вучэбнага года» ад 15 лютага 1947 г., адзначаецца, што ў Баранавіцкай вобласці не валодаюць рускай мовай – 12.224 вучняў; беларускай мовай – 11.030 вучняў; у Віцебскай вобласці адпаведна 18.142 і 16.839; у Гомельскай вобласці – 20.982 і 9.538 вучняў.

Больш верагоднымі, відаць, з'яўляюцца апошнія лічбы, калі розніца ў колькасці асобаў па валоданні мовамі склала каля 11,5 тыс. чалавек. Падаецца неверагодным, што такая розніца можа быць толькі ў адной ці дзвюх тысячах чалавек, бо калі і да вайны беларусы кепска ведалі рускую мову, то за вайну яны ўвогуле ад яе адвыклі. А ў былой Заходняй Беларусі сітуацыя была яшчэ горшая, бо паўсюль перад Другой сусветнай вайной былі толькі польскія школы, некаторыя з якіх захаваліся да пачатку 50-х гадоў.

Такім чынам, у першыя пасляваенныя гады неабходна было пашырыць стварэнне школ, каб пераадолець культурніцкую адсталасць. Так, у 1945/46 навучальным годзе колькасць усіх школ у Беларусі дасягнула 10.982; з іх 10.559 з'яўляліся беларускімі, 324 – рускімі, 42 польскімі, 17 – украінскімі. У далейшым школы нацыянальных меншасцяў паступова зачыняліся. Відавочна, што такая вялікая колькасць беларускіх школ сведчыць пра тое, што пасля вайны існавала шмат праблемаў рознага характару. Акрамя эканамічных і адукацыйных, СССР сутыкнулася з праблемамі палітычнымі. У грамадстве, большасць членаў якога пабывала ў час вайны за мяжой, пабачыла жыццё людзей там і рэальна ўбачыла «перспектывы» сацыялізму, выспявалі апазіцыйныя настроі. Распачыналася хваля пратэсту маладзёвых арганізацый. Напрыклад, у Глыбоцкай і Пастаўскай педвучэльнях былі арыштаваныя студэнты, што стварылі падпольны «Саюз беларускіх патрыётаў». Мэтаю арганізацыі было павышэнне нацыянальнай свядомасці будучых настаўнікаў, якія па заканчэнні вучэльні будуць прапагандаваць беларускую ідэю па вёсках. Трыбунал прысудзіў больш як 30 сябрам СБП пазбаўленне волі ад 5 да 25 гадоў.

**Людміла ДЗІЦЭВІЧ**

**Параўнанні**

## Не хочуць застацца Казламі

Каля дзвюх тысяч беларусаў штогод з розных прычынаў мяняюць свае прозвішчы. Кожны дзесяты выпадак звязаны з тым, што людзям не падабаюцца іхнія прозвішчы з-за таго, што яны непрыгожа гучаць і выклікаюць непрыемныя, непрыстойныя ці смешныя асацыяцыі. Напрыклад, Магіла, Галапупкін, Будзіла... Але самыя змяняльныя беларускія прозвішчы – Заяц ды Казёл. Між тым адмыслоўцы прагназуюць праз колькі год бум на перамену імёнаў: названыя ў гонар герояў усемажлівых серыялаў дзеці вырастуць і захочуць быць Янкамі і Алесямі, а не Луісамі-Альбертамі і Ізаўрамі.

## Па Мінску паскача «Залатое паляванне»

Неўзабаве ў Мінску з'явіцца яшчэ адна скульптура архітэктара Уладзіміра Жбанава, аўтара папулярных у менчукоў бронзавых постацяў фарсістага маладзёна, які прыкурвае, дзяўчынкі пад дзіравым парасонам (дзяўчынка пад стронцыем, калі паводле Караткевіча), чароўнай незнаёмкі ў скверы паблізу Прывакзальнай плошчы. Цяпер скульптар працуе над трохметровай кампазіцыяй «Залатое паляванне» – жанчына-паляўнічы скача на кані, а побач бягуць сабакі. Мяркуецца, што іх паставяць на праспекце Машэрава.

## Беларусы жывуць дольш за расейцаў

Рада Еўропы апублікавала штогадовую справаздачу па дэмаграфічнай сітуацыі на кантыненце за перыяд з 1 студзеня 2001 па 1 студзеня 2002 года. Дэмаграфічны агляд ахоплівае 44 краіны, што з'яўляюцца сябрамі Рады Еўропы, плюс Югаславію і Беларусь.

Паводле гэтай дэмаграфічнай справаздачы, болей за ўсё людзей жыве ў Расіі – 144 мільёны. Далей ідуць немцы, якіх 82,4 мільёна, туркі – 69,3, брытанцы – 60,1, французы – 59,3, італьянцы – 58, украінцы – 49, іспанцы – 40,4, палякі – 38,6 ды румыны – 22 мільёны. Дарэчы, на гэтыя краіны прыпадае 78% насельніцтва Еўропы – 796 мільёнаў 400 тысяч чалавек. З 1 студзеня 2001 па 1 студзеня 2002 года еўрапейцаў паболела на 0,5 працэнта альбо на 4,3 мільёна чалавек.

Толькі ў дзесяці краінах насельніцтва скарацілася, асабліва ў Латвіі – 0,78%, Расіі – 0,6%, Балгарыі – 0,53% ды Эстоніі – 0,42%. Нас, беларусаў, за 2001 год стала меней на 0,4%. Самы вялікі дэмаграфічны рост быў зафіксаваны ў Ліхтэнштэйне – 1,99%, Турцыі – 1,83%, Ірландыі – 1,41%, Ісландыі – 1,13% і Люксембургу – 1,02%.

Паказальна, што самая нізкая працягласць жыцця мужчын у Еўропе ў беларусаў, украінцаў і расейцаў. Расійскія мужчыны жывуць у сярэднім 59 гадоў, беларускія – 62,8 года, украінскія – 63 гады. Параўнайце з самымі-самымі доўгажыхарамі ў Еўропе: працягласць жыцця ісландцаў складае 78 гадоў, шведаў – 77,6 года, швейцарцаў і жыхароў Сан-Марына – 77,4 года.

## Жыццё ў Літве

Па дадзеных статыстычнага агенцтва Еўразвяза Eurostat, у Літве кошты на прадукты харчавання складаюць толькі 59% ад сярэдняга ўзроўню ЕЗ, у той час, як у Латвіі – 66%, у Эстоніі – 68%. Самыя нізкія кошты на ежу ў Баўгарыі (50%), а самыя высокія – у Нарвегіі.

Спажывецкі кошык нашага бліжэйшага суседа, Літвы, складае 89 еўра, у Латвіі – 100, у Эстоніі 104, а ў Нарвегіі – 232 еўра.

Літоўская статыстыка канстатуе парадокс: даходы насельніцтва падаюць, а расходы растуць. У мінулым годзе сярэднестатыстычны даход на аднога члена сям`і склаў 409 літаў (прыкладна 115$). Статыстыка паказвае, што на харчаванне літоўцы выдаткоўваюць 44% свайго бюджэту. Расходы на жытло і энергарэсурсы за мінулы год скараціліся на душу насельніцтва з 63 да 57 літаў і зараз складаюць 12,1% ад агульных расходаў сямы.

Аднак літоўцы глядзяць на сваё матэрыяльнае становішча ня вельмі аптымістычна: толькі адзін працэнт апытаных лічаць, што ўмовы іхняга жыцця за апошні год палепшыліся. Астатнія для поўнага шчасця хацелі б атрымліваць даход не меншы за 713 літаў на чалавека (каля 200$). 27% апытаных лічаць сябе беднымі, абсалютная большасць 68,5% – сярэднім класам, і толькі 1,3% прылічваюць сябе да багатых людзей.

У Літве лічыцца, што за мяжою беднасці жывуць тыя, хто атрымлівае менш за 264 літы на аднаго дарослага ў месяц (каля 73$). У выпадку, калі даход на аднаго члена сям'і, уключаючы малалетніх дзяцей і старых людзей, не перавышае 250 літаў (каля 70$), дзяржава выплачвае сем'ям розныя субсідыі і прадастаўляе льготы.

# Найноўшы сродак русіфікацыі

### *Ці застануцца беларусы пісьменнай нацыяй у XXI стагоддзі?*



Непрыкметна, для большасці з нас мы ўступілі ў камп'ютэрную эру. Большыня пакуль карыстаецца камп'ютэрамі часцей як друкарскімі машынкамі. І вельмі абмежаванае кола карыстаецца беларускай мовай падчас працы.

Усе цывілізаваныя краіны прыкладаюць вялікія намаганні і ідуць на істотныя выдаткі, каб зрабіць лакалізаваныя версіі асноўных праграм, іншымі словамі, забяспечыць паўнавартасную працу з тэкстамі на нацыянальных мовах. Беларусь не ўваходзіць у лік 150 краін, якія ў той ці іншай ступені вырашылі гэтую праблему.

Падчас працы на беларускай мове камп'ютэр можна выкарыстоўваць толькі як друкарскую машынку. Сёння амаль ва ўсім свеце, акрамя Беларусі, на нацыянальных мовах можна: набіраць, правяраць і друкаваць тэкст (тэкставыя рэдактары), чытаць тэксты, надрукаваныя на паперы, і пераводзіць іх у электронны выгляд, пісаць пад дыктоўку (праграмы распазнавання голасу), перакладаць з адной мовы на другую, агучваць электронныя тэксты (сінтэзатары маўлення), ажыццяўляць дакументаабарачэнне ды інш.

Пра адставанне ў гэтай сферы сведчыць той факт, што з 1 студзеня 2003 года ў пенсійным фондзе ўведзены індывідуальны ўлік і ўсім жыхарам карткі персаніфікаванага ўліку будуць выдавацца толькі па-руску. Выбраная сістэма ўпраўлення для вядзення базы даных індывідуальных асабовых разліковых рахункаў фірмы Oracle Corporation, па словах, як маскоўскага, так і мінскага прадстаўніцтваў, падтрымлівае працу базы на беларускай мове. Мала таго, зыходныя дадзеныя для выдзення ўліку прадастаўляюцца пашпартнымі сталамі на трох мовах – беларускай, рускай і англійскай. Аднак Міністэрства сацыяльнай абароны насельніцтва не можа наладзіць улік па-беларуску, бо, як высветлілася, у нашай краіне няма адзінага стандарту кадзіроўкі беларускіх літар «ў», «і», знака «"»,«!? Гэта вельмі дзіўна і таму, што, прыкладам тэксатвы рэдактар Windows амерыканскай кампаніі Microsoft Word ужо некалькі год мае кадыроўку «ў», «і», знака «"», а амаль 100% карыстальнікаў у Беларусі менавіта працуюць у гэтым рэдактары.

У такім становішчы мы апынуліся таму, што ўзаконенае двухмоўе і новая рэдакцыя Закона аб мовах дазваляюць ужываць у працы ўсіх ведамстваў толькі рускую мову. Фактычна з гэтай прычыны і быў узяты курс на выкарыстанне ў дакументаабарачэнні гатовых распрацовак расійскіх лінгвістаў і навукоўцаў у галіне камп'ютэрнага праграмавання, што выглядае як «паразітаванне» на рускай мове.

Да таго ж, сярод прадстаўнікоў адміністрацыйнага апарату пануе камп'ютэрная непісьменнасць. Многія з іх проста не разумеюць, чым пагражае адсутнасць камп'ютэрных праграм і інфармацыйных электронных рэсурсаў на беларускай мове. Беларускамоўнае кнігавыдавецтва і сродкі масавай інфармацыі штогод нясуць вялікія фінансавыя страты з-за адсутнасці лінгвістычнай падтрымкі беларускай мовы ў папулярных праграмных прадуктах апрацоўкі тэкстаў. Усе, хто выпускае друкаваную прадукцыю па-беларуску, вымушаныя трымаць дадатковы штат карэктараў, якія, як правіла, таксама не валодаюць у дастатковай ступені камп'ютэрам.

На маю думку, першымі крокамі павінны стаць распрацоўка заканадаўчымі органамі канцэпцыі асноўных кірункаў укаранення беларускай мовы ў інфармацыйнай сферы, стварэнне электроннага фонду (корпуса) беларускай мовы як сукупнасць слоўнікавых і тэкставых крыніц, арганізаваных у базу дадзеных, стварыць цэнтр па архівацыі электронных тэкстаў на беларускай мове, якія ствараюцца ў дзяржаўных выдавецтвах. Гэта дазволіць на дагаварной аснове выкарыстоўваць тэкставыя масівы ў распрацоўцы праграмных прадуктаў і электронных лінгвістычных рэсурсаў, распрацаваць сістэму карэкцыі арфаграфіі беларускіх тэкстаў. Тэрмінова неабходна распачаць працу па лакалізацыі праграм аптычнага распазнавання тэкстаў, вырашыць пытанне ўключэння лінгвістычнай падтрымкі беларускай мовы ў папулярныя праграмныя прадукты апрацоўкі тэкстаў (Microsoft Word ды інш.).

Дзяржаўным выдавецтвам варта арганізаваць выданне электронных слоўнікаў, даведнікаў, энцыклапедый на беларускай мове. Тым больш, што стварэнне і выпуск кнігі на кампакт-дыску ў дзесяткі разоў скарачае выдаткі. Неабходна на дзяржаўным узроўні стымуляваць стварэнне інфармацыйных кантэнт-рэсурсаў на беларускай мове ў сетцы Інтэрнэт, а таксама сістэм індэксацыі і пошуку беларускамоўных рэсурсаў у Інтэрнэце.

Вельмі цешыць тое, што, па словах дырэктара Фонду інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь Віктара Іванавіча Дравіцы, у першым квартале 2003 года распачнуцца работы па ўкараненні беларускай мовы ў камп'ютэрных тэхналогіях. Спадзяюся, што ў бліжэйшы час распрацоўкамі беларускіх навукоўцаў змогуць карыстацца і звычайныя грамадзяне краіны.

Адносна перспектываў выкарыстання ў праграмных прадуктах беларускай мовы рэальнае ўяўленне дае наступная гутарка з з дырэктарам кампаніі «Залатыя праграмы» (Golden Software) Андрэем КІРЭЕВЫМ

**– Спадар Андрэй, калі Ваша кампанія распачала сваю дзейнасць?**



– Кампанія Golden Software» займаецца распрацоўкамі камп'ютэрных праграм з 1996 года. Ад пачатку сваёй дзейнасці адным з прыярытэтных накірункаў працы было выкарыстанне ў нашых распрацоўках беларускай мовы. На сённяшні дзень ужо створана 3-я версія бухгалтарскага комплексу праграмы «Анжэліка», якая распрацавана ў дзвюх мовах – па-руску і па-беларуску. За перыяд нашае працы мы амаль ніколі не сустракаліся з непераадольнымі цяжкасцямі, звязанымі з выкарыстаннем у праграмным прадукце беларускай мовы. Наадварот, многія спажыўцы купляюць наш праграмны прадукт менавіта з-за таго, што ён мае магчымасць працаваць на беларускай мове. Прадукт прыдатны як для працы невялікіх прадпрыемстваў, так і магутных дзяржаўных установ. Так, у 2001 годзе наша кампанія займалася распрацоўкай праграмнага забеспячэння для мясаперапрацоўчых прадпрыемстваў Рэспублікі Беларусь, і варта адзначыць, што пэўныя сегменты праграмы, зробленыя выключна на беларускай мове, не выклікалі ніякіх непаразуменняў у замоўцаў праграмнага прадукту.

**– Як Вы лічыце, чаму, амаль усё справаводства ў Беларусі выдзецца на рускай мове, і ці пэўнае праграмнае забеспячэнне, якое дазваляе паўнавартасна працаваць на камп'ютэры, карыстаючыся беларускай мовай?**

– На нашу думку, у Беларусі ўзровень валодання беларускай мовай сярод звычайных карыстальнікаў даволі высокі, і нават такая сфера, як бухгалтарскі ўлік, магла б быць цалкам прадстаўлена на беларускай мове. Іншая справа, што звычайнаму карыстальніку не хапае пэўных прыладаў, каб цалкам весці дакументаабарачэнне на нацыянальнай мове. Гэта, перш за ўсё, адсутнасць праграмы праверкі арфаграфіі беларускамоўных тэкстаў і праграм слоўнікавай падтрымкі аптычнага распазнавання тэкстаў на беларускай мове.

Я ўпэўнены, што беларуская мова цалкам прыдатная для выкарыстання ва ўсіх сферах, у тым ліку і ў камп'ютэрных тэхналогіях. Але варта падумаць пра тое, каб як мага шырэй укараняць яе ў інфармацыйную сферу. Бо калі гэтага не зрабіць сёння, тады цяжка будзе ісці ўпоравень з іншымі народамі, якія вельмі шырока выкарыстоўваюць нацыянальныя мовы падчас працы на камп'ютэрах. Гэта даведачныя і пошукавыя сістэмы, электронныя карпусы нацыянальных моваў, выкарыстанне ў такой сферы, як кнігадрукаванне і выпуск папяровых перыядычных сродкаў масавай інфармацыі. Магу запэўніць, што кампанія Golden Software гатовая падзяліцца сваім досведам у сферы стварэння праграмных прадуктаў на беларускай мове. Але, на вялікі жаль, прыходзіцца канстатаваць, што на сёння мы бадай што адзіная кампанія ў Беларусі, якая рэгулярна выпускае праграмныя прадукты, у тым ліку і на беларускай мове. Але гэта так неабходна. Доказ таму – удзел Golden Software ў штогадовых камп'ютэрных выстаўках, якія ладзяцца ў Мінску.

**– Што б Вы параілі тым кіраўнікам прадпрыемстваў, якія выбіраюць праграмны прадукт для вядзення справаводства?**

– Запрашаю ўсе прадпрыемствы Беларусі звяртаць увагу падчас выбару праграмнага забеспячэння на магчымасць арганізацыі працы не толькі па-руску, але і на роднай мове пераважнай большасці насельніцтва нашай краіны. Бо ў перспектыве можа стацца так, што прыйдзецца дакупляць да праграмнага прадукта расійскай вытворчасці яшчэ і прадукт з падтрымкай беларускай мовы. Дальнабачнасць і ашчаднасць – аснова поспеху ў будучым.

**Сяргей Кручкоў,**
**старшыня часовай камісіі ТБМ па інфарматызацыі**

# Пярынкаю белай накрыла...

## Сяргей КОЎГАН



**У Курапатах**

Крыжы – маўклівыя старажы
Усіх забітых у гэтых бур'янах –
Жанчын і мужчын, старых і малых,
Кінутых у ямы, не пахаваных.

За што іх усіх забілі, знішчылі
Не аднаго, не дваіх, а адразу
Многія, многія, многія тысячы?
Я бачу іх вочы, я бачу іх твары.

Глядзяць на мяне з дакорам маўклівым ...
Мы жылі мірна па сваіх хатах,
А нас, як ворагаў злых, агідных,
Пазабівалі свае ж салдаты.

Крыжы, крыжы... Далей на ўзгорку
Намалявана – нарадзіўся, забіты.
Забіты за што, за якую правіннасць?
Хто-небудзь адкажа, ці ўсё забыта?

Забыта для тых, хто з чорнай волі
Глядзіць на мяне з-за шкла цёмнага.
Гэта яны – баязлівыя воўкі,
Для якіх няма нічога роднага.

Але прыйдзе час, адкажуць каты
За боль і пакуты майго народа.
А мы ўстановім вялікі помнік
Тым, хто страціў жыццё і свабоду.

* * *

Шэрых хмарак рой густы
Ачапіў усё неба.
Ціхі дождж ык са страхі
Падае на глебу.

Амярцвелая таполя
Лісцікі згубіла
І забыла, як вясною
Прыгажуняй была.

Ціха ў вёсцы той пары,
Толькі пеўні гучна
Аклікаюць усе двары
Голасам пявучым.

А на полі густа жыта,
Глебу рассякаючы,
Хутка выйшла на паверхню,
Час свой абмінаючы.

***

Замяла мяцеліца двары і палеткі,
Па страху суметы за дзень намяло.
Увечар сядуць дзеўкі, прапяюць напеўкі,
Варажыць пачнуць яны пра сваё жыццё.

Пакладуць у сенцах на тры пальцы зерня,
Кавалачак гліны, паўкаўша вады.
І ўпусцяць пеўня з нітачкай на грэбені,
І паназіраюць: той пойдзе куды.

Калі кране зерне, будзе любы верны,
Будуць грошы ў хаце і дзіцячы смех.
Калі з каўша вып'е, муж у п'янцы знікне,
Калі гліну зрушыць, будзе дзеўцы грэх.

А пад самы вечар, калі трэба спаці,
Пакладуць у падушку пірага кусок
І паклічуць хлопца разам павячэраць.
Калі хто прысніцца – будзе жаніхок.

А зіма гуляе, Каляда спявае:
Калі цёпла ў студзені – халадна вясной,
Калі выпаў іней, то да ўраджаю,
Калі ідзе дождж ык – восень будзе злой.

**Памятка беларусу**

Кожны дзень, прачнуўшыся зранку,
Ты прызадумайся хоць на хвіліну:
Колькі пакут твой край перажыў,
Пакуль не стаў дзяржавай адзінай.

**Гімн паўстанцаў**

Над роднай зямлёй
Паўстае новы дзень,
І знікае ў балоце
Варожая цень.
Калі сэрца баліць
За зняслаўлены край,
Прачынайся, народ,
Катам рады давай!

*Прыпеў:*
Белая Русь, чырвоная кроў.
Мы ўздымем над галовамі палотнішчы сцягоў.
Стары і малы ў адзінай чарадзе.
Старажытная пагоня наперад вядзе.

Колькі можна цярпець
Ганьбу простых людзей.
Беражыся, уладар!
Годзе ўжо, ліхадзей!
Час суда надышоў.
Хопіць крыўду рабіць!
І цябе і халопаў
Тваіх будзем біць.

*Прыпеў*

Ракутовічаў лёс
Нас на подзвіг заве
І да самых нябёс
Нашы спевы нясе.
Калі моц у руцэ
І агонь у крыві,
Заспявай, беларус,
І на бітву ідзі!

**Вёска маіх продкаў**

Старэнькія хаты, нямытыя твары,
Як быццам сто год нікуды не міналі.
Спіць вёска ў сваёй непрагляднай нядолі
Без думкі і радасці, шчасця і волі.

Убачыў на прызбе старую кабету,
Спытаў асцярожна: ці ведала дзеда?
Дзе жыў, што рабіў, мо зазнаў у жыцці ліха?
Зірнула старая і кажа мне ціха:

– Вунь там, на гары, дзе гушчэча бур'яну,
Калісьці прыгожая хата стаяла.
Бандарыў твой дзед са сваімі братамі,
Рабіў цэбры й бочкі сваімі рукамі.

Чалавек неблагі быў, з усмешкай заўсёды,
У свята да скокаў быў вельмі ахвочы.
Як зараз стаіць ён перада мною:
У вопратцы белай, з сівой галавою.

Гляджу на старую – у чым апранута
Мая суразмоўца бабуля Станюта:
Стаптаныя боты, спадніца на латках,
Сядзіць і сумуе ля шэранькай хаткі.

Ляцеў век наперад, плылі параходы,
Ішлі цягнікі, будаваліся заводы,
Ракета ў космас імкнулась стралою,
Кампутар звязаў людзей між сабою.

А тут час застыў і нябачна прасвету...
І горка, і цяжка, і сумна паэту.

**Дачцэ**

Мая маленькая жанчына,
Мая любімая дачка,
Мая танюткая галінка,
Ты прыгажэеш на вачах.

Як кветка, што была ў бутоне,
Аднойчы зранку расцвіла.
Я пакладу ў твае далоні,
Кавалачак майго цяпла.

Ты пранясі яго, дачушка,
Дарогамі свайго жыцця.
Хай назаўжды пад тваім дахам
Прытулак знойдзе дабрыня.

**Будзем жыць**

Мы ўжо ведаем, хто мы такія.
Мы ўжо бачым, адкуль наш род.
Больш ніколі ў бядзе не пакіне
Сваю спадчыну годны народ.

Хай крычаць пустасловы варожа,
Што мова нічога не варта.
Слова наша паціху дужэе,
Паглядзім, што будзе заўтра.

Не жадаем паўзці прыніжацца
Ні ў Маскву, ні ў Варшаву, ні ў Лёндан.
Да апошняга будзем змагацца,
Пільна край берагчы свой родны.

Хай тыя хваляць забойцу,
Што забіў траціну народа,
Бо самі такія ж малойцы,
Без бацькаўшчыны і без роду.

Беларусь адродзіцца ў свеце,
Такі люд не можа знікнуць,
Пакуль жыве мова ў сэрцы,
Сваіх мясцін нам не кінуць.

Да бацькоў я звяртаюсь: Шаноўныя!
Пэўны час падарыце дзеткам,
Пра мясціны распавядзіце родныя,
Пра гарады, вёскі, палеткі.

Пра даўніх сваіх родзічаў:
Як зваліся, на што былі здольныя.
Нічога не вырасце ў полі,
Калі карані адсохлыя.

**Рэчка ў вёсцы Дабрынёва**

Мінула колькі год таму,
Калі павольна па пяску,
Каменьчыкі перакідаючы,
Вады ты несла срэбрыню.

Стаялі дзеці ў рацэ,
Трымалі сонейка ў руцэ.
Чародкі хуткіх печкуроў
У вадзе гулялі зноў і зноў.

**У. Караткевічу**

Вы мне далі шчырасць роднай старонкі,
Любоў да нашых рэчак і купін,
І спеў жаваронкаў празрысты і звонкі,
І піва гульню ў дубовых бочках.

Павагу да нашых славутых продкаў,
Што край баранілі ад ворагаў лютых
І смерць напаткалі на гэтых узгорках,
Крывёю і потам народа палітых.

З мінулым Айчыны моцную сувязь,
Якая мацнее ўсё год ад году.
Надзею на лепшы лёс нашай краіны
І веру ў годнасць майго народа.

Таму я ўпэўнены, словы паэта
Напоўняць сэрцы людзей дзіўнай сілай.
І стануць беларусы народам свету,
І схіляць галовы над Вашай магілай.

**У хаце пад Новы Год**

Пярынкаю белай накрыла сцяжынкі,
Падушкі ўзбіла зіма ля варот.
І скачуць у паветры сяброўкі-сняжынкі,
І шэпчуць на вуха: «Ужо Новы Год».

Павесяць на ёлку бліскучыя цацкі,
Хлапушкі і дождж ык-сярэбраны хвост,
І дзеткам на радасць – цукеркі на нітцы:
Хто можа – з'ясі, калі ўжо дарос.

Дарослыя сядуць за стол, як вядзецца.
І вып'юць па чарцы за новы свой лёс,
Каб шчасце хутчэй у іх пастукала дзверы,
Каб нешта прыемнае год той прынёс.

У хаце было каб што з'есці і выпіць,
Каб жыта ў полі стаяла сцяной,
Сяброў каб заўжды было поўна ў хаце,
І грошай у кішэні, як снегу зімой.

Хваробы каб дзетак міналі маленькіх,
Каб дужымі рукі да працы былі.
Здароўя яны пажадаюць старэнькім:
Няшмат засталось іх на нашай зямлі.

**Маёй жонцы**

Я цябе пакахаў,
Валасоў тваіх смоль,
Смелы позірк вачэй
І сэрца агонь.

Колькі б я не шукаў,
Не знайсці больш такой,
Каб у цемры начы
Так валодала мной.

Узлёт пачуццяў у грудзях,
Ну а потым спакой,
У дзіўны свет доўгі шлях,
Дзе нам добра з табой.

Што за моцныя крылы
Падарыў нам наш лёс!
Дапамогуць яны
Даляцець да нябёс.

Хай дазволіць мне Бог,
Каб апошні свой уздых
Я без страху сустрэў
На каленях тваіх.

Анатоль Бароўскі

# Мой японскі сябар

## Урывак з аповесці «Муха»



Наш рыбалавецкі сейнер ішоў прама на вялізны дыск расплаўленага сонца. І яно было так блізка перад намі, што, здавалася, выдажы руку – і апячэцца яна ад дотыку да чырвонай магмы.

Малінавае кола брыжыкам дакранулася да марской роўнядзі, разрэзала тоўшчу вады, і яна, падалося, засычэла і пачала падымацца ад яе пара; потым сонца апускалася глыбей і глыбей у нябачнае бяздонне, як бы спяшаючыся схавацца ад людскога вока ці хацела астынуць у вадзе глыбокага акіяна...

Потым яно нырнула зусім, і толькі водсветы яшчэ доўга трымаліся на небе і воблаках...

– Цё там цікавае ўбачыў, Антон сан? – ля майго пляча стаіўся Саяма, бліскучымі вузенькімі вочкамі ўзіраўся ў далячынь.

– Сонца, сонца нырнула ў мора.

– Харосяе сонца. Сонца – Бог.

Мой японскі сябар схіліўся ў нейкім таямнічым паклоне, склаўшы перад носам далоні – адна да адной, колькі імгненняў маўчаў, не мяняючы паставы.

– Люблю сонца, калі яно укладваецца спаць.

– Той, хто любіць сонца, той любіць Бога.

– Усе любяць сонца, але не ўсе любяць Бога.

– Затое Бог любіць усіх людзей. І даруе чалавецтву яго правіны.

– Дараваць вечна ён не можа...

– Так, не можа.

Ужо і водбліскі ад сонца зніклі, ужо і знаку ад іх не засталося, а на гарызонце роўненькім шнурочкам падзялялася прастора акіяна і неба. Потым і раздзяленне знікла, і ўжо суцэльная намітка шэрай сінечы была перад намі.

– Чаго ў тваіх вачах сум, Антон сан? Ад чаго боль у тваім сэрцы?

– Няма суму, Саяма сан. Ёсць стома. Дні ж цяжкія былі ў нас з табою.

– Былі, так... Але вочы не павінны адлюстроўваць тое. Розум не павінен падвяргацца ўплыву звонку. Мы павінны хаваць у сабе эмоцыі і не разбураць суладдзе душы і цела.

– Згодзен, Саяма сан, але ты не ўлічваеш розніцу ў нашым выхаванні. У вас з дзяцінства душа вучыцца разумець прыгожае і адчуваць, як б'ецца сэрца зямлі...

– Так, але ты з дзяцінства рос сярод дубоў і бяроз. І таму ты таксама ўвабраў е сябе дадатную энергію, уменне разумець і адчуваць наваколле. Не кожнаму ж дадзена здольнасць размаўляць з ляснымі жыхарамі і хатнімі жывёлінамі, нават з мухамі і камарамі, – а ты ў іх лічышся за свайго...

Я не змог яму запярэчыць.

Саяма гаварыў амаль праўду.

*

Расказвала маці, што некалі, даўно-даўно, калі я яшчэ і не памятаў самога сябе, згубіла яна мяне ў лесе. Дакладней сказаць, не згубіла, а не памятала, як тое адбылося, бо гарэла сама ў гарачцы і не ведала, куды ішла з немаўлём на руках. Адзінае, што памятала, як знясіленая прылегла пад сівым пракаветным дубам, паклаўшы мяне паміж двух пакручастых каранёў – як у калыску...

Прыйшла ў сябе невядома праз які час, і адчула, што была далёка ад таго дуба. Апамяталася – і жахнулася. Закрычала, рукі выдаўжыўшы ў неба, да Бога скрушна загаварыла, віналацілася, што так атрымалася – сына ў лесе пакінула, бездапаможнага, безабароннага, які і не ведаў яшчэ, што існуе на свеце гора і бяда...

Колькі дзён і начэй, мо і тыдняў, блукала па лесе, нічога ўжо не баючыся: страшней, як страціць адзінага сына, ёй здавалася, ужо нічога і ў свеце няма...

Яна забылася і пра свой голад, і пра тое, што яе пакідалі сілы, адно хвалявала яе – як адшукаць сына, і таму страх падштурхоўваў яе да нейкіх дзеянняў... Ведала, што заблудзілася, і таму не магла вызначыць кірунак – а куды ж ісці, куды кіравацца, каб выбіцца на тую адзіную сцежку, якая выведзе яе да таго месцейка... Жанчына як не ірвала на сабе косы, ганячы і ўшчуваючы сябе, што дапусціла такое... Цяпер ёй і жыць – не жыць...

Адшукала яна мяне зусім у іншым месцы.

Не пад пракаветным дубам я ляжаў, загорнуты ў рызззё, а ў жыце. У разоры. Не магла зразумець, чаго мяне туды занесла – хадзіць ці нават поўзаць я яшчэ не ўмеў. Але хто ж мяне туды занёс-перанёс?

Дзіўна было маці – я яшчэ быў жывы, бо за некалькі сутак, як яна шукала мяне, я павінен быў памерці альбо змарнець да непазнавальнасці... Дзіўна, але я яшчэ быў і вясёлы. Усміхаўся, гледзячы на матулю, спрабаваў нешта сказаць – такое ж раднаснае і вясёлае, як падбадзёрыць яе, суцешыць, як быццам несвядома ведаў, што трапілася ў яе на сэрцы. Маці не верыла свайму нечаканаму шчасцю, не верыла раптоўнаму цуду, што адбыўся на яе вачах... Мо яна ад радасці і страціла зноў прытомнасць, паваліўшыся побач са мною, паспеўшы толькі нахіліцца ў адваротны бок, каб не прыдушыць сабой дзіцёнка...

Калі ж ачнулася, убачыла блізка каля свайго твару вачыныя вочы. Вочы былі не злыя, а добрыя, як чалавечыя. І таму маці не спалохалася, нават заўсміхалася, спрабуючы ўстаць, шапнула нешта ласкавае лясному зверу, каб ішоў сваёй дарогай...

Калі ж ваўчыца падышла да немаўляці і нахіліла над ім галаву, – як праверыла сядно, ці зручна ляжаць маленькай істоце, то толькі тады маці ўбачыла, як адвісліяе сасцы – амаль сунуліся па зямлі, – і тады ж уцяміла, што перад ёю стаіць ваўчыца. Ваўчыца-маці.

Яна скавытнула працяжна, узняўшы галаву да неба, страсянула з сябе шэра-срэбную поўсць. Як быццам адчула нейкую палёгку, як быццам скінула з сябе нейкі нябачны цяжар.

А я, аказваецца, даўно вылузаўся з пялюшак, круціў неспакойна рукамі і нагамі, глядзеў на ваўчыцу, а не на маці, і біў яе няўцямна па сасках...

Маці нешта зразумела, але найперш адчула, хто быў выратавальнікам немаўляці.

Ваўчыца ўхапіла зубамі чорную нежывую гадзюку, якая ляжала па другі бок дзіцяці (адкуль яна з'явілася тут, і хто яе задушыў? Ваўчыца, ратуючы немаўля?!), аднесла яе колькі крокаў і, матлянуўшы галавой, адкінула чорную вяроўчыну як мага далей.

Ваўчыца вярнулася, стала над дзіцём, апусціўшы да твару чорныя саскі. І малы ўхапіўся з іх рукамі, пачаў смактаць...

Ваўчыца знячэўку завыла, прызадраўшы галаву да ільдзінкі-месяца, што слаба выдзяляўся на купале неба, – і болей не захацела глядзець на жанчыну. Больш таго, падышла да яе і, задраўшы нагу, пякучымі пырскамі ўдарыла ў твар, як абязначыла яе, як зняважыла, як папракнула, што вялікі грэх узяла на сваю душу, пакінуўшы роднае дзіця...

Маці не выцiралася, прыняла абразу як плату за свой грэх, адно хіба сагравала душу – жывы, жывы яе сын, і выратавала яго ад галоднай смерці і ўкусе гадзюкі яна, ваўчыца!

Не аглядваючыся, бо ваўчыца і не ўмела аглядвацца, яна пакрысе пачала перабіраць нагамі, каб пакінуць людзей, не замінаць ім...

І сама радая была, што чалавечая маці знайшла сваё дзіця...

Запознена, што можа ваўчыца і не пачула яе, прамовіла наўздагон, наўслед:

– Дзякуй табе, ваўчына, што ўратавала майго Тоніка!..

І толькі пасля гэтага схапіла аберуч цёплы камячок і прыціснула да сябе, шэпчучы і плачучы: «Роднeнькі мой, як жа гэта я цябе згубіла? Няма мне даравання, няма...»

А сын смяяўся, накормлены малаком ваўчыцы, шчасліва заплюшчыў вочы, ухапіўшы ручкай некалькі блакітных васількоў – як букет самых прыгожых кветак на зямлі падрыхтаваў для сваёй матулі...

*

– У нас сваё, — згаджаюся я, – але мы не надавалі таму асаблівага значэння, і не рабілі з таго культу, не абагаўлялі, нават і не лічылі за нешта значнае, што магло даваць карысць душы наступным пакаленням...

Саяма ўсміхнуўся, паварнуўшыся да мяне:

– Гэтая васая палясуцкая сціпласць... Як быццам самі сабе рыхтуеце пакутніцкі шлях і імкнецеся крочыць па ім усё сваё жыццё, як усё роўна Хрыстос, несучы на сабе крыж, каб на той Галгофе распнулі вас...

– Такія мы ўжо, і нас не перарабіць, – ківаю згодна галавой, згаджаючыся з яго ацэнкай і прысудам. Саяма глыбокі правідца і прарок. Ад яго дапытлівага розуму і рэнтгенаўскага пранізвання пластоў будучага і мінулага нічога не магло схавацца – ён як жывы мініяцюрны кампутар мог выдаваць без затрымкі складаныя формулы жыцця і іх рашэнне – нават пры самых цяжкіх абставінах. – Але якія мы сапраўды – і самі не ведаем...

– І добра, што не ведаеце! – ухваліў гучна мае словы Саяма. – Каб ведалі, то і не былі б такімі.

Я разумею яго і не разумею. Хаця з усіх сілаў стараюся тое зрабіць. І калі я напручваю мазгі свайго інтэлекту, то тады нараджаецца ўпэўненасць, што мне зразумелая яго загадкавасць і яго жыццё, узведзенае ў культ, узнятае на самую высокую вяршыню японскага падпарадкавання цудоўнаму і прыгожаму.

«Добра мне з табою, Саяма сан, – удзячна адрасую яму маўклівае прызнанне і ўдзячнасць. – Радней за роднага брата ты для мяне стаў на гэтай планеце...»

«І ты мне радней за ўсіх, Антон сан, – парыруе мне тым жа самым мой сябар, – і добра, што нас звёў лёс. А лёс – гэта таксама Бог. Нічога выпадковага не бывае ў нашым жыцці. Бо ў нас кажуць – харошых сябруkoў сустрэнеш не часта, а дурняў – хоць гаць гаці».

Між намі існуе суладнасць.

У нас з ім – узаемаразуменне. Згода і зладжанасць...

*

Наш сейнер не зразумець пад якім сцягам выйшаў у мора, якой краіне належыць.

Акіянская параходства Тайваня набірала добраахвотнікаў на рыбалавецкі сейнер «Чорная пантэра». Я і не ведаў пра тое, хаця колькі разоў наведваўся да начальства прычалу. Але ці то я сваім выглядам наводзіў падазронасць, ці па мне было бачна і няўзброеным вокам, што з мяне храновы марак і рыбалоў, – мне кожным разам маўкліва паказвалі на дзверы.

У скверы я адшукаў лаўку і бавіў на ёй час – праседжваў на ёй гадзіны. Грошы мае заканчваліся, ад гасцініцы прыйшлося адмовіцца, заставалася толькі на некалькі абедаў у танай сталоўцы.

Калі да мяне падсеў незнаёмец, я і не заўважыў – драмаў, апусціўшы галаву на грудзі. Адчуў толькі яго прысутнасць. І пасля гэтага не паварочваў да яго галавы – мяне не цікавіла, хто сеў побач...

– Саямам мяне маці назвала, – загаварыў першы сусед па лаўцы, не гледзячы на мяне, а некуды ўдалеч, у бясконцы акіян. – А цябе Антон сан, ці не так?

Я нічога не адказаў, але павярнуўся на яго голас. Адразу вызначыў, што ён быў родам з краіны Узыходзячага Сонца. Але ўжо здзіўлена глядзеў на яго, не могучы зразумець, што ён хоча ад мяне. Было жаданне, каб ён як мага хутчэй адчапіўся ад мяне, пакінуў аднаго...

– Плаваць хоцаца, а цябе не бяруць на борт, ці не так, Антон сан?

– Так. Адкуль ведаеш?

Саяма загадкава ўсміхнуўся, пахітаў часта галавой.

– Прыходзь заўтра на гэтае месца. У такі ж час. Заўтра зоркі павернуцца па-іншаму. Таму ўсё будзе добра.

*

Я прыйшоў на ранейшае месца. Але не з-за таго, што мне прызначыў час Саяма, прoста я ўжо амаль месяц прыходжу да лаўкі, сядаю і чакаю, калі мяне паклічуць начальнікі – ім добра відаць з акна, што я штодзённа стаю на варце...

Ён, той, што набіваўся ў мае знаёмыя, ужо сядзеў на лаўцы, як чакаў мяне. У мяне было такое ўражанне, што ён і не знікаў нікуды, быў тут увесь час...

Мы павіталіся, і першым маім пытаннем было:

– Адкуль ты ведаеш маё імя?

– То ёсць вялікі-вялікі сакрэт. Бо я ёсць вялікі-вялікі чараўнік. Я магу сказаць, як завуць тваіх бацькоў, брата, каханую жанчыну...

– Скажы, – захацелася праверыць яго.

– Маці – Ганна, бацька Мікола, брат – Міколка, а сэрца твайго суцяшэння – Яніна...

Мне прыйшлося толькі падзівіцца здольнасцям майго знаёмага:

– Усё так, Саяма сан. Сапраўды – ты чараўнік.

Ён павёў мяне на прычал. Той чалавек, які аднастайна мне адмаўляў у найманні на працу і не глядзеў мне ў вочы, радасна заўсміхаўся, нахіліўся ў нізкім паклоне, запрасіў нават сесці. Гаварыў Саяма. Тлумачыў. Начальнік – у фуражцы з бліскучай чэшкай – ківаў згодна галавой. Потым падаў нам дзве блакітныя паперчыны з круглай пячаткай унізе.

– Кантракт на паўгода. Аплата нармальная. Мы будзем з табою разам плаваць. Ты не супраць, Антон сан?

*

Каманда на сейнеры падабралася ніштаватая. Розныя людзі, розныя твары. Па камандзе можна было вызначыць, колькі нацыяў існуе на свеце. Ад кожнай краіны, мусіць, было па адным прадстаўніку. Можа я адзін і быў са сваёй Ліцвініі – адзін адзінага мы не ведалі...

Капітан сейнера – вёрткі і строгі чалавек, з завязанымі на патыліцы у пучок валасамі, – пры першым зборы абвясціў, што любіць і патрабуе поўнага падпарадкавання яго волі, не любіць і не церпіць непаслухмянства, і за тое можа быць самае строгае пакаранне.

– Усё будзе харасё! – шапнуў на вуха Саяма. – А капітан чалавек хоць і строгі, але ж справядлівы.

Я кіўнуў галавой.

І тыдзень, і два, і тры мы былі ў адкрытым акіяне.

І месяц, і два, і тры мы амаль круглыя суткі ганяліся за касякамі рэдкай рыбы, якую потым капітан прадасць па вельмі высокай цане.

Капітан звязваўся тады па радыётэлефоне з берагам, і да

 



нас падплывала вялізная субмарына, на якую мы перагружалі злоўленую рыбу. Кожнаму з нас рэгулярна выдаваліся чэкі на атрыманне на беразе ў банку заробленую валюту. Лічба расла і расла. Мне не верылася ў тое.

На «Чорнай пантэры» не было ні жанчын, ні спіртнога.

Здараліся сваркі, але да бойкі не даходзіла...

Аднаму бамбізе Саяма ў нечым не саступіў, і той замахнуўся, трымаючы гантэлю ў руцэ. Здавалася, Саяма нічога не рабіў, каб адвесці бяду, нават не сагнуўся, не адышоў хаця б на крок, – але зласлівец раптоўна закрычаў, выпусціўшы вочы – і рука стала безжыццёвай і бязвольнай, выпусціла гантэлю – і яна бразнулася прама на нагу... Ён яшчэ мацней закрычаў ад невыноснага болю.

Мусіць жа, затаіў бамбіза на японца зло.

*

Калі ж мы перасеклі мерыдыян, і калі ўвайшлі ў воды Ахоцкага мора, аднекуль, па ўсім небе, сышліся чорнасвінцовыя аблокі, знячэўку ўсчаўся шалёны і напорысты вецер – і нашую пасудзіну загайдала бы трэску...

Зразумела было, што нам дастанецца па самую завязачку – шторм нараджаўся ўвачавідкі, пагрозліва стагнаў, хваляваўся акіян, шпурляючы салёныя важкія пырскі на твары і спіну, стараючыся збіць нас з ног... У кожнага было трывожна на душы, але ніхто адкрыта не паказваў яе – было забаронена паказваць, бо мора не для слабакоў, мора любіць мужных і настойлівых...

А пасля ў дадатак паліў дождж – густы і напорысты.

У той час, як наш сейнер пачало разгойдваць усё больш і больш, мы з Саямам скончылі працу. Але не пацягнуліся да сваіх ложкаў, як раней, а засталіся на палубе – толькі трошкі адышліся ад рабочых месцаў і прыляглі на мокры брызент, каб адпачыць, перавесці дух...

Хаця зబольшага ўцягнуліся, сталі, так бы мовіць, двужыльнымі, і ўсё радзей і радзей пачыналі адчуваць стому, на гэты раз прыйшлося найбольш цяжэй... Але прыляглі мы не для таго, каб аддыхацца і набрацца сілаў – нешта не пускала спусціцца ў трум, замінала нешта.

А потым мы падняліся, каб сысці з палубы. Нешта хацелі сказаць адзін аднаму, ды не хацелася перакрыкваць шторм, які сварыўся-гірчэў на розныя галасы, гразіўся змыць нас у мора...

Саяма стаяў да мяне тварам, трымаўся за металічную парэнчу, чакаў, калі я першы зраблю крок і ён пойдзе следам за мною... Добра, што не заспяшаўся, добра, што затрымаўся на секунду-дзве, бо тут жа ўбачыў, як за яго спіной, у наш бок, на нас, кацілася вялізная бочка. У некалькі тонаў вагой. Ці яна сама сарвалася з мацавальнікаў, ці хто знарок яе адкруціў з асновы і піхнуў на японца, я не ведаў, – стаяла густая сцяна дажджу, і таму наўрад ці што можна было заўважыць у гэтай шэрані...

Я не крыкнуў сябру, каб пасцярогся, – ён бы і не пачуў мяне і не зразумеў бы, каго ці чаго трэба асцерагацца. Таму я пантэрай скочыў да яго і пацягнуў рэзка ўбок, – і ён упаў на мяне...

Бочка з грукатам пракацілася па тым месцы, дзе толькі што стаяў Саяма, ударылася аб кабіну, раструшчыла яе, паламаўшы і пашкодзіўшы рознае карабельнае начынне...

З палёгкай уздыхнуў, заплюшчыў вочы.

Саяма ўсё зразумеў, зірнуўшы, што нарабіла бочка.

Пільна зірнуў і туды, адкуль кацілася смерць. Падалося, што шэры цень прашмыгнуў за скрынямі, у якіх знаходзіліся канаты, і знік за гарой складзенага брызенту...

З твару Саямы цяклі густыя струмені дажджу, і ён не хаваўся ад яго, хадзіў заўсёды з непакрытай галавой.

– Антон сан... Я твой даўжнік. Ты мне ўратаваў жыццё. Я быў на валаску ад смерці.

– То я твой даўжнік, Саяма сан.

А шторм узмацняўся яшчэ больш, набіраў сілу, злаваўся і вар`яцеў.



Капітан выкрыкваў каманды, прымушаў усіх выконваць нашую ж работу, каб льга было зберагчы «Чорную пантэру», на якой яшчэ трэба было працаваць, і выратаваць саміх сябе, свае жыцці...

– Трымайся, Антон сан! – крычыць на вуха сябар, падтрымлівае мяне, каб не паслізнуўся і не пасунуўся па палубе да парэнчаў.

– Трымайся, Саяма сан! – адгукваюся я, учапіўшыся, што было сілаў у парэнчы, якія вялі да ўваходу ў чэрава сейнера. – Выстаім! Капітан выратуе нас!..

*

Шторм аціх толькі пад раніцу наступнага дня...

Мы, знясіленыя і нямоглыя, пападалі, дзе хто стаяў, хто дзе змагаўся са стыхіяй, ратуючы «Пантэру» і саміх сябе.

Трое сутак капітан не будзіў людзей.

Калі спаў ён сам, ніхто не ведаў.

А потым, калі ўсе прыйшлі ў сябе (ніводнага не прымусіў падняцца па камандзе), калі стала навокал ціха-ціха, калі выспелі на небе буйныя зоркі, калі мы ўсе да аднаго прачнуліся і адчувалі сябе шчаслівымі ад таго, што засталіся жывыя, з гонарам выбраліся з пекла, — загадаў капітан сабраць ўсяму экіпажу на верхняй палубе.

– Дзякую ўсім, што выратавалі «Чорную пантэру»! – абвясціў нам усім падзяку. – Дзякую, што ніхто не збаяўся стыхіі!

– То табе дзякуй, капітан Кісана! – нечакана для мяне пахваліў яго мой сябар.

Мы і не ведалі, як завуць нашага капітана.

– Дзякуй Кісану! Дзякуй Кісану! – падтрымалі вокліч усе да аднаго.

Здаецца, мацней за ўсіх крычаў я.

*

І прыйшоў апошні дзень нашага плавання ў акіяне.

Дзіўным для мяне было тое, што пачыналася і заканчвалася плаванне адным і тым жа пейзажам – у акіян апускалася малінавае кола расплаўленага сонца. Мы рухаліся на яго, не баючыся, што можам згарэць у крывавай чырвані гарызонту.

Нам аднолькава з Саямам падабалася сонца, мы аднолькава любілі і шанавалі Бога. Кожны свайго, але адзінага ў Сусвеце. І вельмі абодва жадалі, каб і нас любіў Бог...

Мы сядзім на лаўцы, схаваўшыся ад сонца, жуем цукаты, і Кэніці Саяма расказвае пра сябе... Я папрасіў яго расказаць, бо ён пра мяне ведаў усё-усё, а я пра яго анічагусенькі...

З цікавасцю слухаю, не прапускаючы ніводнага слова, бо за ўвесь час плавання нам не выпадала ніводнай вольнай хвілінкі пагаварыць...

– Калі ехаць з Модзі па асноўнай галіне кагасімскага кірунку, то, не даязджаючы трох прыпынкаў да Хаката... Ты ведаеш, што такое – Хаката?

– Не, канечне ж.

– Хаката Фукуока – гэта два гарады-суседзі на Кюсю. Але сёння пра іх можна сказаць, што яны браты-блізняты, бо вельмі разрасліся, і між імі няма ўжо дакладнай, як раней, мяжы...

– Зразумеў, Саяма сан.

– Дык вось, не даязджаючы трох прыпынкаў да Хакаты, знаходзіцца станцыя Касіі. Ад гэтай ужо станцыі, калі ісці дарогай праваруч, то дойдзеш да горада сінтаісцкага храма Касінамія, а леваруч – да бухты Хаката. То і ёсць мае родныя мясціны. І сёння перад вачамі стаіць вузкая каса, якая бясконца цягнецца ў мора. Гэтая каса злучае пабярэжжа з гарыстым востравам Сіганосіма. Калі ж добра ўгледзецца, альбо калі няма наміткі мройнага туману і свеціць сонца, то можна ўбачыць сілуэт вострава Наканосіма...

– Я ўжо бачу той востраў, Саяма сан, – кажу я, не расплюшчваючы вачэй, і сапраўды мне бачыўся той востраў, і быў ён прыгожы, таямнічы ў сваёй прыцягальнасці, у блакітным мроіве празрыстага туману...

– Веру, што ты здольны бачыць нябачнае і чуць нячутнае. Гэтае прыгожае пабярэжжа называюць Касійскім узмор`ем, а некалі, у старыя часы, яно было вядомым проста як бухта Касіі... Атома-но-Табібіта, вядомы канцлер, гуляючы аднойчы па беразе, склаў такія прыблізна радкі:

На беразе прыгожай бухты
Касіі ранічкай дзеці збіраюць
дарункі мора, чэрпаючы рукавамі чысты і бялюткі пясок...

– Любіш ты сваю радзіму.

– Люблю, Антон сан, і вельмі. Заставайся жыць у нас, вялікім чалавекам станеш, маючы такія здольнасці... Цябе ж там, на радзіме, арыштуюць і запхнуць у клетку...

Я маўчу. Ён ведае, які будзе адказ, хаця і не жадае паздзекавацца з мяне. Правярае, мусіць, ці ад няма чаго рабіць пацьвельвае з мяне.

– Правільна, што маўчыш. І таму ведаю, пра што думаеш. Ты пра свой край думаеш. Баліць сэрца і душа за тое, што творыцца там у цябе. Сэрца разрываецца ад таго, што не можаш дамагчыся шчасця і спакою радзіме. Што дыктатар дабраўся да ўлады і правіць свой баль, заганяе непакорных за краты. За адныя толькі словы «Жыве Радзіма!», «Радзіма ці смерць!» хлопцам пакутаваць гадамі за кратамі, а каго дык і зусім са свету зжылі...

«Саяма сан, не вырывай мне сэрца з грудзей, яно і так ледзьве трывае...»

«Добра, не буду... Даруй. Не ведаў, што табе так балюча».

*

У бухту мы прыйшлі пад раніцу.

Капітан стрымаў свае слова — усіх да аднаго разлічыў да апошняй іены. Дакументы на іх атрыманне выдаў.

Каманда не далічылася аднаго чалавека.

Таго, які неўзлюбіў Саяму.

Ніхто не ведаў, што з ім здарылася. Не ведаў пра тое і Саяма, хаця ў яго ніхто і не цікавіўся пра тое...

Перад тым, як развітацца назаўсёды, запрасіў мяне Саяма ў кавярню, якая называлася «Кайсо».

Маладзенькая афіцыянтачка, прыгожая і гнуткая, падала на стол па шкаліку японскай гарэлкі, усміхнулася ветла нам пульхнымі вуснамі, пажадала добра правесці вечар.

– Я даўжнік твой, Антон сан, – прамовіў ціха мой сябар і тут жа папераджальна забараніў мне што-небудзь пярэчыць, убачыўшы, як я ўвабраў у сябе паветра. – Дык вось слухай... Ты заўважыў, што я адразу, пры першай сустрэчы, пачаў гаварыць з табою на паляшуцкай мове? Спачатку з няправільным вымаўленнем – з «сё» і «ся», а пасля выправіўся. Пэўна ж, заўважыў, быць таго не можа. З цягам часу ты зразумееш чаму. Мы з табой разлучаемся быццам бы і назаўсёды, але яно не так, зусім не так. Але развітвацца павінны так, як і сапраўды быццам ніколі не пабачымся.

Як казаў ваш ліцвінскі класік Сваяк: «Заўсёды развітвайцеся назаўжды, хаця пакідаеце каханых хоць на адно ім[illegible]не...»

Мне прыходзілася толькі маўчаць, як загадаў ці папрасіў мой сябар.

Я падпарадкоўваўся жаданням і загаду Саямы. Глядзеў неадрыўна яму ў вочы, лавіў хвалі дабрыні і пяшчоты, што зыходзілі ад яго, хаця то ўжо былі не хвалі, а языкі полымя, якое гарэла штодня, і не спальвала, а толькі саграваля мяне, прыдавала сілы. Мусіць жа, сам Бог паслаў мне яго, каб я выжыў, каб не стаў бамжом ці прапойцам, ці яшчэ горш – злачынцам у сваёй вымушанай эміграцыі, калі абставіны выпхнулі мяне з маёй радзімы, ад чаго боль мой патроіўся. Бо боль на адлегласці – нашмат большы, невымяральны нават.

– Слухай сюды, Антон сан, – разліваў сябар па келіхах мандарынавы сок, – што я табе сказаць хачу. Падрыхтаваў я для цябе два падарункі. Недарагія. Каб не думаў, што я адкупіцца хачу. Ні ў якім разе. Дык вось, першы мой падарунак – дзоры. Не ведаеш, што гэта такое? Дзоры – мяккі абутак японцаў. Па-вашаму – тапкі, ходнікі, пасталы. Яны вельмі танныя, недарагія ў параўнанні з іншымі прадметамі абутку...

Саяма дастаў іх з-пад стала і паклаў побач на драўлянае крэсла:

– Вось яны. Акурат па тваіх нагах. Такі фасон можна купіць за паўіены ў любой японскай краме, але такія, як гэтыя, ты не купіш нідзе.

– І чым жа яны так адметныя? – асмеліўся я пацікавіцца, бо ведаў, што прыйшла пара і мне ўставіць свае тры грошыкі.

– Чым? А тым, што ты іх на ногі не насоўвай кожны дзень. Не адпачывай, як Шэрлак Холмс, вечарамі каля каміна, насунуўшы іх на ногі. Насі з сабой, а адзенеш толькі ў самых выключных і крытычных выпадках – калі будзе невыносна цяжка, ці калі надарыцца безвыходная жыццёвая сітуацыя, у якой ужо ніхто і нішто памагчы не здолее...

– Хочаш аблегчыць мне жыццё? – па-дурному пракукарэкаў, але Саяма не пакрыўдзіўся на маю заўвагу, нават і вокам не мірганиў.

– Я толькі даю табе магчымасць абысці нейкую дзікую і дурную сітуацыю. Дзоры – рэч карысная і неабходная. Табе – тым больш. Бо там у цябе, на радзіме, ідзе ўдушэнне святла і розуму. Ты ж адчуваеш абсурднасць і злачыннасць усяго, але нічога парабіць не можаш, каб спыніць рабаванне і вэрхал ведзьмаў... Таму памажы сабе сам, памажы краіне сваёй...

– Дзякую. І не толькі ад мяне.

– Першыя, даруй, разумныя словы, – заўсміхаўся Саяма, і яго вочы яшчэ больш звузіліся, сталі як шчылінкі, у якія прасвечвалася ранішняе сонца.

Я яшчэ раз падзякаваў – мімікай свайго твару.

– А цяпер другі падарунак, Антон сан. Ён маленечкі-маленечкі, як карабок сярнічак. Ён і выглядае як карабок запалак. Але калі ты ссунеш пальцам верхнюю пласцінку, то ўбачыш кнопачкі з літарамі і лічбамі. Гэта – радыётэлефон. Ты ж павінен са мной трымаць сувязь? Павінен. Ты можаш мне званіць у любы час – сярод ночы і днём, – і я табе адкажу. Калі ж мяне не будзе, альбо пільна буду заняты – адкажа нехта іншы, мо і мой электронны сакратар.

– Дык я ж і мовы толкам вашай не ведаю.

– А тое і не трэба. Калі ж ты будзеш гаварыць са мною, то на сваёй, а словы аўтаматычна будуць перакладацца на мову той краіны, куды будзеш званіць. Не верыш?.

Я акругліў вочы, не верыў, а калі і верыў, дык не ведаў, якім павінна быць маё здзіўленне. А ён смяецца з маёй недасведчанасці.

– Дык я ж нават яе і нумара не ведаю! – крычу я роспачна. – І ты пра тое ведаеш, Саяма сан!

Ён націснуў некалькі кнопачак з лічбамі, паклаў карабок перада мною на стале, прыўзняў матавую пласцінку, на якой бегалі-міргалі лічбы, шукаючы неабходныя, з мільёнаў нумароў выбіралі адзін, прызначаны для Яніны...

У мяне ўсё пахаладзела ўсярэдзіне – на экране высвецілася яна, Яніна, і яе нумар тэлефона. Бачыў, як яна ўзяла слухаўку, паднесла да вуха:

– Алё! Алё, я вас слухаю, гаварыце!

А ў мяне адняўся язык. Як змярцвеў. Як анямеў.

 

# Ідэалогія тэлекнопкі

***Сёлета ў Беларусі мяркуецца стварыць новы агульнанацыянальны тэлеканал. Ён будзе мець культурніцкі накірунак і называцца «Спадчына». Верагодней за ўсё, яна размесіцца ці то на расійскім канале-аналагу «Культура», ці то на канале «Россия».***

Між тым з новага года ўжо спыненае вяшчанне на ультракароткіх хвалях расійскіх радыёстанцый «Маяк», «Голос России», «Юность». Цяпер перадатчыкі, што выкарыстоўваліся для іхняй рэтрансляцыі, перададзеныя для вяшчання мінскай радыёстанцыі «Сталіца» і для абласнога радыёвяшчання, а згаданыя расійскія станцыі мусяць пры жаданні вырашаць пытанне пра сваю прысутнасць у нашай краіне з Міністэрствам сувязі ўжо на камерцыйнай аснове. Бо раней, як заяўляе беларускі бок, рэтрансляцыя «Маяка», «Голоса России» і «Юности» вялася за кошт сродкаў нашага рэспубліканскага бюджэту. Расейцы, што праўда, даводзяць, што яны задарма на нас не вяшчалі, а за ўсё спраўна плацілі.



Але рэч не ў гэтым, а ў тым, што пакрысе ў Беларусі павялічваюцца-такі аб'ёмы тутэйшага тэле- і радыёвяшчання, а расійскага, наадварот, скарачаюцца. Як кажуць, тэндэнцыя, аднак!

Тое, што гэта робіцца за кошт расійскіх радыёстанцый і тэлеканалаў, абсалютна натуральна, улічваючы іхнюю колькасць і ступень інфармацыйнай экспансіі ў нашай краіне. Працэс гэты ідзе як з ідэалагічных, гэтак і з тэхнічных прычынаў, бо новых частотаў для тых жа новых тэлеканалаў не набярэшся і застаецца пераразмяркоўваць тыя, што маюцца.

Беларусы ставяцца да гэтых пераменаў у тэле- і радыёэфіры па-рознаму: з аднаго боку, патрыятычна ўхваляюць такія захады – «глядзі і слухай сваё!», з другога боку, як спажыўцы занепакоеныя якасцю тэле- і радыёпрадукту – «ці застанецца што ў тэлевізары вартага?»

З-за шматгадовай манаполіі ў прасторы візуальных электронных СМІ беларускага тэлебачання здаецца, што апошнім часам тэлеканалы ў нас растуць, як грыбы пасля дажджу. Спачатку з'явілася Сталічнае тэлебачанне, затым – Агульнанацыянальнае тэлебачанне. Вось толькі паўнавартаснымі і беларускімі каналамі яны дагэтуль не сталі. І СТВ, і АНТ пераважна рэтранслююць расійскія тэлевізійныя каналы – адпаведна Ren-TV і расійскі Першы канал. Уласных праграмаў і там, і там – мізэр: навіны плюс усяго некалькі арыгінальных перадачы забаўляльнага кшталту. Напрыклад, на Агульнанацыянальным тэлебачанні, апрача выпускаў «Нашых навінаў», гэта праграма «Контуры» раз на тыдзень. Яшчэ ў лютым у эфіры АНТ з такой самай перыядычнасцю стане выходзіць ток-шоу «Выбар». Вось і ўсё тэлебачанне. Усё астатняе – расійскі тэлепрадукт. Што да свабоды слова на АНТ і СТВ, дык тут яны выглядаюць клонамі Першага нацыянальнага каналу – БТ, БТ-1, БТ-2... Ды і кіруюць усімі трыма каналамі знаёмыя ўсё твары, якія калісьці працавалі адной камандай на Макаёнка, 9: Першы нацыянальны ачольвае Ягор Рыбакоў, Агульнанацыянальнае тэлебачанне – колішні кіраўнік БТ Рыгор Кісель, дапамагаюць яму прыйшоўшыя адтуль жа Юрый Казіятка і Ягор Хрусталёў, на Сталічным тэлебачанні, якое ў народзе называюць інфантыльным, кіруе былы намеснік старшыні Белтэлерадыёкампаніі Аляксандр Зімоўскі.

Пра беларускасць новых каналаў АНТ і СТВ і гаворкі няма. У параўнанні з імі крытыкаваны з усіх бакоў Першы нацыянальны тэлеканал выглядае ў гэтым сэнсе вельмі нават прыстойна.

Між тым апошнім часам з вуснаў прэзідэнта багата гаворыцца пра тое, што ў краіне запушчаная ідэалагічная праца, у тым ліку і што да беларушчыны. У гэтым кантэксце палягае і задума стварыць культурніцкі канал «Спадчына». Такія намеры падаюцца быццам бы досыць натуральнымі ў кантэксце таго, што беларускія ўлады, а ў прыватнасці прэзідэнт, усё больш акцэнтавана гаворыць з незалежніцкіх пазіцый. Ці дакладней, змушаныя так казаць пасля жорсткіх крамлёўскіх дэмаршаў. Але пры гэтым да дбання пра нацыянальна каштоўнасці як элемента трывалай дзяржаўнай палітыкі дужа далёка. Бо далей за словы справа чынна не ідзе ані ў справе пазбаўлення ад эканамічнай залежнасці ад Расіі, ані ў беларусізацыі.

Таму і пра праект з той самай «Спадчынай» усе могуць папросту забыцца, як бы натхнёна ні казалі. Альбо ўвасобіць яго на капыл СТВ і АНТ, то бок размясціць на адной кнопцы з расійскай «Культурай». Калі насамрэч так станецца, то тады можна з упэўненасцю казаць, што ў Беларусі ўлады спрыяюць пашырэнню не нацыянальнага тэлебачання, а ўсяго толькі рэгіянальнага – з дэкорам мясцовай рэкламы і навінаў.

Дарэчы, зрабіць выснову, наколькі ўлады гатовыя беларусізаваць тутэйшую інфармацыйную прастору, можна будзе зрабіць па выніках перарэгістрацыі электронных і сецевых СМІ ў Беларусі. Паводле пастановы Савета міністраў, яна павінна быць праведзеная на конкурснай аснове да 1 чэрвеня гэтага года: усе без выключэння тэлеканалы і радыёстанцыі, якія жадаюць вяшчаць у нашай краіне, мусяць атрымаць ліцэнзію ад Міністэрства інфармацыі. Прымаць рашэнне, каму даваць і якую частату, будзе адмысловая камісія з дзевяці экспертаў. Не выключана, што пасля працэдуры перарэгістрацыі расійскіх электронных і сецевых сродкаў масавай інфармацыі ў Беларусі стане яшчэ меней.

Да тых жа, хто застанецца, будуць высунутыя шэраг новых вымогаў. Прынамсі, наконт гэтага ў Мініінфармацыі ўсур'ёз раздумваюць. Прыкладам, расійскія радыёстанцыі мяркуецца абавязаць пэўную частку эфіру, каля трацiны, аддаваць беларускай музыцы і навінам. Магчыма, што такія самыя, а то і большыя патрабаванні будуць тычыцца і нашых радыёстанцый. Іх варта, як робіцца, напрыклад, ва Украіне, як мінімум чвэрць эфірнага часу рабіць беларускамоўным. Па вялікім рахунку, падобныя захады супраць замежнай культурніцкай экспансіі – гэта без перабольшвання пытанне нацыянальнай бяспекі.

Застаецца дачакацца, калі пра гэта парупяцца беларускія ўлады? Ці іхні інтарэс толькі ў тым, каб зменшыць палітычную інфармацыйную экспансію з боку Расіі, хаця і гэта таксама досыць слушна? І хай нехта назаве гэта зачысткай, а хтосьці – абаронай нацыянальных інтарэсаў. Але як гэта ні трактуй, тое, што Аляксандр Лукашэнка спрабуе гэта рабіць, навідавоку. Расійскі Першы канал пад кантроль ужо ўзяты: ягоныя праграмы нашае АНТ тасуе, як хоча. Пры неабходнасці нейкую непажаданую для палітычнага іміджу прэзідэнта Беларусі перадачу можна проста не пусціць у эфір.

Наперадзе верагодны ўжо сёлета рэферэндум «пад Лукашэнку» наконт таго, каб адзін чалавек мог быць прэзідэнтам Беларусі тры тэрміны, а ў 2006 годзе і чарговыя прэзідэнцкія выбары. Дасягнуць настолькі элегантнай перамогі, як у 2001 годзе, на іх і на рэферэндуме яму будзе не так проста. Рэйтынг Аляксандра Лукашэнкі зараз як ніколі нізкі – усяго 30,5 працэнтаў насельніцтва гатовыя за яго прагаласаваць паводле Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў. Унутраная апазіцыя для Лукашэнкі што камарыны ўкус, але калі супраць беларускага прэзідэнта пачне як след піярыць Расія, то гэтая лічба можа скараціцца адразу ў некалькі разоў. Так што на ўсякі выпадак – паболей сваіх самых розных каналаў!

Тым часам тыя, хто не любіць прэзідэнта, пачуваюцца збянтэжана. Быццам бы і правільна ўсё робіцца: з'яўляюцца свае беларускія каналы, тэлевізар крыху беларусізуецца, але ўсё гэта на падсілкаванне ўладам. От жа! Для іх нібыта свет клінам сышоўся на гэтай палітыцы і на Лукашэнку асабіста! А яшчэ ўсялякія там полі цудаў ці гардонаў паглядзець хочацца.

А вы вазьміце ды выкіньце тэлевізар наогул. На зло гэтаму Лукашэнку. Усё адно там анічога светлага і добрага не паказваюць, толькі пра катастрофы, пра праблемы са страўнікам у котак поп- і кіназорак, а да ўсяго яшчэ і палітычныя локшыны на вушы вешаюць. Так што выкідайце і не задумвайцеся! Лепш кніжкі чытайце!

**Кірыла ПАЗНЯК**

## Тэлеўздеянне

# *Народ для распусты гатовы. Амен*

Першы і другі каналы расійскага тэлебачання самыя даступныя нашаму гледачу. Безумоўна, яны штодзённа ўплываюць на свядомасць і на густ людзей, што марнуюць час свайго жыцця перад блакітным экранам. На жаль, уплыў гэты часам вельмі благі. Святочныя тыдні тэлевізар проста раздзірала ад напліву пошласці. Пэўную частку людзей проста ванітавала ад нашэсця парадыстаў з казармавымі жартамі. У гэтых адносінах паказальны водгук, які змясціла электронная расійская газета «Utro.ru», які мы ў скароце прапануем увазе нашага чытача.

Бачачы вакханалію постсавецкага шоу-бізнесу, хочацца плакаць. Божа, калі ж скончацца гэты, як казаў герой Шукшына, «бардэльера»? Узгадваюцца словы яго герояў: «Я пасею распусту ў гэтым горадзе» і геніяльнае «Народ для распусты сабраўся».

На двары 2003 год, а па тэліку па ўсіх каналах, як вар'яты, скачуць пенсіянеры з праграмы «Аншлаг», стомілённа памножаная Ала Барысаўна і два яе прыяцелі, буйнейшыя адкрыцці гэтага сезону – Галкін Максім і Баскаў Мікалай.

Я разумею, што за ўсю саўковую эпоху ніхто не дасягнуў вышыні папулярнасці Пугачовай і кожны, хто з ёй хоць раз за руку павітаўся, не кажучы аб больш блізкіх адносінах, імгненна рабіўся зоркай першай велічыні на савецка-расійскай сцэне. Разумею, што старэючая прымадонна даўно паклала вока на вядучага шоу «Хто хоча стаць мільянерам», а той, у сваю чаргу, зайздросціць салодкагалосаму «опернаму» шансан'е – але колькі можна тыражываваць іх узаемнае вар'яцтва па ўсіх каналах без перапынку на абед?

Можна пагадзіцца, што народ любіць парадыстаў. Але ж М.Галкін даўно не мяняе рэпертуар, паказваючы абрыдлага Жырыноўскага і Навадворскую, што даўно сышла з барыкадаў . Да ўсяго іншага гэты малады чалавек мужчынскім голасам спявае за Людмілу Зыкіну і чамусьці ўзяўся піярыць сваімі дуракаватымі жартамі Эдварда Радзінскага. Пачутыя ў соты раз у няспынных канцэртах жарты гэтага парадыста паступова выклікаюць адчуванне, што савецкая эстрада ўваскрэсла з мёртвых, а вясёлая і прафесійная загінула канчаткова. Я ўжо не кажу пра вывадак гнязда Рэгіны Дубавіцкай, больш вядомай у народзе як Дубіна Рэгавіцкая (пардон за гумар у стылі яе гадаванцаў). Вырасла ўжо цэлае пакаленне гледачоў, якія думаюць, што Вінакур і Лешчанка – гэта адзін артыст, і якія шчыра не разумеюць, над чым намагаецца пажартаваць Міхаіл Еўдакімаў, распавядаючы байкі ў стылі «Морда чырвоная такая». У гэтым хоры «дурнаватых» сатырыкаў тон задае ўжо не плоскі і заўжды нудны ад сваёй «дзікай» папулярнасці Яўген Петрасян, а яго неадораная сужоніца Сцепаненка, якая піскілявым голасам парадыруе калегу – Клару Новікаву (такую ж неадораную).

Асобным радком у навагодне-каляднай «забаўлялаўцы» стаяў дуэт двух Міхайлаў – Задорнаў і Жванецкі. Яны разведзены па праграмах, не па чыну ім у агульнай кучы засвечвацца, кожны здольны забіць гадзіну эфірнага часу адной сваёй былой веліччу. Прычым апошні стаў гэтакім модным канферансье і ледзьве не «дзяжурным па краіне дурнем» у праграме Андрэя Максімава, у якой ролі выклікае шчырае спачуванне, а першы ўсё намагаецца нязграбна наязджаць на замежнікаў, забываючы, што мноства нашых ужо самі пабачылі, колькі працэнтаў гумару ў фразе «яны тупыя, яны не разумеюць, як жыць трэба».

Узгаданы ўжо эстрадны тэнар Мікалай Баскаў засланіў сабой нават Філіпа Кіркорава: куды ні зірні – усюды яго адгадваная прыкрая фізіяномія і плоскія верхнія ноткі. А мог бы атрымацца з Баскава неблагі артыст акадэмічнай сцэны, калі б не спакуса мільённай аўдыторыяй і канфеці з серпантынам на галаву. Дык не – лаўры Магамаева не даюць спакою, у кожнай больш трэба быць затычкай, выклікаючы адмоўны рэфлекс адным фактам свайго з'яўлення ў любым шоу. Пра астатнюю эстраду айчынную, на падпеўках ва ўсіх гэтых расійскіх «каралёў попа», наогул маўчу. Там усё ясна: голы зад, сіліконавыя прывабнасці, штучны гук і шмат пёраў.

**Ігар Камираў**
**Utro.ru**



# Дзяржаўная анафема для пінскага пратэстанта

**Якаў Пацукевіч нарадзіўся ў 1928 годзе ў вёсцы Аўсемірава, што на Століншчыне. Пра сябе ён расказвае: «Усё маё жыццё з маладых гадоў – жыццё патрыёта. Яшчэ непаўнагадовым я ўдзельнічаў у працы, якая заслугоўвае не толькі пашаны, але і ўзнагароды». Сапраўды, ў вайну сённяшні пенсіянер Пацукевіч дапамагаў партызанам. Дагэтуль сябруе з начальнікам разведкі партызанскага атрада Іванам Богнатам. Напрыканцы вайны ўбіраў збожжа на зямлі тых, хто быў выгнаны ў Нямеччыну. Далей была служба ў Савецкай арміі – ён стаў музыкантам ваеннага духавога аркестра. Пасля дэмабілізацыі – брыгадзір будаўнічага ўчастка №9 у Пінску. «Дзе толькі не працаваў – заўсёды работа мая была добрая, ішла выдатна, маю шмат узнагарод», – кажа Якаў Пацукевіч. Якаў Васільевіч. глыбока веруючы чалавек. Вось за гэта ён быў бязлітасна пакараны тымі, хто сёння называе сябе хрысціянамі.**

Сум і боль, горыч за несправядлівы прысуд і палова пенсіі ў 51.392 рублі – тое, чым жыве сёння пенсіянер з Пінска Якаў Пацукевіч, веруючы царквы Адвентыстаў сёмага дня, патрыёт і сапраўдны грамадзянін сваёй краіны.

Нагодай для яго прысуду ў 1974 годзе на пяць год пазбаўлення волі сталі артыкулы аб незаконнай рэлігійнай дзейнасці ў Крымінальным кодэксе БССР. Гэтыя абвінавачванні, як аказваецца, актуальныя і дагэтуль, бо ў рэабілітацыі былому вязню органы ўлады адмаўляюць.

Пропаведзь Евангелля для Якава Васільевіча заўсёды была і застаецца значнай часткай яго жыцця. Вера звычайна прыносіць у жыццё радасць, надзею, напаўняе яго новым сэнсам. Але для Якава Пацукевіча яго рэлігійныя пераканнні сталі прычынай некалькіх год катаванняў у турме, ганьбы і здзекаў, хваробы, якая дагэтуль дае аб сабе знак. У 1974 годзе савецкія ўлады прысудзілі яму пяць год пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму. Вось абвінавачванне (вытрымка з вызначэння судовай калегіі па крымінальных справах Брэсцкага абласнога суда 6 жніўня 1974 г.): *«Пацукевіч Я.В., прызнаны віноўным у арганізацыі і кіраўніцтве незарэгістраванай рэлігійнай сектай Адвентыстаў сёмага дня, неаднаразова праводзіў зборы веруючых у Пінску. ... Пацукевіч стварыў спецыяльны аркестр рэлігійнага накірунку, куды прыцягнуў моладзь».*



Сцэны суда ў далёкім савецкім 1974 годзе дагэтуль жывыя ў памяці Якава Васільевіча. Ён падрабязна памятае, як улады арганізавалі паказальны працэс над веруючым у гарадскім доме культуры Пінска, як застагнала ад нечаканасці заля, калі суддзя абвесціў прысуд, слёзы жонкі і дзяцей ... Пасля маральнага ціску на судзе для Я.Пацукевіча настаў яшчэ больш цяжкі час фізічных катаванняў за кратамі.

Пакуты для гэтай сям'і, на жаль, працягваюцца, справа жывая і сёння. З-за судзімасці ў 1974 годзе ў савецкія часы па ўжо даўно не існуючых артыкулах (арт. 139 ч.2 Крымінальнага кодэксу БССР прадугледжвае адказнасць за парушэнне закона аб аддзяленні царквы ад дзяржавы; арт 222 ч. 1 прадугледжвае адказнасць за арганізацыю ці кіраўніцтва рэлігійнай групай), памер пенсіі пенсіянера Якава Пацукевіча складае палову ад заробленай.

З мэтай рэабілітацыі і аднаўлення справядлівасці Я.Пацукевіч звярнуўся ў Вярхоўны суд. Аднак адказ, які пенсіянер атрымаў, мала чым адрозніваецца ад рашэння, прынятага ў 1974 г. Паводле Вярхоўнага суда, з часоў панавання камуністычнай ідэалогіі нічога не змянілася: «спасылка на тое, што ў дадзены час змяніліся абставіны, і грамадзянам не забараняецца верыць у бога, не з'яўляецца падставай для вашай рэабілітацыі», – піша першы намеснік старшыні Вярхоўнага суда Міклашэвіч П.П.

Звяртае на сябе ўвагу выкарыстанне Вярхоўным судом словаў «секта» і «сектанты» ў адносінах да веруючых царквы Адвентыстаў сёмага дня., паважанай ва ўсім свеце супольнасці веруючых, і дарэчы, афіцыйна зарэгістраванай у Рэспубліцы Беларусь. У гэтым і шмат у чым астатнім сучасныя афіцыйныя дакументы амаль не адрозніваюцца ад пастаноў і рашэнняў, прынятых па гэтай справе ў 1974 г. Слова «секта» ўвогуле зараз вельмі актыўна ўжываецца ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі і становіцца ганебным штампам для шматлікіх рэлігійных груп і цэркваў. Прычым выкарыстанне гэтага слова ў дачыненні да існуючых рэлігійных канфесій і дэнамінацый абсалютна незаконнае і неправамернае, паколькі адносна рэлігійнай абшчыны такога паняцця няма ўвогуле. Аднак гэта не замінае сёння дзяржаўным служачым больш, чым калі, ужываць гэта слова.

Несправядлівасць не зламала духу веруючага. За гады зняволення ён перажыў холад і голад, сардэчныя прыступы, цяжка фізічна працаваў амаль без выходных, захварэў на сухоты. Пасля адказу з Вярхоўнага суда, ён звярнуўся ў Палату прадстаўнікоў, да дэпутата І.Пашкевіча. У сваім лісце ён напісаў, што дагэтуль нясе пячатку прыніжэння і ганьбы, а таксама матэрыяльныя страты. Пяць год зняволення, адрэзаныя ад агульнага стажу працы, а таксама былая судзімасць не даюць годна існаваць на сваёй зямлі. Яшчэ адна цікавая акалічнасць: *«дасылаючы сваю заяву ў Вярхоўны суд, я быў упэўнены, што рашэнне будзе на маю карысць. Аднак у Вярхоўным судзе маю справу дакладаў суддзя Пташнік, які мяне судзіў тады ў Пінскім судзе. Як жа можна прызнаць памылковым сваё ранейшае рашэнне?»* – піша ў сваім лісце былы вязень.

Уся сям'я Пацукевічаў сёння належыць да царквы Адветыстаў сёмага дня. Якаў Пацукевіч, нягледзячы на сталы ўзрост, актыўна займаецца дабрачыннай дзейнасцю. У Пінску арганізаваў сталоўку, дзе харчуецца каля 150 чалавек у дзень, перадае гуманітарную дапамогу ў мясцовы дом інвалідаў, і такім жа ўстановам у Баранавічах, Іванаве і Драгічыне. Поўны аптымізму і жыццёвай энергіі, якой, як сам кажа, яго благаслаўляе Госпад.

*«Трэба сказаць, што мне неаднаразова як рэпрэсаванаму прапанавалі выехаць у Амерыку,* – піша пенсіянер у сваім лісце. – *Там забяспечаць усім: кватэрай, годнай пенсіяй, медыцынай. І я ўпэўнены, што ўсё гэта меў бы. Але мая родная Беларусь, мой народ і мая мізэрная пенсія ў 51 тысячу даражэй для мяне ўсяго, што магло бы быць. Для мяне жыццё – гэта аддансць маёй краіне».*

*

Прысуд у далёкіх семідзесятых дзіўным чынам аказваецца жывым і актуальным у сённяшняй Беларусі. Нежаданне прызнаваць памылкі, звязаныя з камуністычным мінулым, робіць магчымым працяг тых жахлівых рэпрэсійных дзеянняў у адносінах да веруючых. Але тады ў савецкія часы людзі ішлі на тое, каб парушаць законы дзяржавы, каб выканаць закон Божы.

Зараз ужо не пішуць, што «змест рэлігійнай літаратуры напраўлены супраць навуковага светапогляду і камуністычнай маралі», зніклі таксама абрэвіятуры БССР і СССР, але не больш за тое. Шмат у чым астатнім сітуацыя далёкіх 1970-х гадоў пераклікаецца з сённяшнім днём.

Гісторыя вучыць, што права, якое дадзена чалавеку Богам, – верыць, любіць спадзявацца і дзяліцца сваёй надзеяй з бліжнімі, права на годнае і свабоднае жыццё, не пад сілу адмяніць нікому, нават калі адабраць пенсію ці пазбавіць волі, як гэта было пры савецкай уладзе.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

### З ліста Якава Пацукевіча

«У камеры 45 зняволеных. Уваходзяць два наглядчыкі, хапаюць мяне за рукі і цягнуць у калідор. Далей павялі ў нейкае малое памяшканне і загадалі распранацца дагала. Я спалохаўся, падумаў, што напэўна мяне тут заб'юць. Адзін капітан загадвае мне: «Сядай на кукішкі! Устаць! «Я устаў з паднятымі рукамі. Так працягвалася да таго часу, пакуль я не самлеў і не змог падняцца. ...Пасля мяне кінулі на 10 сутак у карцэр. Гэта было сапраўднае пекла. Холад настолькі апанаваў маё цела, што я быў на мяжы смерці. Сэрца гарэла агнём, боль быў нясцерпны, але я моцна маліўся да Бога, каб ён працягнуў маё жыццё. Толькі Госпад не дазволіў замучыць да смерці веруючага чалавека. Дзесяць жахлівых дзён скончыліся, і зноў у агульную камеру... Падалі талерку супу. Стаў есці, але не мог данесці да рота ніводнай кроплі, бо рука трэслася так, што немагчыма было нічога трымаць. Прыйшлося хлёбаць, як сабака....

Начальнік турмы некалькі разоў прапаноўваў мне – адрачыся ад Бога і веры і мы цябе адпусцім на волю. Я адказаў, што ніколі не адракуся. «Адрачэшся ад Бога, – казаў мне начальнік, калі я, як здавалася, быў ужо блізкі смерці, – пойдзеш на волю». Я адказаў, што без Бога мне не патрэбная воля. Ён сказаў, што раіць мне перадумаць, бо ў мяне ёсць дзеці. А я адказаў, што для мяне гэтае пытанне вырашанае, бо Хрыстос памёр за мяне грэшнага, дык і я гатовы памерці за Хрыста і за яго веру. З карцэра ў другі раз я выйшаў як шкілет, захварэўшы на сухоты, ад якіх пасля яшчэ доўга лячыўся».

### Вярхоўны суд РБ, 8 красавіка 2002 г. першы намеснік старшыні П.П.Міклашэвіч

«Вы прызнаны віноўным у тым, што з'яўляліся кіраўніком Пінскай групы сектантаў Адвентыстаў сёмага дня, насуперак заканадаўству аб культах, на працягу з 1968 г. праводзілі сабранні незарэгістраванай групы веруючых, а таксама непаўнагадовых і малалетніх дзяцей. Праводзячы нелегальныя сабранні сектантаў, прывозілі туды рэлігійную літаратуру, дыяфільмы. Праводзілі навучанне дзяцей рэлігіі з парушэннем вызначанага парадку. Пад выглядам пропаведзі праводзілі мэтаскіраваную работу на адрыў грамадзянаў, непаўнагадовых ад удзелу ў грамадскай дзейнасці, ад выканання імі грамадскага абавязку, у сувязі з чым дзеці сектантаў і іншых асобаў не наведвалі кіно, і іншыя массавыя мерапрыемствы, па суботах не ўдзельнічалі ў грамадскакарыснай працы.

У сваім звароце вы просіце рэабілітаваць вас, бо лічыце, што здзейсненыя вамі ўчынкі ў дадзены момант не пераследуюцца законам. Вашая просьба задавальненню не падлягае. Спасылка на тое, што ў дадзены час абстаноўка памянялася і грамадзянам не забараняецца верыць у бога, не з'яўляецца падставай для вашай рэабілітацыі за злачынствы, здзейсненыя ў 1974 г.».

# Гратэск няўдзячнасці

## *Чаму Купалаўскі тэатр адмовіўся ставіць п'есу «Наканавана быць Пракрокам»?*

У гэтым годзе споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Напярэдадні юбілею Купалы Нацыянальны тэатр імя Янкі Купалы абвясціў конкурс на п'есу, прысвечаную песняру. Вядомы драматург Алесь Петрашкевіч адгукнуўся і напісаў п'есу «Наканавана быць Пракрокам». Але, як ні дзіўна, тэатр адмовіўся ад пастаноўкі п'есы, магчыма, палічыўшы, што лепш у купалаўскі юбілейны год ставіць «Загублены рай» А.Курэйчыка, чым п'есу пра Янку Купалу...

А.Петрашкевіч не ўпершыню звяртаецца ў сваёй творчасці да гістарычнай мінуўшчыны Беларусі, да яе славутых людзей. Добра вядомыя такія п'есы Петрашкевіча, як «Напісанае застаецца», «Воля на крыжы», «Прарок для Айчыны» і іншыя. Гэтым разам драматург скарыстоўвае для сваёй п'есы асобу XX стагоддзя, паказвае стан грамадства ў 1930-ыя гады. Выбірае і беларускі сімвал гэтага стагоддзя – Янку Купалу.

Знайшлася газета, якая надрукавала п'есу Алеся Петрашкевіча, на жаль, гэта была не «Літаратура і мастацтва». П'еса з'явілася на старонках «Народнай волі», у нумарах за 16 і 19 лістапада мінулага года.

Пасля прачытання п'есы немагчыма застацца абыякавым да яе зместу і ідэі. Алесь Петрашкевіч пераканаўча паказаў стан рэчаў у культуры і грамадстве ў час усеагульных «чыстак». Аўтар выдатна арыентуецца ў палітычнай сітуацыі краіны ў 30-ыя гады. Перад чытачамі паўстае жудасная карціна сталінскага тэрору, калі паэтаў прымушалі падпісваць «адмаўленні» ад сваіх поглядаў і думак. На старонках твору мы сустракаем сумна славутага «літаратуразнаўцу» Бэндэ, які «кляваў» кожнага, хто мог узняць галаву. Ён перажыў не адно кіраўніцтва АДПУ, таму ён вольна адчувае сябе ў тагачаснай сітуацыі. Аўтар выкладае і славутую фальсіфікацыю 30-ых гадоў, гісторыю з выкрыццём «Саюза вызвалення Беларусі», якое было накіравана супраць беларускай нацыянальна-свядомай інтэлігенцыі, што нацыянальна абвінавачвалася органамі ў нацыянал-дэмакратызме, контррэвалюцыйнай і антысавецкай дзейнасці. За вясну-лета 1930 года было арыштавана больш за 100 дзеячаў навукі і культуры. Сярод іх шмат літаратараў – Максім Гарэцкі, Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча і інш. Самога ж Янку Купалу чэкісты «ўявілі» ў кіраўніцтва так званай арганізацыяй «Саюза вызвалення Беларусі». Як Купала пазбегнуў рэпрэсій і расстрэлу і апавядае п'еса «Наканавана быць Пракрокам».



А.Петрашкевіч паказвае і сям'ю паэта, яго дараду – Маці, занепакоеную лёсам сына. Праведзеныя аўтарам паралелі паміж вайной за незалежнасць краіны і вайной за «чысціню» светаўспрыняцця найбольш ярка характарызуюць палітычную сітуацыю ў краіне, калі людзі пішуць даносы адзін на аднаго, чакаючы, што сёння па іх прыйдуць. Сустракаем у п'есе вобраз і другога песняра – Якуба Коласа, які знаходзіцца пад наглядам пэўных органаў АДПУ. Таксама, як і іншыя пісьменнікі, Якуб Колас жыве ў пастаянным страху за сваё жыццё і за лёс сваёй сям'і. Добра вядомы факт, што Колас некалькі год клаўся спаць не распранаючыся, бо чакаў, што па яго прыйдуць. Менавіта таму ён і падпісвае так званае «адмаўленне».

Органы АДПУ выступаюць у п'есе як жахлівыя стварэнні, якія смокчуць кроў з жывых людзей. Цягаюць людзей на допыты, зневажаюць, збіваюць. Канешне, А.Петрашкевіч ідэалізуе Янку Купалу ў яго паводзінах са следчымі. Аднак пададзены вобраз Следчага вылучаецца з агульнай масы слугаў таталітарнай сістэмы. Следчы ў п'есе выратоўвае Янку Купалу, папярэдзіўшы пра арышт, а сам канчае жыццё самагубствам. Мы павінны разумець, што таталітарная сістэма дзяржавы не прымала іншадумства, таму ўсе выступленні «супраць» адразу вынішчаліся. Аўтар насычае п'есу біяграфічнымі звесткамі пра Купалу. Чаму ён, прарок-пясняр, паспрабаваў скончыць жыццё самагубствам? Ці не павінен ён даваць прыклад астатнім? Перш за ўсё Янка Купала такі ж чалавек, як і астатнія, але паколькі ён творчая асоба, то больш балюча адчувае заганы грамадства, у яго менш ілюзій наконт перспектыўнасці грамадства, якія не змогуць спраўдзіцца. На шчасце, спроба самагубства скончылася няўдачай. Нават на бальнічным ложку Купалу пільнуюць органы, нават тут яго прымушаюць падпісаць «адрачэнне». Паэт падпісвае, бо разумее, што разумны чалавек не паверыць гэтай хлусні.

У п'есе скарыстана двухмоўе: парускую гавораць сакратар ЦК КП(б)Б, Першы следчы, Начальнік АДПУ, пабеларуску – Паэт, Маці паэта, Жонка паэта, Духоўнік паэта, Другі следчы і нават Даносчык (Бэндэ). Алесь Петрашкевіч выкарыстоўвае шмат вершаў Купалы, прычым не агульнавядомых: «Грай, мая жалейка...», «Разлад», «З песень аб няволі», «Перад вісельняй», «Як спытаюцца нас», «Блізкім і далёкім», «Слугам алтарным», «Прыстаў я жыць...», «Паўстань...». Некаторыя з іх працытаваны цалкам, а з некаторых – некалькі радкоў. Сустракаюцца і хрэстаматыйныя вершы «На сход!», «О так! Я – пралетар!...». Як бачна, драматург амаль не кранае савецкі перыяд творчасці паэта. Усім добра вядома, што паэт з сярэдзіны 1920-ых гадоў мала пісаў.

Здаецца зразумелым, чаму Купалаўскі тэатр адмовіўся ставіць п'есу Алеся Петрашкевіча. Відавочныя паралелі з сучасным станам грамадства. Сённяшні стан беларускай мовы і літаратуры вельмі падобны на стан грамадства ў 1930-я гады. Тады, пасля першай хвалі «беларусізацыі», адбывалася знішчэнне нацыянальных парасткаў інтэлігенцыі, што вяло да дэградацыі грамадства.

Найбольшы ж гратэск сітуацыі палягае ў тым, што тэатр носіць імя народнага паэта Янкі Купалы, таго самага, адлюстраваць драматычны лёс якога на сцэне не насмельваецца.

**Фёдар ДРАБЕНЯ**

# Папярэджанне пра бомбу

Вядомы пісьменнік і грамадскі дзеяч Васіль Якавенка нядаўна выдаў кнігу публіцыстыкі, назваўшы яе – «Крушэнне на ростані» (Мн., «Беларускі кнігазбор», 2002).

Том на першы погляд можа падацца велікаватым для публіцыстыкі – за 400 старонак кніжнага фармата. Пакуль не заўважаеш, што пад адной вокладкай уладкавана тры кнігі: адна пра беларускія радыяцыйныя праблемы («Чарнобыльскі сшытак»), другая – пра стан экалогіі ў Беларусі ўвогуле («Прыпяцкае веча»), яшчэ адна («У зямной смузе») – пра «экалогію» таксама, але ўжо сацыяльна-культурную.

Матэрыял у кнігу закладзены такі, быццам зазіраеш у пекла. Кожны раз, перагортваючы чарговую старонку з нясцерпна пякучым тэкстам, думаеш: вось яно, дно беларускага пекла, але чытаеш далей і бачыш – у гэтым д'ябальскім прадонні глыбіня невымерная.

Кампазіцыйна кніга пабудавана так, што напачатку выступае самая на сёння злабадзённая для беларусаў дамінанта – наступствы ядзернага ўдару, чарнобыльскай бяды, што пачалася апошнімі днямі красавіка 1986 года. Радыяцыйя працяла, пішa В.Якавенка, не толькі афіцыйна прызнаныя пацярпелымі (ды і то пад уціскам міжнароднай грамадскасці) 17 густанаселеных раёнаў: «калі б радыёенуклідзы раптам змаглі выблісніць накшталт электразваркі – па ўсёй Беларусі разлілося б мора агню». Справа, такім чынам, ідзе пра дэградацыю і масавае знішчэнне беларусаў ужо на генным узроўні.




Чаму злачынства супраць цэлага народа не было спынена на самым пачатку ядзернай катастрофы? Наадварот, пішa аўтар, яе наступствы былі засакрэчаны загадам з Масквы. Ну, а беларускія вышэйшыя кіраўнікі, у тым ліку першы сакратар ЦК КПБ Слюнькоў? Не, яны не запярэчылі злачынству, а замест тэрміновай арганізацыі ратавання народа, яшчэ фактычна садзейнічалі распаўзанню радыяцыйнага збруджвання Беларусі. Каб неўзабаве атрымаць высокія пасады ў Маскве.

У другім раздзеле кнігі В.Якавенкі засведчана, так бы мовіць, перадгісторыя таго, што ўрэшце выбухнула чарнобыльскай ядзернай катастрофай: «праца» імперскай сістэмы. Хто памятае савецкі час, можа згадаць, што ў грамадстве панавала ці не ўсеагульнае прадчуванне нейкай катастрофы. Многім здавалася – грымне трэцяя сусветная вайна, ядзерная. Для беларусаў гэта практычна спраўдзілася. Толькі разбамбіла іх не Амерыка, а ... Масква. Адтуль быў аддадзены загад на будаўніцтва спачатку тэхнічна ненадзейнай Чарнобыльскай АЭС на мяжы з густанаселенай і хлебароднай Гомельшчынай. Потым на правядзенне нейкіх рызыкоўных сакрэтных эксперыментаў па праграме Ванена-прамысловага комплексу. А калі выбухнуў рэактар – яшчэ і на «асаджванне» над Беларуссю вялізнай радыяактыўнай хмары, якая накіроўвалася ў бок падмаскоўных цэкоўскіх і генеральскіх дач. Фактычна, па беларусах, пішa аўтар, «асаджваннем» быў нанесены яшчэ адзін ядзерны ўдар магутнасцю не меней сотні атамных бомбаў, скінутых калісьці на Японію ў часе Другой сусветнай вайны. Так, пішa В.Якавенка, у канцы красавіка 1986 г. расчынілася рукатворнае «біблейскае прадонне».

Аўтар сведчыць, што пісьменнікі неадноўчы папярэджвалі вышэйшыя ўлады пра ўзрастаючую небяспеку тэхналагічных катастроф у сувязі з неахайным, бяздумным гаспадараннем, выступалі з артыкуламі, нарысамі пра шкоднасць татальнага асушвання Палесся, хімічнае атручванне глебы, а разам насельніцтва. На вялікае шкадаванне, пішa В.Якавенка, імперскія вышэйшыя кіраўнікі і іх прыкормленае атачэнне, увесь верхні паверх улады, адгарадзіўшыся ад народа спецпрывілеямі, «жылі сваім жыццём». Да чаго гэта прывяло – яскрава засведчана ў кнізе «Крушэнне на ростані».

Назву кнігі аўтар, калі ўжыў слова «ростань», відаць, даў на аснове матэрыялаў трэцяга раздзела. Уяўляецца, што ехаў некуды ў «светлую будучыню» груваcткі поезд пад назвай «СССР», да якога быў здавалася намертва прычэплены і «беларускі» вагон. Ды вось счэпкі ўсё ж саржавелі, перацёрліся, дзякуючы шматлікім экалага-тэхнічным ды палітычным дурнотам, – і на здзіўленне пасажырам і ўсяму беламу свету «нацыянальныя» вагоны аказаліся «суверэннымі». Тады ў кожным дзе раней, дзе пазней, у залежнасці, наколькі хутка пасажыры адчулі сябе еднасцю, нацыянальнай супольнасцю, вымудрылі свой палітычны матор і паехалі бліжэй да эканамічна моцных народаў. А беларусы...

Хто ўжо толькі не дзівіўся: дык народ мы з уласнымі патрэбамі ці бязроднае насельніцтва на чужой біржы працы? Вось і В.Якавенка, грунтоўна займаючыся эканамічнымі ды экалагічнымі праблемамі, у нейкі момант усумніўся ў нацыянальнай арыентацыі сваіх суродзічаў. Хоць па гэтым пытанні праведзена нямала даследаванняў ды і гістарычны вопыт у цэлым сведчыць – такія беларусы, заглыбіўся і наш аўтар у мінуўшчыну, перагарнуў стосы дакументаў. І напісаў адпаведнае эсэ (у кнізе – «Беларусы – народ – не народ?»), дзе абвесціў вырак: усё ж – народ. Толькі не заўсёды выразна ўсведамляе гэта. «Мне застаецца, – падсумоўвае пісьменнік, згадаўшы, колькі беларусы самі сабе шкодзілі, – спадзявацца на патэнцыяльную мудрасць і хуткае прасвятленне свайго народа».

Забываючы, калі працягваць біблейскую алюзію пра бездань, прадонне, ужытую аўтарам кнігі, што Анёл над Беларуссю ўжо ўструбіў, і ляшчэ ў красавіку 1986 года ўпала з неба злая зорка расплаты Палын. А ўструбяць жа, згодна Апакаліпсісу св. Іаана Багаслова, і наступныя Анёлы. І расчыніцца прадонне, і агорне зямлю пякельная смуга, засцячы сонца. Так што, сказана ў Апакаліпсісе, вось ты радуешся – дасягнуў царавання, кажаш – маеш усё; а не ведаеш, што ты ўжо і ўбогі, і сляпы, і жабрак, і няшчасны...

Чытаючы апакаліпсную кнігу В.Якавенкі, асабліва выразна пачынаеш разумець, што экалага-сацыяльная «бомба» запаволенага знішчэння закладзена пад усё беларускае насельніцтва незалежна ад палітычнай арыентацыі кожнага, прасталюдзіны гэта ці начальства. Публіцыстыка Васіля Якавенкі заключае ў сабе суровае папярэджанне ўсім нам, яна дапамагае акрэслена ўсведамляць беларускія духоўныя і жыццёвыя каардынаты ў прасторы і часе. Толькі не зусім зразумела: чаму адны артыкулы друкуюцца па-руску, другія – па-беларуску? Вынік паспешлівасці? Бо зусім не аргумент, што так яны раней публікаваліся ў перыёдыцы. Аўтарская кніга ўжо сама па сабе вымагае ў пэўным сэнсе цэласнасці.

**Эрнэст ЯЛУГІН**

# Архітэктурнае асяроддзе

З'яўленне тых ці іншых тыпаў архітэктурных пабудоў заўсёды вызначалася палітычнай сістэмай краіны, яе грамадскім укладам, прыроднымі ўмовамі, рэлігійнай сістэмай і народнымі традыцыямі. Тут дарэчы прыгадаць словы Віктора Гюго: «З самага пачатку стварэння свету і да канца XV ст. хрысціянскай эры дойлідства было вялікай кнігай чалавецтва, асноўнай формулай, што вызначала чалавека на ўсіх узроўнях яго развіцця». У перыяд феадалізму асноўнымі тыпамі манументальных збудаванняў былі замкі, манастыры, гарадскія і вясковыя храмы. Але час ідзе, і ўжо ў XIX ст. уводзяцца зусім іншыя будынкі (заводы, вакзалы, банкі), якія адпавядалі патрэбам капіталістычнага грамадства.

У сістэме розных жанраў выяўленчага мастацтва архітэктура – з'ява найбольш шматпланавая. Яна не толькі вынік будаўнічай дзейнасці і ўвасабленне тэхнічнай культуры. Гэта таксама і з'ява мастацкая, якую трэба разглядаць у адзінстве з ідэйнай асновай дойлідства, з яго тэхнічнымі і канструктыўнымі асаблівасцямі.

Мастацкая каштоўнасць архітэктурнага твора вызначаецца адпаведнасцю яго эстэтыцы эпохі, спалучэннем яго знешняга і ўнутранага аблічча, якое складаецца з агульных, кампазіцыйных формаў і формаў асобных, дэталёвых.


Шматпакутны палац Радзівілаў у Нясвіжы

Нечаканы пажар у Нясвіжскім замку асвятліў злабадзённасць праблемаў захавання і рэстаўрацыі архітэктурных помнікаў Беларусі. Няўвага, якую традыцыйна мела з боку дзяржавы нерухомая спадчына, у апошняе дзесяцігоддзе ўзмацнілася. Бо калі нават нешта і робіцца, то робіцца насуперак міжнародным хартыям і здароваму глузду. Сумным прыкладам тут можа служыць «прабітае» зацікаўленымі коламі і чынавенствам будаўніцтва паркінга на Нямізе ці мінскі Стары горад, які ў выніку непаважных перапрацовак стаў замкнёным раёнам горада, выключна прытулкам фірмаў і паркінгам для іх службовага і асабістага аўтатранспарту. Прычым, усё гэта з ухвалення адказных службаў. У нас паўсюдна страціліся традыцыі турыстычнага абслугоўвання на маршрутах да памятных мясцін і помнікаў культуры. Сёння цяжка назваць гістарычную мясціну, куды б можна было з пачуццём гонару павезці гасцей краіны. У большыні сваёй насельніцтва, у тым ліку начальства рознага рангу, не ўяўляе неабходнасці захавання спадчыны мінулага, вартасці помнікаў, няпростых праблем рэстаўрацыі. Разараюцца старажытныя гарадзішчы. Бачачы непакаранасць афіцыйных асобаў, шчыруюць «чорныя следапыты» і шукальнікі скарбаў. З улікам гэтых бедстваў газета распачынае друкаваць серыю матэрыялаў, прысвечаных беларускай архітэктурнай спадчыне, якія могуць быць выкарыстаны аматарамі краязнаўства, школьнымі настаўнікамі, якія ладзяць экскурсіі для моладзі, для прапаганды ведаў пра помнікі нашай даўніны.

Прынцып пабудовы архітэктурнага твора, суадносіны і ўзаемасувязь паміж асобнымі часткамі складаюць яго кампазіцыю. Да агульных формаў адносяцца прапорцыі і асноўныя аб'ёмы будынка. Дэталёвыя формы – гэта асобныя архітэктурныя элементы, дэталі будынка: калоны, гзымсы (карнізы), балконы, ляпная аздоба вокнаў і дзвярэй, тэктанічныя і пластычныя сродкі дэкору.

Вельмі важная канструкцыйная асаблівасць архітэктуры – трываласць, што забяспечвае захаванасць збудаванняў на доўгія часы. Усе гістарычныя канструкцыйныя сістэмы можна падзяліць на нясучыя (сцены, слупы, іншыя апоры) і перакрываючыя (бэлькі, скляпенні). Апошнія заўсёды былі самымі складанымі для дойлідаў – ад іх перш-наперш залежыць трываласць і даўгавечнасць пабудовы. Агульны працэс развіцця архітэктурных канструкцый цесна звязаны са зменай будаўнічых матэрыялаў. Тэхналагічныя асаблівасці будаўнічых матэрыялаў у рэшце рэшт вызначаюць характар канструкцый. Тое, што можна зрабіць, скажам, з дрэва, не заўсёды атрымліваецца з цэглы і наадварот. Старажытныя грэкі, напрыклад, для манументальных пабудоў выкарыстоўвалі каменныя блокі, а перакрыцці рабілі з драўляных бэлек. У часы імператарскага Рыма шырока ўжываліся абпаленая цэгла і бетон. З гэтых матэрыялаў можна рабіць скляпенні розных формаў і памераў.

Нашы продкі, усходнія славяне, да прыняцця хрысціянства ўзводзілі будынкі выключна з дрэва. Новая рэлігія прынесла з сабою не толькі новыя архітэктурныя формы (храмы, палацы), але і новыя архітэктурныя матэрыялы: тонкую цэглу (плінфу), свінцовыя лісты для накрыцця дахаў, шкляныя шыбы для вокнаў і паліваныя пліткі для падлогі. Усе названыя вышэй складаючыя архітэктуры з'яўляюцца гістарычнымі катэгорыямі, якія прасочваюцца ў пэўным архітэктурным стылі.

Архітэктурны стыль – гэта сукупнасць характэрных асаблівасцяў, асноўных рыс архітэктуры пэўнага часу і пэўнага народа. Ён уключае не толькі элементы дэкору фасадаў і інтэр'ераў будынкаў, але і ўласцівыя для канкрэтнай гістарычнай эпохі прыёмы пабудовы планаў і аб'ёмных кампазіцый збудаванняў, а таксама будаўнічыя матэрыялы, канструкцыі, тыповыя формы і матывы мастацкага аздаблення. Архітэктура яскрава высвятляе сапраўдны характар гістарычнай эпохі незалежна ад таго, ці выкарыстаны ў ёй новыя стылёвыя формы, ці запазычаны старыя. Характэрныя асаблівасці эпохі адлюстроўваюцца ў абліччы нават тых будынкаў, стваральнікі якіх хацелі паўтарыць сваіх папярэднікаў.

Архітэктурнымі помнікамі мы называем тыя творы дойлідства, у якіх найбольш яскрава ўвасоблены характэрныя архітэктурна-мастацкія рысы і дасягненні пэўнай эпохі.

Вяршыняй творчага генія дойлідства з'яўляецца архітэктурны ансамбль – спалучэнне шэрагу збудаванняў, якія складаюць мастацка-планіровачнае адзінства і гарманічна ўзаемазвязаны паміж сабой у прасторы. Архітэктурныя ансамблі не заўжды ўзнікаюць па задуме аднаго архітэктара і будуюцца адразу. Даволі часта яны ствараюцца паступова, на працягу доўгага часу, некалькімі пакаленнямі дойлідаў. Унікальным архітэктурным ансамблем на Беларусі можна назваць Стары замак у Гродне, які ўяўляе сабой сістэму пабудоў XII – XVIII стст.

Прасторавая кампазіцыя паркаў і садоў, зон адпачынку і прыродных запаведнікаў – галіна садова-паркавай архітэктуры.

Неад'емная частка архітэктуры – інтэр'ер, унутраная прастора будынка альбо памяшкання і тыя рэчы, якія ў ёй знаходзяцца. Нярэдка гэта скульптура, фрэскавы і алейны роспіс, вырабы дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва (кафляныя печы, мэбля, дываны, габелены, маёлікавыя або фаянсавыя вазы і г. д.). Інтэр'ер больш за ўсе астатнія кампаненты архітэктурнага помніка рэагуе на замену густаў і моды і таму горш захоўваецца. Ён гіне ў першую чаргу падчас рамонтаў і розных сацыяльных канфліктаў. Большасць помнікаў беларускай архітэктуры ў выніку шматлікіх войнаў, пажараў і перабудоў цалкам альбо часткова страціла свае пачатковыя інтэр'еры.

Помнікі манументальнага дойлідства, узведзеныя з трывалых будаўнічых матэрыялаў, у першую чаргу з каменю і цэглы, захаваліся значна лепей, чым драўляныя будынкі народнай архітэктуры, і дайшлі да нас з больш даўніх часоў.

**Алег Трусаў,**
**кандыдат гістарычных навук**


Мінск. Сучасная капліца ў Серабранцы


Сядзіба Нямцэвічаў у Скоках. Малюнак Н.Орды

Да 100-годдзя з дня нараджэння Наталлі Арсенневай
**Конкурс імя Наталлі Арсенневай**

РГА «Беларускі ПЭН-цэнтр»

пры падтрымцы Беларускай асацыяцыі журналістаў, газетаў «Белорусская деловая газета», «Биржа информации», «Барысаўскія навіны», «Брестский курьер», «Витебский курьер», «Вечерний Брест», «Вольны час», «Газета Слонімская», «Де-факто», «Інтэкс-press», «Молодежный проспект», «Навінкі», «Народная воля», «Наша Ніва», «Наша слова», «Новая газета Сморгони», «Новы час», «Переходный возраст», «Рунь», «Рэгіянальная газета», «Телевид-инфо», часопісаў «Arche», «Студэнцкая думка», «Дзеяслоў», «Мясцовы час», інтэрнэт-выданняў «Літара.net», «Кнігі.com», «Дзед Талаш», «BARCnews.org», «Пагоня.promedia.by»

***аб'яўляе творчы конкурс для маладых літаратараў.***

Да ўдзелу запрашаюцца творцы ад 14 да 24 гадоў (на момант абвяшчэння конкурсу). Лаўрэаты конкурсу будуць запрошаны на літаратурны семінар і майстар-класы ў Мінск, дзе перад імі выступяць знаныя пісьменнікі, выкладчыкі ВНУ, вучоныя, барды, рок-спевакі, адбудзецца зацікаўленая гутарка аб іх творах і літаратурнай дзейнасці. Прызам для пераможцы конкурсу стане выданне ягонае кнігі.

На конкурс прымаюцца літаратурныя творы (вершы, апавяданні, эсэ, п'есы, сцэнары фільмаў, аўтарскія газеты, літаратурныя інтэрнэт-праекты і г.д.) Для ўдзельнікаў старэйшых за 19 гадоў пажадана (але неабавязкова) прадставіць рукапіс кнігі.

Да разгляду будуць прымацца творы, дасланыя (паводле даты на паштовым штэмпелі або даты адпраўкі электроннага ліста) не пазней за 15 сакавіка 2003 г. Падвядзенне вынікаў першага туру і адбор удзельнікаў семінару адбудуцца 25 сакавіка. Літаратурны семінар і майстар-класы пройдуць у Мінску на пачатку мая. Іх удзельнікі будуць забяспечаныя жытлом і харчаваннем.

Журы конкурсу: Міхась Тычына (старшыня), Андрэй Дынько, Ганна Кісліцына, Міхась Скобла, Андрэй Хадановіч.

Творы дасылайце на адрас:
**e-mail: pen@pen.unibel.by; паштовы адрас: 220050 а/с 218 Мінск**
**РГА «Беларускі ПЭН-цэнтр»**
Даведкі праз электронную пошту ці тэлефон (017) 288-14-61

# Літва змяніла Прэзідэнта

26 лютага прыме прысягу чацвёрты Прэзідэнт Літвы з 1990 года і шосты – з часу абвяшчэння незалежнасці Літвы ў 1918 годзе. Гэта – лідэр ліберал-дэмакратычнай партыі Раландас Паксас.

Па канчатковых дадзеных Дзяржаўнай выбарчай камісіі Літвы, за Паксаса прагаласавала 777.769 выбаршчыкаў, альбо 54,15% ад тых, хто браў удзе у галасаванні.

Дзеючы прэзідэнт Літвы Валдас Адамкус у першым туры амаль удвая апярэджваў свайго канкурэнта. Апроч таго ўпершыню ў сучаснай гісторыі Літвы восем буйнейшых палітычных партыяў, не зважаючы на ідэйныя і асабістыя рознагалоссі, салідарна засведчылі сваю поўную падтрымку дзеючаму прэзідэнту. Лідэры гэтых партый заклікалі ў другім туры «аддаць свае галасы за стабільнасць і ўзважанасць у палітыцы», гэта значыць за Адамкуса, і пры падтрымцы СМІ выступілі супраць Паксаса.

Нягледзячы на гэта, а можа і дзякуючы гэтаму, большасць выбаршчыкаў паверыла абяцанням Паксаса стварыць шмат працоўных месцаў, вярнуць замарожаныя папярэднімі ўладамі рублёвыя ўклады насельніцтва, вярнуць сельскай гаспадарцы статус стратэгічнай галіны гаспадаркі Літвы і г.д. Хаця трэба зазначыць, прэзідэнт Літвы па Канстытуцыі не займаецца пенсіямі, укладамі, беспрацоўем, а прыярытэтам ягонай дзейнасці з'яўляецца знешняя палітыка і абарона краіны. А тыя пытанні, вырашыць якія абяцаў у перадвыбарных прамовах Раландас Паксас, па заканадаўству Літвы знаходзяцца ў кампэтэнцыі прэм'ер-міністра, пасаду якога Паксас займаў двойчы.

Гэты малады палітык выклікае неадназначнае стаўленне да сябе як у самой Літве, так і за мяжой. Але адно зразумела, на палітычны Алімп Літвы ўзышоў новы, для постсавецкіх людзей нечаканы тып кіраўніка дзяржавы, які на сустрэчы са сваімі выбаршчыкамі прылятае на верталёце, які вядзе сам, па вечарах ганяе на звышхуткасным матацыкле і цалкам спакойна можа пакінуць кіруючае крэсла ў знак нязгоды.

Мяркуйце самі, атрыманне дакументаў па збору подпісаў у прэзыдэнты Раландас Паксас адзначыў вельмі арыгінальна. Разам з двума сваімі сябрамі ён праляцеў пад мостам цераз раку Нярыс. Гэта быў першы выпадак сумеснага пралёту пад мостам трох самалётаў, які прэтэндуе на занясенне ў Кнігу рэкордаў Гінеса. Адлегласць паміж «Як-50», на якіх быў здзейснены гэты палёт, складала каля двух метраў, даўжыня моста – 139 метраў, адлегласць паміж апорамі – 60,5 метра, вышыня ад паверхні вады – 8,5 метраў.

Паксас родам з Цяльшай, гэта мястэчка на паўночным захадзе Літвы. У 1979 годзе ён скончыў Віленскі інжынерна-будаўнічы інстытут, а ў 1983 – Ленінградскую акадэмію грамадзянскай авіяцыі. Працаваў лётчыкам-



інструктарам, а потым узначальваў Віленскі аэраклуб. Паксас уваходзіў у зборную Савецкага Саюза па паветранай акрабатыцы, перамагаў у міжнародных спаборніцтвах.

У 1992 годзе, калі Паксас быў першы раз абраны мэрам Вільні, ён быў ужо прэзідэнтам і саўладальнікам прыватнай будаўнічай кампаніі Restakas.

У 1999 годзе, не прабыўшы на чале кабінета міністраў і года, Паксас падаў у адстаўку, пратэстуючы супраць нявыгадных, на ягоны погляд, дамоваў аб пераходзе літоўскага нафтавага комплекса «Мажайкяй-нафта» пад кантроль амэрыканскага канцэрна «Уільямс інтэрнэшнл компані». Другі тэрмін прэм'ерства быў яшчэ карацейшым. Увосень 2000 года парламентарыі зноўку зацвердзілі Паксаса на пасаду прэм'ера. Але ўжо ўвесну наступнага года кааліцыя ўлады раскалолася, і ён зноў вымушаны быў сысці.

Ягоная жонка, у супрацьлегласць мужу, які не ўяўляе сваё жыццё без вострых адчуванняў – самалётаў, гонкаў на матацыклах, імкнецца да сямейнага спакою. Яе хобі – кветкаводства.

Вось як Лайма Паксене распавядае пра сваё знаёмства з будучым мужам:

«Гэта даўняя гісторыя. У мяне быў дзень народзінаў, мне спаўнялася дзевятнаццаць гадоў, прыйшлі сябры, і нехта прывёў Раландаса. Калі шчыра, тады ён зусім мяне не ўразіў, і ініцыятарам нашага сяброўства, а пазней і рамана, была не я, а ён. На той час Раландас вучыўся ў Ленінградскай акадэміі грамадзянскай авіяцыі і ўваходзіў у зборную Савецкага Саюза па паветранай акрабатыцы. І знайсці ў сваім шчыльным графіку тыдзень-другі для таго, каб прыехаць да мяне ў Вільню, схадзіць са мной у кіно альбо рэстаран, ён не мог. Таму мы пісалі адзін аднаму лісты. У нас быў сапраўдны раман у лістах. Раландас вельмі хацеў мяне зачараваць, нават вершы пісаў. Калі сабраць разам гэтыя лісты, атрымаецца даволі тоўстая кніга, я дагэтуль іх берагу. Так паступова я да яго прыніклася, і ўрэшце мы пажаніліся, хаця да вяселля мы бачыліся толькі чатыры разы. І вось ужо разам дваццаць гадоў».

Сужонцы маюць двух дзяцей: 19-гадовую дачку Інгу і 9-гадовага сына Міндоўгаса.

Як кажуць у Літве, Паксас перамог таму, што ён малады і энергічны. Ягоныя эфектныя акрабатычныя палёты і матацыклетныя ралі прыцягваюць да яго галасы тых, хто зняверыўся ў «старых, закасцянелых палітыках», альбо ўвогуле раней не зважаў на палітычнае жыццё ў сваёй краіне.

Ён імпануе і прыхільнікам палітыкі «цвёрдай рукі», і супердэмакратычнай хіповай моладзі адначасова. У параўнанні з Адамкусам, ён моцна выйграе сваім патрыятызмам. На першай пасля абрання прэс-канферэнцыі Паксас адмовіўся адказваць па-расейску на пытанні журналістаў расейскіх выданняў, тым самым паказаўшы, што Літва будзе незалежнай ад Расеі.

На думку аналітыкаў, усё грамадства Літвы падзялілася на два лагеры. Адна частка арыентаваная на кансэнсус, на існуючы ўклад, на «стабільнасць» (па тэрміналогіі апанентаў – «стагнацыю»), другая – на адмаўленне, пратэст, «палітыку перамен». Першая выбрала Адамкуса, другая – Паксаса.

Дарэчы, у буйных гарадах па колькасці прыхільнікаў лідзіраваў Валдас Адамкус. Так, у Вільні за Адамкуса прагаласавала на 16% больш, чым за Паксаса, а ў Каўнасе – на 35%.

Вынікі выбараў паказалі, што людзі ў правінцыі жывуць бядней, чым ў сталіцы, яны стаміліся ад «стабільнасці», і зняверыліся, што без пераменаў можна дабіцца адчувальных пазітыўных зменаў у сваім жыцці. Невыпадкова кіраўніца выбарчага штабу Паксаса Даля Куртанайтэ адзначыла: «У нас сёння дзве Літвы – Вільнюс і астатняя Літва».

Шмат хто, аналізуючы перадвыбарчыя паводзіны і абяцанні Паксаса, называюць яго папулістам. Міжволі параўноўваючы сітуацыю ў Літве з беларускай, некаторыя аналітыкі непакояцца, што новы прэзідэнт будзе спрабаваць павялічыць свае, у параўнанні з Беларуссю, зусім невялікія паўнамоцтвы, абмяжоўваючы ўладу Сейма. Ці маюць яны рацыю, пакажа час.

**Кацярына КАМОЦКАЯ**

# Жыццё нуварышаў

### Новазробленыя арыстакраты абзаводзяцца панскімі маёнткамі

Вакол Масквы збудаваны каля сотні сядзібаў, якія ўвасабляюць усе мары звышбагатых нуварышаў. Гатычныя брамы, задрапіраваныя паркалём гасціныя, паркетныя падлогі, набраныя з пяці пародаў дрэва, міфалагічныя барэльефы, каваныя бронзавыя фігуры, пано з напаўкаштоўных камянёў, басейны і сажалкі неаспрэчна нагадваюць расійскія арыстакратычныя сядзібы, якія зруйнавала рэвалюцыя 1917 года.

Шырока разрэкламаванае аднаўленне Царскасельскага палаца ў Санкт-Пецярбургу як афіцыйнай прэзідэнцкай рэзідэнцыі, якое абыйдзецца амаль у 200 мільёнаў даляраў, паскорыла бум будаўніцтва новых сядзіб. «Сёння непрыстойна быць бандытам, – гавораць прадстаўнікі фірмаў, што спецыялізуюцца на будаўніцтве палацаў для новых рускіх. – Сёння ўсе жадаюць быць арыстакратамі».

Бальшыня сядзіб збудавана ўздоўж Рублёва-Успенскай шашы, якая звязвае Маскву з багатым прадмесцем, дзе за апошнія 10 гадоў кошт зямлі вырас амаль у 10 разоў. Гэтая аўтамагістраль вядомая як «урадавая траса» яшчэ з савецкіх часоў, тады ёй карысталіся вышэйшыя чыноўнікі, якія жылі на дзяржаўных дачах. Але тыя іхнія дачы ў параўнанні з сённяшнімі навабудамі нуварышаў выглядаюць, як курныя хаты. Сёння гэтую магістраль абрамляюць фітнес-клубы і дарагія рэстараны накшталт «Царскага палявання», меню якога дакладна паўтарае царскія банкеты, і «Дачы», дзе стравы азіяцкай кухні падаюцца пад жывую музыку камернага аркестра.

Галоўны дом сядзібы, разам з мэбліроўкай і зямельным участкам, у тыпавым выпадку каштуе 3 мільёны даляраў. У больш багатых сядзібах маюцца асобныя дамы для гасцей і памяшканні для слуг і аховы. Маскоўская будаўнічая карпарацыя «КОНЦ» ўзвяла катэджны комплекс "Пакроўскае-Глебава" на тых былых прыватных землях, дзе гасцявала Кацярына Вялікая і дзе Леў Талстой сустрэў сваю сужоніцу. Таму фірма наўмысна рэкламуе гісторыю: у яе рэкламным буклеце гэты кандамініум называецца «арыстакратычным маёнткам 21-га стагоддзя» і адзначана, што абітальнікі могуць па праву менавацца «новымі арыстакратамі». Ужо прададзена 90% дамоў гэтага комплексу па коштах да 1 мільёна даляраў.

У спецыяльных часопісах, напоўненых фотаздымкамі сядзібных дамоў і палацаў, ніколі не ўбачыш фотаздымка іхніх гаспадароў. Часткова гэтая сціпласць тлумачыцца бояззю праяваў класавай неянавісці і непазбытым перакананнем, што тое, што адбылося ў 1917 годзе, можа паўтарыцца наноў.

**The New York Times**

# Прыбытковая знявага

Самай вялікай капітоўнасцю рэаліці-шоу новага пакалення становіцца знявага. Усе конкурсы, што мы бачылі па тэлевізары (накшталт "За шклом", «Апошні герой» ды ім падобныя), нішто ў параўнанні з тым, што цяпер рыхтуецца для публікі.

У бальшыні гэтых праектаў, якія рэалізуюць буйнейшыя амерыканскія тэлеканалы, галоўным прадуктам будзе ўніжэнне. Менавіта яно сёння лепш за ўсё прадаецца, толькі ўніжэнне можа прыцягнуць аўдыторыю, якую зусім не засмучаюць з кожным разам усё болей абразлівыя заданні, што выконваюць удзельнікі шоу.

У гэтым сэнсе асабліва паказальны прыклад з праграмай «Carthouse», якую павінен выпусціць у эфір канал HBO: у гэтай перадачы схаваныя камеры, усталяваныя ў адным з бардэляў Лос-Анджэлеса, будуць здымаць паходжанні кліентаў, якія прыбылі туды ў пошуках сексу. З пяцідзесяці «шчасліўцаў», якія займелі гонар быць знятымі на відэастужку, толькі тры адмовіліся падпісаць дакумент, які дазваляе трансляцыю запісаў па тэлебачанні. Сярод кліентаў бардэля апынулася адна сямейная пара, якая паасобку шукала прастытутку для атрымання адпаведных паслугаў, і маці, якая таргавалася аб коштах на сваю 22-гадовую дачку.

Іншую разнавіднасць знявагі прапануе праграма «Халасты». У гэтым рэаліці-шоу нейкаму маладому чалавеку трэба выбраць для сябе ідэальную дзяўчыну з 25 прэтэндэнтак, па чарзе адхіляючы адну за адной усіх астатніх канкурсантак. Самы апошні выпуск перадачы, калі герой выбіраў сабе пару з дзвюх фіналістак, глядзелі 26 мільёнаў гледачоў, якія атрымалі задавальненне не столькі ад радасці абранніцы, колькі ад горасных слёз публічна зняважанай адхіленай кандыдаткі. Канал Fox разглядае магчымасць запуску перадачы «Знясіленыя», удзельнікі якой павінны будуць выконваць разнастайныя заданні пасля таго, як прыдзецца не спаць цэлыя суткі. Канал ABC, у сваю чаргу, пакажа праграму «Тэстамент», у якой члены адной сям'і будуць спаборнічаць за права атрымаць спадчыну. Гэты ж канал дарабляе праграму, у якой будзе абраны самы сексуальны канкурсант. Дух праграмы цалкам адлюстроўвае яе назва «Ты сапраўды палкі?» Як кажа прадзюсер гэтай праграмы Майк Флейс: «Не трэба будзе нікому даказваць, наколькі ты таленавіты, не трэба ўмець спяваць, танцаваць. Адным словам, усё гэта – абсалютна не патрэбна. Трэба ўсяго толькі быць палкім».



**ABC**

# Гурт «Крама»: не здрадзім!

Калі слухаеш песні гурта «Крама», то разумееш крывадушнасць «бэтэшных» тэлерэдактараў, ды-джэяў мясцовых FM-станцый, «прадзюсераў», гандляроў аўдыёпрадукцыяй, што кажуць, маўляў, сярод беларускамоўных выканаўцаў няма сапраўдных зорак, а іх песні зусім не хітовыя, не могуць падабацца слухачам. Адказ скептыкам – кожны твор «Крамы» і яе аснoўнага кампазітара Ігара Варашкевіча, чые песні – стоадсоткавыя хіты, якія могуць упрыгожыць любую радыё- і тэлеперадачу. І тым не менш, «Краму» убачыць на нашым тэлебачанні ці пaслухаць на радыёхвалях можна вельмі рэдка. Усё больш усходне-саладжава-адстойнае...



Гурт «Крама» як сапраўдная фабрыка бударажачых мелодый прапануе слухачам цудоўную музыку на мяжы рок-н-рола, блюза і беларускага фальклору. Альбомы «Крамы» «Хворы на рок-н-рол», «Камендант», «Хавайся ў бульбу» быццам сучасныя падручнікі знаходзяцца ў фанатэцы кожнага маладога патрыёта Беларусі. Што рухае гэтымі музыкамі ўжо дваццаць гадоў, чаму яны ад альбома да альбома перадаюць слухачам павагу да роднай мовы, што для іх значыць спяваць пабеларуску? З гэтым пытаннямі мы звярнуліся да кіраўніка «Крамы» **Ігара Варашкевіча**, які сёння – госць нашай рэдакцыі.

– У творчасці «Крамы» беларуская мова займае, безумоўна, першае месца. Мы ніколі не адмовімся ад яе, нават, пры ўмове большага камерцыйнага поспеху. Такія намёкі і прапановы былі і тут у Беларусі, і ў Расеі. Ні адзін, ні два, а дзесяткі раз нам даводзілі: «Хлопцы, кідайце вы гэтую беларускую мову, спявайце па-расейску. Тады ўсё будзе ў парадку: будуць гастролі, будуць грошы». Але гэта было б супраць нашага сумлення і перакананняў!

Да й яшчэ з часоў майго грання ў «Бондзе» мы практыкуемся ў такой вясёлай гульні – для жарту перакладаем нашыя песні на расейскую мову. Атрымліваецца заўсёды вельмі перакана́уча: тое, што натуральна гучыць пабеларуску, абсалютна не мае сэнсу, калі агучваецца па-руску. Над гэтымі «практыкаваннямі» мы не толькі смяёмся. Але і прыходзім да высновы ў арганічнай спалучанасці нашай мовы і нашай музыкі. Гэта дае нам надзею і стымул для далейшай працы ў гурце «Крама».

**– Ігар, беларускамоўны рок-рух усё больш і больш набірае моцы: не здаюць сваіх пазіцый ветэраны, з'явілася шмат маладых камандаў, якія дэкларуюць сваю аддданасць патрыятычным прынцыпам. Чаго, на твой погляд, не хапае маладым музыкам, каб можна было цвёрда сказаць, што наш рок-рух мае трывалыя тылы?**

– Нашым маладым музыкантам не хапае ведання элементарных азоў рок-н-рола. Калі чалавек бярэ ў рукі гітару і прыдумвае нешта такое, што да яго вынайдзена гадоў 50 таму, то гэта выглядае смешна. Калі я гляджу на некаторых сучасных «рок-выканаўцаў», то ўзгадваю ВІА з ПТВ ў 70-я гады – тыя самыя дрэнныя гітары, такая ж дрэнная музыка і гук... Але гэта і сумна, бо на дварэ XXI стагоддзе! А яшчэ пытаюцца: «Ну як?» Што я магу адказаць? Толькі тое, што трэба вучыцца рок-н-ролу ад печкі!

**– Канешне, шмат залежыць ад музыкаў, ад іх выканаўчага майстэрства. Але на што яшчэ трэба звяртаць увагу, каб беларускамоўная музыка даходзіла да слухачоў?**

– Можа, не ўсё залежыць ад СМІ, але многае. Бо беларускамоўную музыку ў Беларусі пабачыць ці пачуць амаль немагчыма. Гэта вялікая рэдкасць. Напрыклад, музыку гурта «Крама» бывае «круцяць» толькі на «Радыё Рокс» ды аднойчы на тэлебачанні далі ўрывак з канцэрту. Кліпаў няма, бо няма тых, хто мог бы ахвяраваць сродкі на іх здымкі.

**– Ігар, у які бок – усходні ці заходні – будзе рухацца «Крама» ў будучым»?**

– Раней я думаў, што «Крама» будзе рухацца толькі ў заходнім напрамку. Потым пойдзе на ўсход. Зараз, у прынцыпе, мне ўсё роўна. Мне аднолькава цікава з'ездзіць у Расею ці, напрыклад, ў Польшчу. Вось не так даўно мы вярнуліся з фестывалю, што адбыўся ў гэтай краіне. Там мы атрымалі спецыяльны прыз. Гэта ўзнагарода, з аднаго боку, выпадковая, з другога – не вельмі. Яе мы атрымалі на міжнародным экалагічным фестывалі «Мікрасфера», што прайшоў на польскім баку Белавежжа. Яго арганізатар-польскі рок-музыкант і бізнесмен Ігор Яшчук, знаёмы мне яшчэ па люблінскаму рок-гурту «ВВК». На прызе можна прачытаць надпіс: «Гурту «Крама» з Беларусі за прапаганду беларускай мовы і культуры за мяжой і на радзіме». Парадокс у тым, што гэтую ўзнагароду мы атрымалі не ад беларусаў, а ад палякаў! Значыць, і там разумеюць, што робіць «Крама» для Беларусі.

**– Ігар, якім чынам нараджаюцца твае песні? Ці ёсць у цябе сярод іх любімы твор?**

– Ды яны самі сабой нараджаюцца! Зараз такі перыяд, што яны не нараджаюцца ўвогуле. І з гэтым я зрабіць нічога не магу. Нешта раблю, але, магчыма, трошкі штучна. Шкада, але ранейшага натхнення няма. На жаль, ёсць нейкая расчараванасць у жыцці. Да таго ж, каля 20–30 песень яшчэ нават не запісана. Паколькі слухачы сёння патрабуюць музыкі больш экстрэмальнай, то мне здаецца, што такая музыка, якую ствараю я, нікому не цікавая.

Праўда, разам з кантры-гітарыстам Віктарам Маўчанавым, які вядомы па працы ў «Песнярах», мы запісалі адну песню. Цяпер яна знаходзіцца ў ратацыі на «Радыё Рокс», дзе прэзентуецца як новы твор «Крамы». Хоць гэта не зусім так. Ёсць новая песня «Баба Маня», якая ўжо запісана і хутка стане знаёмай слухачам па радыётрансляцыях. Але гэта не «крамаўская» творчасць у поўным сэнсе слова, а адна з яе старонак.

Да ўсяго гэтага я адношуся са сціпласцю. З Віктарам мы ўсё робім павольна, а таму імкнемся да якасці ў музыцы, а не ганяемся за модай. Мне цяпер гэта не цікава папросту.

Паспяваўшы рок-н-рольныя, блюзавыя ды джазавыя стандарты ў гурце «Blues street friends», напрыклад, песні гурта «Бі Джыз», я зразумеў, што вакол нас акіян цудоўнай музыкі: напісана столькі цікавых і прыгожых мелодый, што ствараць нешта сваё трэба абавязкова з аглядкай на якасць і густ у выкананні.

Таму, дарэчы, на сёння любімая песня – «Падае дождж». Але заўсёды ў мяне любімыя песні не тыя, што становяцца хітамі!

**– Што цябе хвалюе апошнім часам і ці будуць гэтыя хваляванні адлюстраваныя ў тваіх новых песнях?**

– У апошні час мяне хвалюе лёс Беларусі. Хоць гэта і гучыць банальна. Не хачу быць песімістам, але адчуваю, што робіцца нешта не тое з суверэнітэтам краіны, з дэмакратыяй, з беларускай мовай. Я цікаўлюся палітыкай і прыйшоў да высновы, што ўвесь беларускі народ стаўся аб'ектам нядобрасумленнай палітычнай гульні.

**– Ігар, ці можна казаць пра «Краму»-2002 як пра каманду аднадумцаў?**

– Мы былі і застаёмся сябрамі. Але няма таго, што было раней, калі мы былі маладыя – калі шмат сустракаліся, пілі піва, спрачаліся. Цяпер у нас усё адбываецца больш сціпла, але затое больш прафесійна. Усяму свой час!

**Гутарыў Анатоль МЯЛЬГУЙ**

# Беларускі хард-кор

Экстрэмальны час спараджае сваю эстэтыку, поўную нязвыклых фарбаў, выяўленчых сродкаў ды рытмаў. Музычны экстрым у апошні час стаў адным з самых заўважных сацыякультурных з'яў сучаснасці. І на гэтым шляху прыхільнікаў гэтага музычнага адгалінавання, якое ўзнікла як супрацьвага саладжавай поп-бязглуздзіцы і камерцыйнаму року, будуць чакаць і новыя адкрыцці, і новыя расчараванні.

Бадай, самым прагназаваным у мінулым годзе стаў поспех мінскага хард-корг-гурта «Partyzone». Менавіта гэты гурт паводле мінулагодніх выступаў быў названы адным з самых перспектыўных у экстрэмальным кірунку беларускай рок-музыкі. Гэта тлумачыцца тым, што ў складзе яго сапраўды класныя музыкі, якія прайшлі добрую выканаўчую школу hard і metal-року ў беларускамоўных гуртах «Aquamorta», «Vir», «Impett». Прынамсі, адзін з іх – гітарыст Яўген Цылікаў і стаў завадатарам цікавага экстрэмальнага праекту, які названы «Partyzone» – што адпавядае назве «зона вечарынкі».

Успомнім, што гурт «Partyzone» – уладальнік галоўнага прыза мінулагодняга супер-рок-фэста «Басовішча». Гран-пры дазволіў музыкам запісаць на беластоцкай студыі «Hertz» сінгл і выдаць яго на фірме «Magton». Але музыкі ў гэтым годзе вырашылі працягнуць свае намаганні ў галіне грамзапісу: з дапамогай выдавецкай суполкі ВМАгруп выдаць першы альбом гурта «Трэба рабіць».

Дык што сабой уяўляе беларуская фанаграфічная навінка? Перш за ўсё адзначым тое, што музыкі гурта «Partyzone» прапануюць слухачам канцэптуальную кружэлку з хітовай музыкай і выразна сатырычнымі тэкстамі. І гэтая танальнасць задаецца галоўнай песняй альбому «Трэба рабіць!».

Музыкі небеспаспяхова спрабуюць пераўсці і да вельмі складаных тэмаў самаспазнання і самаідэнтыфікацыі. Разгарнуўшы буклет дыска і паразважаўшы над тэкстамі песень гурта, можна канстатаваць, што «Partyzone» можа быць вельмі сур'ёзным і ўздымаць нешэраговыя тэмы ў сваіх кампазіцыях. Гэткая рознабаковасць – вялікі плюс, бо ўвесь час у музыцы і тэкстах беларускага гурта можна знайсці новыя фарбы і адценні. «Partyzone» – гурт не прымітыўны ў сваёй прамалінейнасці, а каманда самадастатковых творцаў і выканаўцаў, якім не бракуе фантазіі. І самымі пераканаўчымі творамі гэтага шэрагу трэба назваць песні «Хто я?» і «Завіруха»...

У музычным плане гурт «Partyzone» прытрымліваецца арыентацыі на экстрэмальную музычную плынь – хард-кор. Але ідзе да яго рытмікі і канонаў не традыцыйна праз рэп, а праз рок-н-рол. Гэта адчуваецца ў такіх песнях, як «Не чапай мяне», «Дадому»... І параўнанне, якое робіцца з гуртом «Rammstein», тут падаецца не зусім карэктным. Бо нямецкія калегі па экстрымстылістыцы да сённяшняга поспеху ідуць праз эстэтыку нямецкага экспрэсіянізму і індустрыяльнай музыкі. Хоць, канешне, цягучае гітарнае гучанне «Partyzone», хітовыя мелодыі, неардынарныя вакальныя магчымасці Дзяніса Вячэрскага робяць гурт адной з перспектыўных каманд гэтага напрамку ў Беларусі.

Для патэнцыяльных пакупнікоў навінкі-дыска гурта «Partyzone» «Трэба рабіць» хачу паведаміць, што яго трэкі змяшчаюць нямала сюрпрызаў. Маю на ўвазе, цэлую фотагалерэю з канцэртнага жыцця каманды, яе выступу на фестывалі «Басовішча», на прэзентацыі дыска «Hardcoremaніа: чаду!». З таго ж канцэрта прапануецца life-video з «жывым» выкананнем песні «Завіруха», а таксама бонус «Трэба рабіць» з пераможнага канцэрта на «Басовішчы»..



**Анатоль Мяльгуй**

# Паўкняства за «каня»!

Для большасці людзей машыны – усё-такі сродак перасоўвання. Але ёсць аўтааматары, для каго гэта яшчэ і прадмет раскошы. Ды яшчэ якой!

Паглядзім на апублікаваны ў сусветнай прэсе рэйтынг самых дарагіх марак аўтамабіляў, якія мусяць з'явіцца ў продажы ў 2003 годзе. Каштуюць яны столькі, што большасці беларусаў і за некалькі жыццяў не зарабіць.

### У іх

Самай дарагой машынай у свеце сёлета будзе італьянскі **Bugatti Veyron.** Яго кошт складзе 750 тысяч даляраў. Калі вы раптам паклалі вока на гэты суперкар, на ўсялякі выпадак паведамім, што ён паступіць у сусветны продаж увесну 2003 года.

Другое месца ў спісе звышдарагіх аўто займае таксама італьянскі **Ferrari Enzo**, які будзе каштаваць крыху менш за 652 тысячы даляраў. На трэцяй прыступцы ўслед за італьянскімі аўто ідзе амерыканскі Saleen S7 па сціплым у параўнанні з імі кошце ў 395 тысяч даляраў.

Далей у рэйтынгу самых дарагіх аўтамабіляў свету размясціліся больш дасягальныя **Porsche Carrera** за 375 тысяч даляраў, **Lamborghini Murcielago** – за 273 тысячы , **Mercedes-Benz SLR** – за 250 тысяч, **Aston Martin Vangush** – за 234 тысячы, **Ferrari Maranello** – за 231 тысячу даляраў.

Натуральна, што гэта элітарныя машыны, і вялікага попыту на іх не будзе. Тым не менш усе яны будуць пастаўленыя на серыйную вытворчасць, але, што праўда, вельмі ненадоўга і з абмежаваным тыражом. Іх выраблюць адмыслова дзеля багацеяў і калекцыянераў усяго па некалькі соцень.

Крыху аб першай тройцы згаданага рэйтынгу суперкараў. Яны, у прынцыпе, належаць да класу спартовых аўто, але адаптаваныя і для звычайных дарог. На самым дарагім аўтамабілі ў свеце Bugatti Veyron стаіць рухавік фантастычнай магутнасці – **1001 конская сіла**. Гэта дае магчымасць дасягнуць хуткасці 100 кіламетраў у гадзіну ўсяго толькі за тры секунды. Да 300 км/г машына разганяецца за 14 секундаў. Максімальная хуткасць Bugatti Veyron – **406 км/г.** Дастаткова аднаго факту, каб зразумець, што гэта сапраўды суперкар: магутнасць рухавіка гэтага аўтамабіля аналагічная магутнасці рухавікоў, што выкарыстоўвалі ў будаўніцтве самалётаў-знішчальнікаў у часы Другой сусветнай вайны.

Суперкар Ferrari Enzo названы так у гонар заснавальніка фірмы Энца Феррары. Стваральнікі гэтага аўто кажуць, што ён уяўляе з сябе дарожную версію балідаў, якія бяруць удзел у гонках Формулы-1. У гэтага аўто празрыстая задняя крышка, праз якую можна глядзець на рухавік, не падымаючы яе. Магутнасць рухавіка – 650 конскіх сілаў, а хуткасць Ferrari Enzo развівае да 350 км/г. Усяго будзе выраблена 399 аўто гэтай мадэлі, прычым 80% замоваў прынятыя на класічны колер Ferrari – чырвоны.

**Saleen S7** мае рухавік магутнасцю 550 конскіх сілаў. Машына разганяецца да 100 км/г менш, як за чатыры секунды, а ейная максімальная хуткасць – 320 км/г. Кузаўныя дэталі зроблены з вуглепластыку. У Saleen S7 таксама выкарыстоўваюцца і шмат іншых незвычайных матэрыялаў: тытан выкарыстаны для вытворчасці фіксатараў, берылій – для выпускных клапанаў, алюміній – для галовак цыліндраў. Ёсць у Saleen S7 яшчэ дзве цікавыя ўласцівасці – гэта відэаманітор замест люстэрка задняга віду і здымны руль, каб даць палёгку пры пасадцы ў гэтае аўто, якое вышынёй усяго 80 см.



Bugatti Veyron

### У нас

А якія шыкоўныя сродкі перасоўвання і за якія грошы купляюцца ў нашай краіне? Хіба не цікава? Мы вырашылі даведацца пра гэта ў афіцыйных дылераў сусветных аўтамабільных карпарацый у Беларусі.

Некаторыя дылеры, як, напрыклад, «Таёты» і «Ауды», далікатна адмовіліся адказваць на пытанне, які самы дарагі аўтамабіль яны прадалі ў 2002 годзе. У іншых аўтасалонах расказалі пра сваіх лідэраў продажу. Аказалася, што дарагія аўто беларусы ўсё-такі купляюць, але вельмі рэдка, і такія машыны прывозяцца толькі пад заказ.

На першым месцы апынуўся **Mersedes-Benz SL 500**, за які нейкі беларус-куркуль не пашкадаваў аддаць ажно 120 тысяч еўра! Можа быць, і вы бачылі гэты аўтамабіль на выставе «Мотаршоу» – з адкідным верхам, які падымаецца і складаецца электрапрываdам усяго за 16 секунд, з суперсядзеннямі, аздобленымі вентылятарамі і масажорам. Ёсць тут яшчэ і такі, як кажуць, «наварот» кштальту круіз-кантролю, які аўтаматычна падтрымлівае пэўную дыстанцыю ад машыны, што едзе наперадзе. Карацей, не машына, а казка! Звычайны ключ запальвання ў Mersedes-Benz SL 500 замяняе пластыкавая картка, якую нават не трэба вымаць з кішэні: машына «пазнае» свайго ўладальніка на адлегласці і сама аўтаматычна адмыкае замок, а пры націсканні на адмысловую кнопку запускаецца рухавік.

Сярод **Volkswagen** самымі дарагімі аўто, якія былі прададзеныя ў 2002 годзе ў Беларусі, стала мадэль **Caravelle**. У гэтым годзе нехта з нашых суайчыннікаў набыў адзін з гэтых камфартабельных мікрааўтобусаў. Каштуе ён каля 60 тысяч даляраў. Джып-пазадарожнік **Mitsubishi Pajero** японцы стварылі нібыта адмыслова для нашых дарог, а дакладней, бездарожжа. Таму і 37 тысяч даляраў за гэтую машыну выкласці зусім не шкада... калі яны маюцца, і з імі лёгка расстацца. Адзін з нябедных беларусаў так і зрабіў. Далей сярод самых дарагіх і прададзеных у нас аўто ідзе **Alfa Romeo 166**, за якую нехта, не раздумваючы, адлічыў 26 тысяч даляраў, столькі ж нейкі багацей выклаў за **Opel Omega Executive**.

Жывуць жа людзі!

**Мар'ян КАРЫМОНТ**

# *Прынцэса корта*

Мэрылін Манро не атрымала ніводнага Оскара, але стала сапраўднай легендай, пакарыўшы гледачоў не толькі сваімі акцёрскімі здольнасцямі. 21-гадовая Ганна Курнікава не выйграла ніводнага буйнога тэніснага турніру, а яе найлепшым дасягненнем можна лічыць вагу 55,5 кг пры росце 173 см. У сусветнай класіфікацыі тэніса Курнікава займае сціплую 35-ю пазіцыю.

Аднак у 2002 годзе Ганна стала той жанчынай планеты, якую найчасцей фатаграфуюць. Яе можна лічыць паўнаўладнай каралевай Інтэрнэту (пошукавая сістэма «Yahoo!» прапануе 422.000 узгадак імя тэнісісткі ў сеціве, «Google» – 410.000, «AltaVista» – 297.000 узгадак). Па сеціве гуляюць 13.000 фальшывых выяваў тэнісісткі ў голым выглядзе, яе імя скарыстана ў якасці прынады ў адным з камп'ютэрных вірусаў, група «Binge» прысвяціла ёй песню, часопіс «People» некалькі гадоў запар называе яе сярод самых прыгожых людзей планеты.

Курнікавай удалося з дзяўчынкі а-ля Пепі-Даўгая Панчоха ператварыцца ў белакурую грэчаскую багіню з ракеткай у руках – стромкую дзяўчыну з ідэальным целам і тварам. Наведваючы тэнісныя турніры, гледачы прыходзяць глядзець не на яе гульню, а на саму тэнісістку, на тое, як яна рухаецца па корце, на яе караоценькія спартыўныя спаднічкі і шорты, спецыяльна апранутыя так, каб выставіць напаказ лепшае цела тэніса нашага часу. Курнікаву любяць тэлекамеры. А гэтая любоў азначае грошы, і таму арганізатары ўсіх тэнісных турніраў прагнуць бачыць яе на сваіх кортах і ствараюць дадатковыя месцы для гледачоў.

Спартыўныя дасягненні прыносяць Курнікавай не надта высокі даход (з 1995 года яна зарабіла ўсяго толькі 3,5 мільёны еўра), а вось рэкламныя кампаніі і прадпрымальніцкая дзейнасць дазваляюць гэтай маладой асобе жыць падобна сапраўднай каралеве. Курнікава – твар фірмы «Adidas», ад якой яна штогод атрымлівае 3,3 мільёна еўра, яна рэкламуе гадзіннікі Rolex (за 1,6 мільёна еўра на год) і джынсы Wrangler. Курнікава рэкламавала бялізну, за што атрымала 2,5 мільёны еўра. Слаганом той рэкламнай кампаніі была фраза: «На корце павінен рухацца толькі мяч». Тэнісістка мае ўласны інтэрнэт-магазін, спрабуе сябе ў мадэльным бізнесе, бо, пакінуўшы тэніс (не раней, чым здзейсніцца яе мара «жаночы тэніс павінен стаць больш прывабным, чым мужчынскі»), яна збіраецца стаць манекеншчыцай і некалькі разоў ужо выходзіла на подыум. У планах Курнікавай і акцёрская кар'ера: разам з Джымам Керы яна знялася ў эпізадычнай ролі ў фільме «Я, зноўку я і Ірэн», хоць ёй і не ўдалося стаць чарговай каханкай Джэймса Бонда.



У прэсе нярэдка з'яўляюцца апоівяды аб амурных стасунках гэтай Афрадыты ад тэнісу, хоць часцей за ўсё гэта – непацверджаныя чуткі. Па сцвярджэнні самой Курнікавай, мужчына яе мары – гэта акцёр Мэт Дэйман, але Курнікава дала сябе спакусіць спевам бесклапотнага юнака Энрыке Іглесіяса. Падобна Курнікавай, Іглесіяс направа і налева крычэў пра бязгрэшнасць іхніх адносінаў, але рэакцыяй на такія заявы былі толькі кплівыя насмешкі. Усё было прадказальна, а сам спявак зрабіў усё, каб Курнікаву знялі ў відэакліпе, у якім ён выконвае песню «Escape». Прыдуманыя сцэны з кліпа сталі рэальнасцю. З'явіліся паведамленні аб палкай сустрэчы двух каханкаў у нейкім лонданскім гатэлі. Курнікава з Іглесіасам разам з'яўляюцца на розных вечарынах, аднак, захоўваючы прыстойнасць, жывуць у Маямі ў розных дамах, праўда, суседніх. Такім чынам ім удаецца скрываць свае адносіны ад цікаўных, а Курнікава можа працягваць сваю аддананасць дзіцячым забаўкам – папаўняць калекцыю лялек, якія яна набывае ва ўсіх гарадах, куды прыязджае.

**El Periodico**

**Падпісны індэкс 63773**

Новы Час
Галоўны рэдактар
Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13
E-mail: nchas@promedia.by

Рэдактар нумару Канстанцін Тарасаў
Камп'ютэрная вёрстка Андрэй Дзегцяроў
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні ТДА «Знамение».
220004, Мінск, вул. Кальварыйская, 24. Замова № 38
Падпісана да друку 20.01.2003 (12:00).
Наклад 1 750 асобнікаў.
Газету можна атрымаць у сядзібе ТБМ па адрасе: Мінск, вул. Румянцава, 13